# крыніца

4
1988

ISSN 0234—1379



АФГАНІСТАН: Каля ледзяных гор

ФРАНЦ КАФКА: Таямнічы багамолец

*ПАЗІЦЫЯ: Дзень адкрытых сэрцаў*

СПОРТ: Каралі і пешкі

ПАТРАБУЕЦЦА ГЕРОЙ НАШАГА ЧАСУ!









**ВЯСНА НАДЗЕЙ**

Фотарэпартаж з Афганістана
(гл. на стар. 20)



**ЛЁС**
**АЛЯКСАНДРА ІСАЧОВА**

(гл. на стар. 27)



# ЗБУДАВАЦЬ— КАБ РАЗБУРЫЦЬ?..

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**крыніца**

№ 4
1988

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай
і беларускай мовах

ПІШЫЦЕ:
220807
г. Мінск, ГСП,
вул. Кісялёва, 11

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 17.02.88.
Падпісана да друку 24.03.88.
АТ 07051.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк.
Ум. фарб.-адб. 18.
Ул.-выд. арк. 8,9.
Зак. 793.
Тыраж 16 619 экз.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79



Мал. Канстанціна ВАШЧАНКІ



## НА РАЗДАРОЖЖЫ

У 1983 годзе я трапіў за краты. Здарылася гэта пры такіх абставінах: вяртаўся з кіно, дарогу, папрасіўшы закурыць, перакрылі два нецвярозыя хлопцы.

«Не куру»,— адказаў я і адразу ж адчуў удар у твар, потым яшчэ. Калі яны збілі мяне на зямлю, зразумеў, што літасці ад іх не дачакаешся, знявечаць. Намацаў у кішэні сцізорык, адкрыў яго і стаў наносіць удары ў адказ. Потым высветлілася, што прабіў аднаму з хлопцаў лёгкія. Ці вінаваты я? Следчы пераконваў, што калі б я адбіваўся кулакамі, значыцца, усё было б у парадку, а раз нож, дык сядзі. Паспрабаваў бы следчы апынуцца на маім месцы... Але я не пра гэта. Магчыма, мяне трэба было судзіць, але не пазбаўляць волі. Бо глядзіце, што атрымалася. Дваццацідвухгадовы хлопец, нядаўні ваенны марак, я проста не падазраваў, што можа існаваць такая дрэнь, што мне прыйдзецца з ёю сутыкнуцца і я буду бяссільны. У следчым ізалятары са мною ў камеры апынуліся раней асуджаныя, якія бравіравалі слаўным турэмным мінулым і раўніва аберагалі «законы і звычаі». Коратка іх можна назваць так: «Або ўсіх грызі, або сам ляжы ў гразі». Там няма месца міласэрнасці і звычайным чалавечым пачуццям. Усім кіруе кулак. Можна забраць перадачу ў слабога, можна і трэба прынізіць і, вядома, неадкладна зламаць любое супраціўленне. Адміністрацыя ізалятара на ўсё — нуль увагі. Хоць, здаецца, ёсць сярод іх і асобы, якія лічацца выхавацелямі. Але гэта блеф. У камерах пануе самавольства. Ніколі не забуду, як мучыўся зусім яшчэ малады хлопец, якога ўся гэтая зграя аднойчы ноччу згвалціла. І ніхто не мог дапамагчы: крымінальнікі разам сцяною стаяць. Пра абразы і зубатычыны, якія яны шчодра раздаюць усім запар, я і не кажу. Пабыўшы месяц-другі ў такой кампаніі, і сам робішся міжволі нашмат горшы. Дні ж праходзяць у пошлых анекдотах, сальных расказах, мацюканні, грубасці. Карацей кажучы, чакаеш суда як надзею на лепшыя перамены. Але потым не лепш. Грубы канвой, дзе васемнаццацігадовыя яфрэйтары адчуваюць сябе гаспадарамі жыцця, стамляльныя этапы. Вядома, гэта часова. Галоўнае — калонія, дзе ўсё, з чым сутыкаецца чалавек у следчым ізалятары, памнажаецца на цяжкую працу. Я разумею: злачынцам павінны ствараццa ўмовы, далёкія ад санітарнага рэжыму, але мой вопыт дазваляе сцвярджаць, што сёння месцы зняволення не спрыяюць перавыхаванню. Па-першае, у іх пануюць тыя ж «законы тайгі», заснаваныя на праве моцнага. «Зграі» крымінальнікаў, якія не ведаюць жалю, жорсткія і звязаныя кругавою парукаю, зневажаюць асуджаных, здзекуюцца. Сапраўдным бічом калоній стаў гомасексуалізм. І пры гэтым малапрадукцыйная праца, якой займаюцца, на жаль, зусім не ўсе. Буйныя спекулянты і іншыя «грашовыя мяшкі» ўмудраюцца і ў зоне знайсці сабе «рабоў», якія за грошы робяць ім норму. А шляхоў пранікнення грошай у зону тысяча. Асабліва грашаць гэтым вольнанаёмныя супрацоўнікі, якія лёгка клююць на выгадныя прапановы ад зняволеных. Увогуле за грошы ў калоніі можна ўсё. Я не перабольшваю. І калі нехта заплюшчвае на гэта вочы — значыцца, проста не хоча прынцыпова разабрацца ў прычынах многіх жудасных рэчаў, якія маюць месца ў ППК. І вось уявіце, што трапляе ў гэтае асяроддзе нармальны хлопец — крымінальнікі ніколі не пакінуць яго ў спакоі. Або прымусяць згуляць «пад інтарэс», або прыдумаюць якую-небудзь «пастку» (на гэта яны мастакі). Карацей кажучы, падпарадкоўваюць уплыву. Прысаромяць: што ты, маўляў, за «мужык», калі ў карцэры не пабываў? Надломіцца хлопец, парушыць лагерную дысцыпліну, каб быць «не лепшым за іншых». А крымінальнікам толькі гэта і трэба. Адразу ж возьмуць у абарот: «На табе спагнанне—значыцца, умоўнага датэрміновага вызвалення не дачакаешся. Цяпер адна дарога — з намі». Так і заблытаюць, дзе прымусам, а дзе «рамантыкай» — наколкі зробяць, чыфірам пачастуюць, заступяцца дзе-небудзь. І паплыў хлопец па крывой хвалі. Калі скончыцца тэрмін, можна быць цвёрда ўпэўненым, што сябрукі яго ўжо чакаюць, угавораць «надламаць» краму ці «хату»... Вядома, розныя ёсць людзі за кратамі, але я лічу, што моладзь трэба як мага больш рашуча не дапускаць да зоны. Бо калонія, нават агульнага рэжыму,— гэта шлях да рэцыдывізму. Пішу пра гэта таму, што цяпер знаходжуся на раздарожжы. Вызваліўся, уладкаваўся на працу, а «кенты» што ні дзень прыходзяць, запрашаюць, потым пагражаюць. А я не хачу назад. Выбачайце за доўгую споведзь, лічу яе важнаю для сябе і іншых.

г. Мінск **Віктар М.**

## НЕНАВІДЖУ!

Учора зноў было тое ж самае. Вярнулася я дамоў, яна стаіць у вітальні і трымае ў руках ручнік, скручаны тоўстым жгутом. Праўда, біць не асмелілася. Можа, зразумела па маіх вачах, што буду адбівацца. Я пайшла да сябе, а яна доўга плакала ў сваім пакоі. Але я не шкадавала. Я яе ненавіджу. А пачалося гэта два гады назад, калі яна забараніла мне рабіць макіяж. Крыўдна стала. Ва ўсіх дзяўчынак на твары касметыка, а мне што? Сорамна было перад сяброўкамі. Потым усе гэтыя бясконцыя стогны наконт грошай. Я ў яе прашу новую куртку, а яна ажно з твару мяняецца. Хаця каштуе нядорага — усяго сто пяцьдзесят рублёў. Тое ж самае і з ботамі, завушніцамі. Толькі і ведае, што папракае. А я ёй кажу, што раз не можаш утрымліваць, як іншыя, не трэба было раджаць. Вы ўжо зразумелі, што я гавару пра сваю маці. Не складваюцца ў мяне з ёю адносіны, не разумее яна мяне. У іншых дзяўчынак бацькі — людзі сучасныя: не звяртаюць увагі калі дачка прыйшла, курыла ці не. Я думаю, што ў маёй гэта ад убоства думак, усё жыццё ішачыла на сваёй ткацкай, усіх чэша пад адзін грэбень. А я хачу жыць не так, як яна, а прыгожа. Пасля школы выйду замуж, калі пашанцуе, за іншаземца. А што? Толькі давайце без ханжаства. Па-мойму, кожны хоча жыць прыгожа. А маці менціць пра гонар і ўсё такое. Ведала б яна, што з гэтым гонарам так і прастаіш ля сценкі на дыскатэцы. Хлопчыкі такіх ва ўпор не бачаць. Таму я кажу не віхляючы: я чалавек сучасны, а розную лухту наконт ранняй цяжарнасці няхай слухаюць вяскоўцы. Можа, ім гэта карысна. А з маці жыць не хачу.

г. Магілёў **Анжэла**

## ЧЫТАЙЦЕ І ЗАЙЗДРОСЦЕ!

Апошнім часам надта ўжо шмат сталі гаварыць пра нацыянальныя праблемы. Нават з нейкім надрывам. Мне гэта здаецца няправільным, а ў некаторых выпадках нават шкодным. Вось нядаўна чытаю ў часопісе «Здароўе» так званыя «шлюбныя аб'явы». І нават гідка стала. Амаль у кожным удакладненне: «я татарын», «я руская». Маўляў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей просім не турбаваць. Ды каб жа толькі ў часопісе. Быў нядаўна ў Душанбе, пазнаёміўся з добрым хлопцам, а ў яго трагедыя. Каханую дзяўчыну радня не аддае за яго замуж. Так вось і кажуць: «Чужы». Як гэта разумець, няўжо ў нашай краіне могуць быць «чужыя людзі»? Мы ж перш за ўсё савецкія. Але гэта, як я пачынаю разумець, не ўсім дадзена ўцяміць. З пранафталіненых куфэрачкаў выцягваюцца брыдзенькія думкі і пачуцці. Гэтая нацыя, маўляў, добрая, тая — нікуды не вартая, пра яе і анекдот можна расказаць і хіхікнуць. Я морду б набіў тым, хто выдумаў усё гэтае паскудства пра чукчаў. Як толькі не сорамна! Я з хлопцам з Уэлена ў адным узводзе служыў. Золата, а не хлопец, з ім і ў агонь і ў ваду. А нехта анекдоты расказвае. І не падабаецца яшчэ, калі нехта б'е сябе ў грудзі і кажа: «Я рускі і гэтым ганаруся». Або іншай нацыянальнасці чалавек гэтаксама ж заяўляе. Вядома, ганарыся, калі няма чым іншым. Толькі, як казаў Маякоўскі, «у советских собственная гордость», спярша нам трэба ганарыцца тым, што мы — савецкія людзі, нябачаная раней на Зямлі супольнасць, спаяная рэвалюцыяй і крывёю лепшых, тых, хто загінуў за гонар і незалежнасць нашай Радзімы. А то што ж выходзіць? Уяўляеце сабе падводную лодку, дзе ўсе ў адным адсеку ганарацца сваёй нацыянальнасцю? Мне здаецца, што такая лодка доўга не паваюе, бо спачатку трэба любіць краіну, увесь савецкі народ, а потым ужо ўсё астатняе. Ведаю, што такі пункт гледжання падабаецца не ўсім, што нехта прачытае гэта і пачне разважаць пра нігілізм. Дарэчы, не люблю гэтае слоўца, недарма ім яшчэ ў мінулым стагоддзі цкавалі рэвалюцыйных дэмакратаў. Але я пра другое. Вельмі балюча было бачыць, як у нашую роту прыходзілі хлопцы з Эстоніі і Казахстана і адчувалі сябе глуханямымі. Па-руску не ведалі, як кажуць, ані слова. Хоць пэўна ўжо лічылі сябе патрыётамі свайго краю: дзе ўбачаць свайго земляка — адразу да яго. За два гады яны, вядома, прайшлі добрую школу, але я ўяўляю, што здарылася б, калі б яны з дому і адразу ў складаную сітуацыю, абараняць Айчыну. Каму патрэбныя такія салдаты? Адказ ясны. Магчыма, тое, што я кажу,— крайнасць, але слова «нацыянальны» ў нас стала сустракацца ледзь не ў кожным радку, а вось «інтэрнацыянальны» нашмат радзей, дый тое пераважна ў дачыненні да пытанняў замежнага жыцця. Вось чаму распаўсюджваюцца брыдзенькія анекдоты, узмацняеццца нацыяналізм на побытавым узроўні, а ў выніку здараюцца алмаацінскія падзеі. Няхай мяне пераканаюць, калі я не маю рацыі, але мне дарагія гэтыя словы: «Читайте, завидуйте, я — гражданин Советского Союза». Не нацыяналіст, не касмапаліт, а просты савецкі чалавек.

г. Брэст **А. ЮРЧУК,**
**камсамолец**



# ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

СЛЯДЫ НА ЗЯМЛІ




Вольга ЯГОРАВА

# ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ КАНТРАСТЫ

**Так ужо атрымалася, што большасць запісаў у маім дзённіку, які вяду пастаянна, — вясковыя. Адсюль, бадай, і больш пільная ўвага да сучаснай вёскі, і асаблівая да яе любоў — цяпер ужо назаўсёды. Бо дзённік — гэта і адкрыцці, і сумненні, а галоўнае, вядома, тое, пра што нельга не пісаць...**

**АЎТАР**

## СПРЭЧКА АБ ГАЛОЎНЫМ

Спрачаюцца два Героі Сацыялістычнай Працы. Катэгарычна не згаджаюцца адзін з адным. Спрачаюцца да хрыпаты. І ўсё ж, разумею я раптам, абодва яны... маюць рацыю. Проста кожны па-свойму абараняе гаспадарскую душу — аснову асноў сялянскага быцця. Старшыня калгаса «XVII партз'езд», што на Магілёўшчыне, Іван Ігнатавіч Мельнік абараняе калектыўную сістэму вядзення гаспадаркі. Вядомы бульбавод з калгаса «Узыход» з Міншчыны Канстанцін Васільевіч Шавель — за сямейны падрад. Яго кумір — «архангельскі мужык», а галоўны аргумент — паэзія сялянскай працы, выхаванне чалавека прыгажосцю работы.

Але ёсць у іх гарачай спрэчцы і адзінае, агульнае, інакш і быць не магло,— трывога за тое, каб сучасны малады чалавек не ператварыўся з гаспадара зямлі ў дармаеда. Самае страшнае, калі прыгажосць душы перастае супадаць з прыгажосцю прыроды і з прыгажосцю працы. Няважна дзе — у полі, на ферме ці за пультам ЭВМ, у крэсле старшыні. Тут Шавель з Мельнікам аднадушныя: бязмозглыя, бессардэчныя — «інкубатарскія» хлопцы — гэта самая небяспечная з'ява для нашай вёскі. Таму, думаючы пра культуру і эканоміку падворка, вёскі, калгаса, раёна, вобласці і рэспублікі ў цэлым, перш за ўсё трэба падумаць пра тое, як справіцца з абыякавасцю, якой назбіралася за апошнія гады досыць у душы кожнага чалавека.

## «МАРУТКА»

Не здзівілася, што ўпершыню пачула пра гэта ў вёсцы: у мінскім тэатры юнага гледача пастаўлены выдатны спектакль паводле п'есы Святланы Алексіевіч «Марутка». Што ні кажы, а выхаваны на прыродзе чалавек здольны больш дакладна і танчэй адчуць і ацаніць шчырасць.

У апошнія гады ў тэатры быў прыкметны творчы спад. Нейкі вакуум, быццам няма чаго, няма каму і няма для каго іграць. Стары ТэЮнГ вельмі доўга жыў фальшывым, надуманым мікракліматам дзяцінства, і дзеці паступова адвярнуліся ад свайго тэатра. Хто на што здатны: у металісты, у рокеры, у панкі.

Але вось, нарэшце, загаварылі і пра ТэЮнГ усур'ёз — і ў сталіцы, і ў самым далёкім кутку рэспублікі. І калі яшчэ зусім нядаўна сярод падлеткаў было прывычным: «Дурань, што ідзеш у ТэЮнГ...», дык цяпер так: «Дурань, калі прапусціш «Марутку»!

Старшакласнікі, якія нават прыехалі здалёк, не хочуць разыходзіцца па дамах пасля спектакля, абмяркоўваюць перажытае разам, не выйшаўшы з тэатра, каля сцэны, якая яшчэ «дыхае». Пішуць сачыненні ў класе. Людзі сярэдніх год клічуць на «Марутку» знаёмых. А старыя шчыра прызнаюцца: гэта пра нас...

Марутка Святланы Алексіевіч — не сімвал. Пісьменніца нібыта прадоўжыла лёс гераіні апавядання Барыса Лаўранёва «Сорак першы», знаёмага ўсім нам з дзяцінства, лёс Маруткі, жанчыны, якая ахвяравала ў імя ідэі рэвалюцыі каханнем, каханым. Спектакль пра тое, як даўні і трагічны выбар Маруткі паўплываў на лёс кожнага з нас, як трансфармаваўся з пакалення ў пакаленне.

Не я, а мая новая знаёмая, настаўніца з сельскай школы, заўважыла: новы ТэЮнГ шукае жывыя сувязі з жывым жыццём. Дзякуючы той самай «Марутцы» тэатр ужо міжволі перастае быць толькі тэатрам. Гэта ўжо і дыскусійны клуб, і клуб палітычны — менавіта тое, чаго так нестае сёння нашай моладзі. Сучасная форма. Сучасны змест. Бясстрашнасць, з якой пісьменніца, рэжысёр, акцёры пайшлі насустрач адно аднаму.

І яшчэ адзін вузельчык на памяць: цаніць шчырыя пачуцці трэба вучыцца. Ва ўмовах дэмакратызацыі — гэта велізарная духоўная работа, якую павінен правесці кожны, і ў горадзе, і ў вёсцы.

## ГНЁЗДЫ — У СПАДЧЫНУ

«...Хачу пажадаць вам шматгадовага жыцця і шчасця. І толькі ўсмешак. Я ваш стары знаёмы, Іван Міхайлавіч Кірылік, птушкалюб з вёскі Літоўка. Прашу прабачэння, што забяру сваім лістом пару хвілін вашага часу, але ў мяне леташні год быў зняважлівы па прыродзе. Па-першае, стаяла школа старая — разабралі на дровы. А сад выкарчавалі. Адным словам, прапаў. Я ўвесь засмучоны.

Было пры вёсцы 83 курапаткі — усе прапалі. Засталася толькі адна, але квактуха. Я яе падкарміў, і яна вывела 11 куранят. Гэтых дагледаў добра, але ўсё роўна засталося дзевяць штук: двое куранят прапалі. Атручваюць зерне ў нас адкрыта — каля фермаў,— птушкі гінуць. Але я ўжо ўсе склады праверыў і папярэдзіў ветэрынара, які абяцаў за гэтым сачыць.

Мне дзіўна, што адна курапатка вывела 11 куранят. Так старанна сядзела, што нават не астудзіла кладку: без замены. Сёлета чорны дрозд у нас не зімаваў. Зноў я засмуціўся. Як паляцелі 15 снежня — больш не з'явіліся. Усё не тое, да чаго імкнуся я. Я маю на ўвазе, каб жылі спакойна птушкі.

Сёлета дадаў лясных птушыных дамкоў для соў і дзятлаў. Буду разводзіць як мага больш вераб'ёў і сініц. Дырэктару лясгаса напісаў заяву, маўляў, прыгледзеў сабе чурбакоў з дуплямі 10 кубаметраў. Не ведаю, як ён да гэтага паставіцца, але я заплачу сам за драўніну.

Забіраць у вас каштоўны час не буду, але прашу, парайце, каму перадаць у спадчыну сваё птушкаводства?..»

— Вось разлічуся з гаспадарчымі справамі і зноў вазьмуся за свае чурбакі,— як зараз бачу Івана Міхайла-

Заканчэнне на стар. 13.



СПАДЧЫНА

**Ігнат КАНЧЭЎСКІ, паэт, філосаф, публіцыст, нарадзіўся ў маі 1896 г. у Вільні. Скончыў рэальнае вучылішча, вучыўся ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце, дзе ў свой час студэнтамі былі Адам Гурыновіч, Янка Лучына, Ігнат Грынявіцкі. Потым перавёўся на філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта. У 1916 г. яго мабілізавалі ў войска. Тут І. Канчэўскі скончыў школу прапаршчыкаў і трапіў на Румынскі фронт. У 1917 г., стаміўшыся ваяваць, І. Канчэўскі выязджае на Дон, а затым у Маскву, дзе паступае на вышэйшыя кааператыўныя курсы пры універсітэце Шаняўскага. Потым працуе ў Смаленску інструктарам ад Цэнтральнага Саюза льнаводаў. У 1919 г. перабіраецца на радзіму, у Вільню. Працуе кааператыўным інструктарам Саўнаргаса Літоўска-Беларускай ССР, а пасля акупацыі Вільні палякамі — прадстаўніком Віленскага Саюза кааператываў. Адначасова прымае самы актыўны ўдзел у беларускім культурным руху, захапляецца ўсходняй філасофіяй, арганізоўвае гурток ёгаў, вядзе гурток па геаграфіі пры Віленскай беларускай гімназіі, закладвае вучнёўскі кааператыў, актыўна выступае ў друку, змяшчаючы палітычныя артыкулы, літаратурныя рэцэнзіі, вершы, асвятляе развіццё беларускай кааперацыі на Віленшчыне. У 1921 г. выходзіць з друку яго філасофскі нарыс «Адвечным шляхам (Даследзіны беларускага светагляду)». Вялікая самаахвярная праца ў галоднай Вільні падарвала здароўе І. Канчэўскага. 21 красавіка 1923 г. ён памёр. У паэзіі І. Канчэўскі ішоў на свядомую эстэтызацыю, філасафічную заглыбленасць верша, развіваючы традыцыі Я. Купалы і асабліва М. Багдановіча.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**



Мал. Аляксандра ЛЬДОКАВА



**Ігнат КАНЧЭЎСКІ**

## ВЕРАСНЁВАЕ ПАНО

*У Барнардынскай прысадзе шапочуць пажоўклыя лісці,*
*Ледзь прыкметны па сцежках бліскучыя скуркі каштанаў,*
*І вада ў Вяленцы ад зімна сіней і празрысцей,*
*Гаманіць з камянём аб працёкшых гадох без устану...*
*...І выходзіць між дрэў, ў патаёмную вечара пору,*
*Князь апошні Літвы, ў хвалях гаснучых зыбкага свету,*
*З барадой кучаравай — даспелых каштанаў калёру,*
*Са струсёвым пяром, што, як воблак, пад чорным берэтам.*
*І, суваючысь крокам павольным па сцежынках саду,*
*Ён усходзе на гору, падходзіць да вежы цаглянай,*
*І, апёршысь рукой пад плашчом на злачоную шпаду,*
*На прыціхшае места глядзіць аж да самага рана...*
*І чакае... пакуль не засмуціцца ноч над ракою,*
*Над вадой пабялеўшай прытуляцца сонныя мары,*
*І ў празрыстай імгле паплывуць лебядзі чарадою,*
*А над іскрамі росаў праблісне апратка Барбары...*

*1923?*

## НА МАТЫВЫ Р. ТАГОРА

*Ты — Вялікі,*
*а маё жыццё падобна да гульні малых дзетак*
*на пяску пры рэчцы.*
*Яны будуюць заторы, кіруюць бег вады*
*ў пракапаных дзяціннай лапатачкай каналы*
*і дзіўна засмучоныя, калі неасцярожна*
*плёснуўшая хвалька змывае ўсе іх*
*дзіцячыя хітрыкі.*
*Так я, забавіўшыся ў сваёй дзяціннай*
*гульні, забываюся аб Тваёй вечнай прысутнасці,*
*і толькі незнарок прыляцеўшы боль*
*сціскае мукай збалелае сэрца і змушае*
*звярнуць да Цябе твар, Айцец мой.*
*І тады я чую, што глядзяць на мяне*
*з ласкай Твае вочы і дзякую Табе,*
*што разам з прыкрым болем Ты*
*даў мне шчасце пазнаць Тваю*
*сталую вечную прысутнасць на*
*нашай шумнай дзяціннай*
*гульні.*

*1923?*

ПАЗІЦЫЯ

Леанід ЕКЕЛЬ

# КРОК НАСУСТРАЧ

Чытаю некаторых сваіх калег і не магу пазбавіцца пачуцця горкае прыкрасці. Яшчэ нейкія два гады назад яны ўзахлёб апісвалі буйныя дасягненні і перамогі, а цяпер, ані кроплі не саромеючыся, ганьбяць усё дарэшты, выкрываюць, выводзяць на чыстую ваду. Нібыта сарвалі з іх вачэй мутныя плеўкі, і яны нарэшце ўбачылі ўсё як яно ёсць. А дзе ж, думаю, вы раней былі? Чаму крычалі «ўра», калі трэба было біць трывогу? Маўчалі толькі таму, што праўдзівы артыкул усё роўна не надрукавалі б? Ці ўсё ж такі ў іншым прычына? У бяздумным выкананні чыёйсьці волі, у сляпым пераймані чыіхсьці думак і поглядаў?

А цяпер — галоснасць. І чым вастрэйшы матэрыял, тым лепей. Гэта — дух нашага часу. Толькі вось не робіцца паветра чысцейшае ад галоснасці без грамадзянскай трывогі і болю. А за духам часу зручна маскаваць сваю бездухоўнасць...

Як лёгка, выяўляецца, асабістую адказнасць перакласці на час. Я, маўляў, тут ні пры чым — вінаваты застойны перыяд. А хіба час — гэта не мы? Хіба не мы надаём яму аблічча і колер? Кожны на сваім месцы. Многае, вельмі многае сыходзіцца на кожным з нас. Мы — жывыя скрыжаванні ў гэтым цудоўным і лютым свеце. І, вядома, калі не выціскаць з сябе па кроплі гэтае рабскае флюгерства, дык ці ж не станем праз нейкі час выкрываць тое, што робім сёння?..

Куды я хілю размову? А вось куды. За апошнія гады пра камсамол сказана столькі ўсяго адмоўнага, што, бадай, нават самыя стойкія душы закрануў скразняк адчужэння. Так, лекі салодкія не бываюць. Так, каб пазбавіцца болю, трэба перанесці боль у сто разоў большы. Усё так. Але, з другога боку, не варта занадта захапляцца цёмнымі фарбамі. Тое, што нabалела за многія гады, выказана. А цяпер, адшукаўшы ў арганізме камсамола чарговую язву, трэба перш за ўсё шукаць спосабы лячэння. Гэта будзе і правільна, і сумленна.

І зноў міжволі вяртаюся да пачатку пачаткаў — да людзей. Да важакоў моладзі, якім цяпер прыходзіцца ой як не соладка...

Я раскажу пра аднаго цудоўнага чалавека. Праўда, ён у цяперашні час у камсамоле не працуе, але, думаю, істотнага значэння гэта не мае. Наадварот, падкрэслівае, наколькі ён меў рацыю і быў дальнабачны, як важна, каб на чале камітэта стаяла асоба...

Неяк за адну ноч дворнікам Гродна раптам падваліла працы. Платы, сцены дамоў, пад'варотні застракацелі назвамі музычных ансамбляў. З пракляццем здзіралі яны незмывальную фарбу, а наступнае раніцы ўсё паўтаралася спачатку.

«Давай правядзём рэйд, адловім з дзесятак гэтых пэцкаляў, здамо ў міліцыю і няхай пакараюць іх ці бацькоў, каб іншым не было панадна»,— прапаноўвалі энергічныя людзі. «Якая з гэтага карысць? Пакараем некалькіх, а пэцкаляў менш не стане»,— пярэчыў сакратар гаркома камсамола Сяргей Пацэвіч, які ўжо некалькі разоў паглядваў з акна на хлапчукоў у парку, што збіраліся ледзь не пад вокнамі гаркома. Нарэшце не вытрымаў і рашуча накіраваўся да іх.

Маўклівы паядынак: адны пішуць — другія здзіраюць надпісы — ні да чаго добрага прывесці не можа. Трэба зрабіць крок насустрач. Незалежна ад таго, сімпатычныя гэтыя хлопцы табе ці не. Не баючыся за свой аўтарытэт, не баючыся сканфузіцца...

— Добры дзень, хлопцы!

— Дзень добры, начальнік! — чыйсьці сіплы, насмешлівы голас у адказ. І ўсмешкі, нібы па камандзе.

— У мяне ёсць прапанова. Давайце збяромся ў гаркоме камсамола і пагаворым пра вашыя справы. У чым-небудзь пэўна ўжо дапаможам.

— Ды чым ты можаш памагчы, начальнік?

— Чулі мы такія песні!

— Ідзі лепш у свой кабінет і пішы там паперкі...

Вось так яны пагаварылі. Пайшоў Пацэвіч у паскудным настроі. На свецкую размову ён, вядома, не разлічваў. Але вось гэта лагернае «начальнік», пагардлівыя ўхмылкі, адкрытае непрыняцце, недавер да шчырасці яго намераў засмуцілі. Толькі добра, што яшчэ не асвісталі, не праводзілі ўлюлюканнем да самага гаркома. І за тое дзякуй... А можа, выгляд афіцыйны іх адштурхнуў?

На другі дзень надзеў Сяргей свае студэнцкія джынсы, куртку і зноў прыйшоў да іх.

Тая ж насцярожанасць, тыя ж кпіны. «І навошта быў гэты маскарад? Падумаюць яшчэ, чаго добрага, што падладжваюся пад іх. Ледзь не на паваду іду»,— з раздражненнем падумаў сакратар, але адступаць не было куды.

І ўсё ж яны дамовіліся сустрэцца ў гаркоме камсамола. Прыйшло чалавек дваццаць. Хадзілі па калідоры. З цікаўнасцю прасоўвалі галовы ў кабінеты — сюды яны трапілі ўпершыню ў жыцці...

Пацэвіч з усмешкаю назіраў, як тапталіся ля сакратарскага кабінета, відавочна не рашаючыся пераступіць яго. Нарэшце, падштурхоўваючы адзін аднаго, увайшлі і селі вакол стала.

— Ну, а цяпер можна пагаварыць і пра справу.

— Няхай Труцень скажа...

— Ці Белавокі...

— Стоп! Так справа не пойдзе. Мяне завуць Сяргей. Нармальнае чалавечае імя ёсць і ў кожнага з вас. А мянушкі, як вам вядома,— у катоў і ў сабак! Зразумелі?

— Зразумелі!

— Тады выкладвайце вашы праблемы.

— Дайце нам хату, каб можна было збірацца. Мы арганізуем там рок-клуб.

— Памяшканне вам дамо. Але дамовімся адразу: да ладу вы яго давядзяце самі. Прыйдзецца добра папрацаваць.

— Гэта можна.

— Справімся!

— Начальнік, а ты планы не загоніш пісаць?

— Па-першае, не начальнік, а Сяргей. Я ўжо казаў пра гэта. А планы... Вам яны патрэбныя? Непатрэбныя. Ну, а мне тым больш.

На тым і рассталіся. На наступную сустрэчу ў гарком камсамола завіталі важакі «нефармалаў». І зноў просьба: дайце нам сцены. Любыя. А парадак мы самі навядзём.

Знайшлі памяшканне. Сцены, столь былога піўбара ў цвілі і павуцінні. Паветра сырое, пракіслае. Але гэта нікога не адштурхнула. Вычысцілі, вымылі, пафарбавалі, пабялілі — любата.

Стварылі савет рок-клуба. У яго склад увайшлі і прафесійныя музыканты і інструктар гаркома камсамола Юрый Чарнышоў. Выдатна разбіраючыся ва ўсіх тонкасцях, ён карыстаўся ў аматараў року аўтарытэтам.

А потым была сустрэча з прыхільнікамі року ў Палацы культуры хімікаў. Сабралася чалавек 400...

Яшчэ ўчора іх проста ігнаравалі, акідвалі пагардлівымі позіркамі з ног да галавы, пагражалі міліцыяй — а тут раптам такая ўвага. Яны ішлі ў Палац як на свята...

А ці ведаў сакратар гаркома, на што ішоў? Ведаў, канечне. І выдатна разумеў: стаў бы раіцца са сваімі старэйшымі таварышамі, праводзіць сустрэчу ці не, дык пэўна ўжо пачуў бы катэгарычнае: «Ні ў якім разе!» Але, ступіўшы адзін крок насустрач, нельга не зрабіць другі... І ён вырашыў узяць усю адказнасць на свае плечы. Вядома, можна было лёгка адмовіцца ад усёй гэтай задумы з самага пачатку. Маўляў, не дазваляюць. А як быць з аўтарытэтам камсамола? На чый рахунак спісаць сваю бездапаможнасць, несамастойнасць? Усё на тых жа старэйшых таварышаў? Дык гэта ж, па сутнасці, падрыўная работа. Падрываецца аўтарытэт партыйных органаў, механічна ўрастае ў свядомасць маладых людзей найпрымітыўнейшая думка пра іх як пра інстанцыі, здольныя ствараць толькі забароны. Чаму гэта нікога не турбуе? Чаму ў людзей, што маюць уладу, і немалую, гэтак моцна развіты рэфлекс супраць асабістай адказнасці?..

А асоба перш за ўсё і выяўляецца ў здольнасці ўзяць на сябе ўсю адказнасць, да канца, у інтарэсах справы. Прымаць рашэнні, дзейнічаць, не думаючы пра тое, як вынікі могуць адбіцца на ім асабіста, на яго кар'еры.

...Як толькі Сяргей падышоў да мікрафона і звычна зірнуў у залу, то імгненна зразумеў: гэта не камсамольскі актыў горада. Тут і ў лоб запусціць чым-небудзь могуць.

— Калі ў маладых людзей ёсць захапленні — гэта цудоўна. Дрэнна, калі захапленні засланяюць сабою ўвесь свет. Я маю на ўвазе...

І тут зала выбухнула свістам, улюлюканнем, тупатам ног.

— Досыць! Наслухаліся!

— Няма чаго нас выхоўваць!

Сакратар маўчаў. Атмасфера напружвалася.

— Я лічыў, што тут сабраліся сур'ёзныя людзі. Але я памыліўся...

Сяргей зрабіў паўзу. Гвалт у зале спакваля заціхаў.

— Раз так, дык і гаварыць нам больш няма пра што...

Нехта спрабаваў ускочыць, штосьці выкрыкнуць. Але яго адразу ж груба пасадзілі на месца. Зала — сама ўвага...

Пасля выступлення сакратара гаркома была лекцыя пра сучасную музыку, глядзелі спецыяльна падабраныя фільмы і слайды, пусцілі па радах скрынку для пытанняў. Многія запіскі былі адрасаваны не камсамолу. Дамовіліся, што на кожную з іх адкажуць кампетэнтныя людзі.

Калі ж сабраліся ў сакратара гаркома партыі і разабралі ўсе запіскі, яшчэ раз пераканаліся: забаронамі і ганеннямі нічога не даможашся. Патрэбныя ўвага, рэагаванне, дзеянні. З любой, няхай і нязначнай нагоды. Пакуль не сабраўся яшчэ вузел праблем, які можна рассячы, але не разблытаць...

У адной з запісак выплюхнуў хлопец сваю крыўду. Надзеў ён неяк футболку з надпісамі на англійскай мове. Зусім бяскрыўднымі. У парку спыніў яго міліцыянер і запатрабаваў футболку зняць. «Чаму я павінен гэта рабіць?» — здзівіўся хлопец. «А няма чаго насіць замежныя анучы».— «Дык нічога ж няма ў надпісах. Я перакладу...» — «Я сказаў: зняць!» Хлопец адмовіўся. Тады ахоўнік парадку сарваў з хлопца футболку, расшкуматаў і кінуў у сметнік. І гэта на вачах у многіх людзей. У тым ліку і хлопцавых аднагодкаў...

Драбяза? Магчыма. Толькі вось шнар у хлопца застаўся. Вельмі нядобры шнар. І ніякімі прыгожымі словамі яго не згладзіць...

Пройдзе час, і рок-клуб падрыхтуе цэлы фестываль. Запросяць музыкантаў з Ленінграда, Мінска і іншых гарадоў. А былі б аматары року, як раней, непрытульныя, хто ведае, у што б выплюхнулася іх энергія, у што б перакінулася...

Дзесяткі гадоў камсамол страчваў свой аўтарытэт. Уратаваць яго не маглі ні БАМ, ні Атаммаш, ні іншыя будоўлі стагоддзя. Ператвараючыся ў слабы цень партыйных органаў, слепа дубліруючы іх стыль работы, які часцей за ўсё не ўспрымаецца моладдзю, камсамольскія камітэты па сваёй волі або міжволі будавалі глухі мур адчужэння. Сцяна расла — аўтарытэт камсамола падаў...

Як вярнуць маладым людзям веру ў Саюз моладзі? Як пераканаць іх, што не ўсё страчана, што ёсць у камсамольскага камітэта любога рангу і сілы, і магчымасці, і энергія? Гэтымі трывожнымі пытаннямі было прасякнута ледзь не кожнае выступленне дэлегатаў XX з'езда ВЛКСМ год назад.

Даць універсальны рэцэпт, які б быў эфектыўны ва ўсіх магчымых выпадках, і з'езду не пад сілу. Дый не патрэбны зусім гэты рэцэпт. Калі б здарылася такое, дык на змену адным штампам прыйшлі б другія. Дык што ж усё-такі прапаноўвалася? МЖК. Цэнтры навукова-тэхнічнай творчасці. Маладзёжныя цэнтры...

«Усё гэта ёсць ці амаль ёсць у нашай гарадской арганізацыі,— думаў Сяргей Пацэвіч, слухаючы камсамольскіх дэлегатаў у Крамлёўскім Палацы з'ездаў.— Але ж гэта толькі разведка боем, і яна ой як часта гэты бой не выйграе. Бой за добрае імя камсамола, за яго аўтарытэт і неабходнасць маладым людзям.

Вось дзе сапраўды — працаваць яшчэ ды працаваць. І галоўнае — ёсць дзе разгарнуцца...»

Але разгарнуцца яму не ўдалося: накіравалі Пацэвіча на працу ў райком партыі. А шкада. Колькі карыснага, як паветра, неабходнага мог даць Пацэвіч камсамолу. Калі не ў гарадскім камітэце, дык у абласным. Калі не ў абласным, дык у ЦК камсамола рэспублікі. На любой пасадзе.

Асобы не з'яўляюцца на свет проста так, адразу, як скажаш: «Трэба, каб камсамолам кіравалі асобы». Але толькі вось калі за гэтыя асобы трэба змагацца, да іх часцей за ўсё знікае інтарэс...

Не заўсёды, на жаль, мудра паводзяць сябе тут і партыйныя органы. Паспешныя, неабдуманыя кадравыя перастаноўкі часта пазбаўляюць камсамол сапраўдных важакоў моладзі.

Чакайце, запярэчаць мне, камсамол — рэзерв партыі. Слушна. Але ёсць адна істотная дэталь: пераход на партработу і разумны і заканамерны, калі камсамольскі работнік, зрабіўшы для Саюза моладзі ўсё магчымае, ужо быццам выходзіць за яго рамкі. Ён гатовы на большае, можа ўскласці на свае плечы самую высокую адказнасць. Камсамол не выціснуў з яго ўсе сокі, а выхаваў партыйнага работніка.

Ну, а чым жыве сёння Гродзенскі гарком камсамола? Пра гэта мы раскажам у наступным нумары.

Афармленне Канстанціна ВАШЧАНКІ

# ЗДРАДА

Павел ЯКУБОВІЧ

Я ЗАДУМАЎ гэты нарыс пасля выпадку, пра які мне расказалі як пра забаўны кур'ёз. Нешта накшталт анекдота. Аднак чым больш я думаў пра яго, тым больш цвёрда прыходзіў да высновы — праблема ёсць, яна існуе, а тое, што часам мы яе сарамліва замоўчваем,— няправільна і нават амаральна перад памяццю.

Аднаго разу ў тую рэдакцыю радыё, дзе выконваюцца песні «па заяўках», прыйшоў досыць трывіяльны ліст, напісаны дзвюма сёстрамі-настаўніцамі з Віцебскай вобласці. Яны прасілі, каб для іх бацькі, «ветэрана працы, які шмат гадоў адпрацаваў на Крайняй Поўначы», была выканана песня «Дзе ж вы цяпер, сябрыаднапалчане?». Настаўніцы з замілаваннем пісалі, што іх добры, ветлівы бацька «любіць у вольную хвіліну пасядзець каля рэпрадуктара» і, «паклаўшы на калені спрацаваныя рукі, паслухаць добрую, задушэўную песню...».

Цёплыя словы з ліста, а пасля і песня прагучалі. А потым у рэдакцыю прыйшоў яшчэ адзін ліст, не такі, праўда, гладкі, як ад настаўніц, але гаворка ў ім ішла пра таго ж самага чалавека. Пісалі ўдовы і старыя, якія выпадкова ўцалелі ад «спрацаваных рук» таго самага «змагара за асваенне Крайняе Поўначы», што апынуўся на Калыме не па сваёй волі, а паводле прысуду ваеннага суда за саўдзельніцтва ў злачынствах нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Я паехаў у Віцебск, сустрэўся з настаўніцамі, і яны зусім спакойна, бы якому вучню-троечніку, растлумачылі, што не бачаць у сваім лісце нічога благога, што, вядома, знаёмыя з бацькавай гісторыяй, бо нарадзіліся ў невялічкім гарадку за Уралам, дзе ён жыў пэўны час пасля амністыі, пакуль не вярнуўся на Беларусь. «Але што з таго? Ён жа адкупіў сваю віну,— перакanana тлумачыла мне старэйшая.— Значыцца, перад законам чысты». «Гэтаксама ж, як і мы з вамі,— падхапіла малодшая.— А што ён добры і чулы, дык гэта факт». «Дый увогуле, хто яго ведае, як там усё гэта было, у вайну? — упэўнена падвяла рысу старэйшая.— Не нам, маладым, суд чыніць».

А потым я даведаўся пра адну актрысу, якая іграла ў сваім тэатры ролю партызанкі, і рэжысёр неяк сказаў пра яе публічна ў газеце, што гэтая роля асабліва дарагая актрысе, таму што на сцэну яна выходзіць у той самай спадніцы, якую насіла яе маці ў лагеры смерці, куды трапіла за сувязь з партызанамі.

Было прыгожа і «волнительно». Так, здаецца, кажуць у падобных выпадках жрацы і жрыцы Мельпамены.

І ўсё было б добра, ужо нараджалася цудоўная легенда. Але з'явіўся чалавек, які ўступіў у партыю ў сталінградскіх акопах і не змог маўчаць, ведаючы пра тое, што маці актрысы — ніякая не гераіня і не пакутніца. Хутчэй наадварот...

У сорак другім годзе яна была «баявою сяброўкаю» закончанага нягодніка, начальніка раённай паліцыі, які страляў у савецкіх людзей, але паспеў уцячы з немцамі і прыладзіўся жыць дзесьці ў Заходняй Германіі. А спадарожніца вось не паспела, засталася, нарадзіла дачку, гэтую самую будучую актрысу — праўда, людзі не далі ім доўга жыць у сваёй вёсцы, і яны перабраліся ў райцэнтр.

Калі актрысе паказалі лісты таго чалавека, яна здзівілася: «Вось як? А я і не ведала...» І ўсё... Прыгожай легендзе было наканавана згаснуць не расквітнеўшы: рэжысёр больш не згадваў пра «свяшчэнную спадніцу», было неяк няёмка. Аднак усе лічылі, што нічога не здарылася. Ну, падумаеш, абмовіўся...

Я, вядома, не да таго вяду, што актрысу трэба нагала астрыгчы ці пазбавіць права на прафесію, але калі бачу яе імя на афішах, дык успамінаю адчайныя лісты таго франтавіка. Я згодны з ім — яна ж ведала пра ўсё, не магла не ведаць, яе з дзяцінства дражнілі вясковыя хлапчукі, і чула яна пра суд, дзе яе бацьку судзілі, завочна...

ЧЫМ больш уважліва знаёмлюся я з прысудамі, старым і новым, тым больш мне здаецца, што час дзіўна мяняе свой накірунак і цягне з сённяшняга дня туды, да пыльнага ліпеньскага шляху, дзе ён, Андрэй Клопаў, спыніў трактар, скочыў на ўзбочыну і ўтаропіўся на дарогу, па якой крочылі насустрач яму ў бок Чарнігава стомленыя маршавыя роты, спатыкаючыся і абыходзячы змучаныя статкі кароў з навакольных калгасаў і павозкі, перапоўненыя хатнім дабром, дзецьмі і жанчынамі.

Клопаў пастаяў каля свайго «ХТЗ», паглядзеў на ўсю гэтую мешаніну з людзей і павозак, глянуў на неба, у якім праз кожную гадзіну з'яўляліся нямецкія самалёты, і дастаў з кішэні прадпісанне начальніка МТС. Уявіў сабе таго ў нязменным фрэнчы і фуражцы, успомніў твар, хударлявы, заклапочаны, і злосна ўсміхнуўся. Ён заўсёды быў нясмелы перад начальствам, затое цяпер, на гэтай дарозе, адчуў штосьці іншае.

— Скончыўся, камісар, твой час,— уголас сказаў Клопаў,— заўтра немцы будуць у Чарнігаве. А мне, значыцца, гані ў тыл трактар... А там, бачыш, таварышы лоб паголяць. Знайшоў дурня. У мяне дома весялейшыя справы знойдуцца.



Агледзеўшыся,— ніхто не звяртаў увагі ні на яго, ні на заглухлы трактар,— Клопаў парваў на дробныя шматкі прадпісанне, і падхопленыя лёгкім ветрам паперкі весела паляцелі ўздоўж пыльнага шляху.

Было праклятае лета, ішоў трэці тыдзень вайны...

Увечары ён пастукаў у акно і на спалоханыя пытанні сваіх няпроста і доўга вылаяўся.

— Ты чаго гэта? Нашто вярнуўся?

— Абрыдла ўся іхняя цягамоціна. Болей, вышэй, лепей... Мне разумны чалавек сказаў, што яны наўмысна з немцаў страшыдлаў робяць. Немцы — народ культурны. Моцным гаспадарам, кажуць, падтрымка ад іх будзе. Зямелькі дадуць, худобу. А можа, і трактар.

Дні праз тры па старым шляху прастракаталі матацыклы, потым на разлапістым пяцітонным «бюсінгу» ў вёску прыкаціў узвод салдатаў — вясёлых, з песнямі на вуснах, у мундзірах з закасанымі рукавамі, з кароткімі «шмайсэрамі», якія боўталіся на грудзях. Перапалоханых калгаснікаў, пераважна жанчын і старых,— хлопцы і мужчыны пайшлі ў ваенкамат яшчэ ў канцы чэрвеня,— прыгналі да сельсаветаўскай хаты, дзе зусім нядаўна ішло звычайнае калгаснае жыццё, а на сцяне, зусім недарэчныя цяпер, віселі плакаты з тае, даваеннае пары. Пра агратэхнічныя тэрміны, дзяржаўную пазыку... Перакладчык, нетутэйшы, з гарадскім вымаўленнем, важна паглядваючы на панурых сялян, аб'явіў, што пачынаецца новы парадак, а таго, хто будзе старацца, германскія ўлады ўзвысяць. Што ж да сабатажнікаў,— перакладчык па складах прамовіў гэтае слова,— непераможныя воіны фюрэра жорстка пакараюць...

«Бюсінг» пакаціў у райцэнтр, забраўшы з сабою Андрэя Клопава, які, падлавіўшы момант, падабраўся да афіцэра і папрасіў яго садзейнічання для службы ў паліцыі.

— Гут,— коратка сказаў той і працягнуў Клопаву цыгарэту.

Вось так дзевятнаццацігадовы Андрэй Клопаў здрадзіў Радзіме.



Шапацяць пад маімі пальцамі пажаўцелыя старонкі старых дакументаў. Пратаколы допытаў, «прызнанні» Клопава, прысуд ваеннага трыбунала Цэнтральнай групы войскаў, які асудзіў яго ў 1947 годзе да 25 гадоў зняволення ў папраўча-працоўным лагеры. Я чытаю гэтыя старыя паперы, і мяне не пакідае думка, як усё ж такі здарылася, што былы эмтээсаўскі трактарыст кінуў на дарозе машыну і пайшоў самахоць служыць у паліцыю?

Вядома, Клопаў не Брут і не князь Курбскі. І не варта ламаць галаву ў пошуках асабліва складанай матывацыі ягонае здрады. У пэўным сэнсе яна адбылася вельмі проста, і таму лагічна тлумачыць многія далейшыя ўчынкі Клопава, зробленыя ўжо ў тым узросце, калі спасылкі на «зялёную маладосць» проста немагчымыя.

Зрэшты, да гэтага мы яшчэ дойдзем.

І ўсё ж такі: чаму?

Каго немцы рэкрутавалі на часова акупаванай тэрыторыі ў паліцыю, у старасты, у бургамістры і розныя зондэркаманды? Хто салютаваў «новаму парадку» і ахвотна абслугоўваў душагубкі-«газвагены»?

Сама старанна — даўнія ворагі Савецкай улады, якія здолелі затаіцца, пераседзець вірлівыя гады, дачакаліся магчымасці націскаць на курок, помсцячы тым, хто два дзесяткі гадоў назад забраў у іх млыны, маслабойні, пародзістых рысакоў і крамы са скабянымі таварамі.

Гэты легіён здраднікаў зразумелы і тлумачыцца логікай класавай барацьбы. Дарэчы, сёння, у запале палемікі некаторыя мысліцелі прыходзяць да дзіўнае высновы, што яе нібыта і не было... Зрэшты, гэта тэма асобнай размовы.

Ішлі на службу да немцаў і тыя, хто займеў пры «ордкунзе» магчымасць узвысіцца — самалюбцы, а таксама вызваленыя з турмаў крымінальнікі, падонкі, якія выбраліся з «малін», і проста садысты, якія атрымалі магчымасць сярод разгулу зла стаць гаспадарамі жыцця. Пра такіх тады казалі: «Каму вайна, а каму маці родная...»

Чорныя кіцелі надзелі баязліўцы і беспрынцыпныя прыстасаванцы.

Гэта ўвогуле зразумела.

А кім быў Андрэй Клопаў?

Напэўна, і баязліўцам і прыстасаванцам, але, думаю, больш за ўсё яму хацелася стаць «моцным гаспадаром», і выклікаць усеагульнае здранцвенне, калі з вінтоўкаю выходзіў на вуліцу, дзе яго ведалі зусім яшчэ хлапчуком. Гэта быў не былы Андрэйка-трактарыст, а ўладар жыцця і смерці. Ён ступаў па вясковым пыле не гледзячы па баках і толькі краем вока прыкмячаў, як хаваюцца ад яго жанчыны.

У КЛОПАВА ў 1941 годзе быў цудоўны настрой, яму спадабаліся новыя словы, якія ён зведаў ад шэфа раённай паліцыі: «яволь, маршырэн». І яшчэ «эршысэн», што значыць «расстраляць». І песня падабалася пра прыгажуню Лілі Марлен — песню ён вывучыў на занятках па страявой падрыхтоўцы. Шмат што падабалася яму ў 1941 годзе...

І калі ў кастрычніку 1947 года ваенны трыбунал слухаў яго справу, Клопаў адчуў сябе салдатам вермахта, які трапіў у палон да бальшавікоў. У вушах спявалі губныя гармонікі, гучалі выразныя каманды, ён доўга думаў і грунтоўна адказваў на пытанні следчага, якія датычыліся назваў і размяшчэння рот, пастоў і гарнізонаў — ён не толькі ратаваўся, але і працягваў бой... Такі вось — затоены, «адмабілізаваны» — і адправіўся адбываць пакаранне.

З ТАЕ пары прайшло ўжо 40 гадоў. Я гартаю другі прысуд. Ён вынесены Клопаву народным судом за злачынства нядаўняе.

...40 гадоў, дзіўныя змены лёсу. Цяпер на лаве падсудных пажылы чалавек, які, трэба думаць, ужо не памятае ні Лілі Марлен, ні страявых германскіх каманд. Дый гаворка цяпер зусім пра іншае. Суддзі, пракурор, адвакат разважаюць пра «перавышэнне хуткасці, тармазны шлях, правілы абгону». Слухаецца справа пра аўтакатастрофу. Клопаў, шафёр бензавоза, учыніў аварыю, у выніку якой загінуў чалавек. Здавалася б, што агульнага? Выпадковая трагедыя. Але чытаеш прысуд, і час мяняе накірунак...

Відаць, недарэмна адпрацоўваў хлебны і гарэлачны паёк паліцэйскі Клопаў. Яго стараннасць ацанілі і прыцягнулі да «акцый», якія патрабуюць асаблівых «вартасцей»...

Праз два гады службы Клопаў, які дагэтуль нічога «надта ў галаву не браў», стаў трывожыцца. Вайна чамусьці ўсё яшчэ не канчалася, і нават «непахісны арыец», шэф паліцыі, перастаў разважаць на занятках пра «эфектыўную каланізацыю Украіны», а дзень пры дні «арганізоўваў» валізы ў «фатэрлянд».

...Здарылася так, што эшалон, у якім Клопаў разам з бясстрашным шэфам і астатнім раённым воінствам адбываў на Захад, трапіў пад абстрэл савецкіх танкаў. Праз гадзіну ад эшалона засталіся адны галавешкі.

Клопаў не стаў чакаць, пакуль яго прыдушаць гусеніцы «трыццацьчацвёрак», дапоўз да лесу і пабег. Бег, пакуль танкі не засталіся далёка ззаду.

Уранку ён стаў думаць, што рабіць далей. «Рэйх рэйхам, а ў Саветаў таксама вунь якія танкі. Трэба мяняць масць»,— вырашыў ён. Дайшоў да балотца, закінуў у зялёны чарот паліцэйскае пасведчанне, садраў кіцель і праз пару дзён, аброслы, у ссечаных травою ботах, выйшаў насустрач нейкай чырвонаармейскай часці.

— Таварышы, прыміце, ледзь дачакаўся. Жадаю помсціць праклятаму ворагу...

У 1945 годзе Клопаў даведаўся, што яго вёсачка амаль уся згарэла, і вырашыў прыехаць пасля дэмабілізацыі дамоў. Хата Клопавых — да чаго ж дзіўны лёс! — уцалела, і неўзабаве былы трактарыст, паліцай і чырвонаармеец з'явіўся там, упэўнены, што ўсё мінулае — забыта.

Аднак праз месяц яго запрасілі позваю ў райаддзел МДБ, і Клопава агарнуў жах:

«Уцякаць! Відаць, нехта з тых, хто павінен ляжаць у процітанкавым рове, той, каго я канваіраваў, застаўся жывы. Уцякаць!»

Кіеў, Вільнюс, Баку... Ён замятаў сляды, мяняў гарады, а страх гнаў усё далей і далей. Увогуле, было б натуральным, калі б ён «зашыўся» ў які-небудзь куток. Але ў вушах у Клопава стаяў стук абцасаў германскіх ботаў, пелі губныя салдацкія гармонікі. І ён вырашыў ісці на з'яднанне з баявымі «камрадамі».

У 1947 годзе Клопаў перайшоў мяжу і апынуўся ў Чэхаславакіі. Аднак дарога на Захад скончылася арыштам. Клопава адправілі эшалонам у Саюз у фільтрацыйны лагер для высвятлення мінулага, але каля самай мяжы ён здолеў выламаць падлогу і выскачыць з вагона. Скачок, аднак, быў няўдалы:

Клопаў зламаў нагу, і ваенны патруль знайшоў яго каля самага насыпу.

Потым ён паўстаў перад судом ваеннага трыбунала Цэнтральнай групы войскаў.

ЛЁС Клопава здзіўляе нейкім дзіўным пастаянствам злых праяў, уласцівых, напэўна, натуры гэтага чалавека. Уся яна — у пэўнай запраграмаванасці на парушэнні нормаў і законаў. Ён пастаянна імкнецца «быць на грэбені», яму проста неабходна любой цаною быць на чале хоць каго-небудзь і самасцвярджацца. Вось і ў лагеры ён аказвае супраціўленне адміністрацыі, сабатуе работу і яшчэ тройчы прыцягваецца да суда.

Але — 1957 год, амністыя, і Клопаў выходзіць на волю. Выбірае ціхае месца, невялікі палескі гарадок на Беларусі, уладкоўваецца шафёрам.

ВЯДОМА, ніхто з рабочых аўтабазы і падумаць не мог, што іх саслужывец мае нейкае дачыненне да таго, што называецца здрадаю Радзіме і дзяржаўным злачынствам. Гэта абсалютна не вязалася з ціхім, нават дагодлівым норавам Клопава. Што, зрэшты, не замінала яму заўсёды напамінаць пра сваё франтавое мінулае, дамагацца льгот. Але хто ж супраць таго? Да франтавікоў у нас стаўленне вядомае — гонар і павага. Так і жыў ён, Клопаў, зусім нядрэнна. І ўжо нараджалася легенда, прыходзілі да яго дамоў піянеры: «Дзядзечка, раскажыце для нашага музея...» І ён расказваў, а на святы, выставіўшы падбародак, гледзячы паверх галоў, ішоў займаць месца ў ганаровым прэзідыуме.

Можна, вядома, дзівіцца вынаходлівасці Клопава, які здолеў раздабыць усе неабходныя дакументы, якія пацвярджаюць яго службу ў дзеючай арміі. Ведаю, як нялёгка бывае старому партызану, падпольшчыцы дастаць патрэбныя для пенсіі дакументы. Гадамі ходзяць і пішуць. А Клопаў усё зладзіў умомант. Натура... Яго ная вынаходлівасць аказалася мацнейшаю за пільнасць работнікаў ваенкаматаў, якія не здолелі разабрацца ў Клопаве,— удзел у баях рэабілітаваў былога здрадніка, але не даваў яму ніякага права на ўшанаванне і льготы. Аднак Клопаў здолеў забяспечыць сабе і тое і другое. Невядома, колькі б яшчэ гэта доўжылася, але ў легенду ўмяшаўся выпадак. Па віне Клопава здарылася аўтааварыя, пачалося следства. Дужа пастарэлы, але верны сваім жыццёвым прынцыпам, Клопаў кідаецца ў шалёны наступ. І хоць ён быў віноўнік, ва ўсе інстанцыі сыплюцца скаргі на вадзіцеля «Масквіча», які застаўся жывы, на экспертаў і следчых. Клопаў, які мае за плячыма багаты лагерны вопыт, абвінавачвае, наводзіць паклёп, патрабуе ні многа ні мала «абараніць гонар і годнасць франтавіка». І што ж?.. Судовыя інстанцыі патроху адступаюць перад націскам. Магічна дзейнічае пасведчанне ўдзельніка вайны. Па сутнасці, Клопаў хіба што крыху спалохаўся. І толькі грашовы іск зменшыў радасць яго перамогі. Знявечаным людзям трэба плаціць, але Клопаў з гэтым нязгодны. Ён зноў у атацы. Аднак у пракуратуры рэспублікі яму рыхтуецца непрыемны сюрпрыз. Тут вырашылі праверыць легенду, звярнуліся ў архівы. І вось ужо растаў туман... Усё стала на свае месцы.

У прысудзе ўлічана ўсё. І тое, што Клопаў — пажылы чалавек, і тое, што з 1944 года ён быў байцом стралковай роты. Але перш за ўсё прысуд справядлівы і маральны ў тым сэнсе, што дае поўную ацэнку асобе і зробленаму. Клопаў не толькі пакараны пазбаўленнем волі, але і пазбаўлены дакументаў, якія даюць права на льготы і перавагі, на яго не распаўсюджваецца амністыя. Дух закона нарэшце перамагае.

Я бачыў, як панура, заклаўшы рукі за спіну, ён пакідаў залу суда. Стары ўжо, па сутнасці, чалавек, але ў ягонай паходцы, набычанай паставе ўгадвалася тая ж самая злосць, што прымусіла яго ў пыльны ліпеньскі поўдзень спыніць трактар на поўным трывогі і гора Чарнігаўскім шляху...

ТАКАЯ ВОСЬ ГІСТОРЫЯ... Прыватны выпадак ці выключэнне, якое пацвярджае правіла? І ўвогуле, ці варта варушыць мінулае, можа, усім будзе спакайней, калі «было, але быллём зарасло»?.. І нічога асаблівага, калі нячыстыя стаяць у адным радзе з чыстымі, а дзеці лічаць, што грахі іх бацькоў і не грахі зусім? І няхай сабе нараджаюцца легенды, шкада, ці што?..

Але вось перада мною ліст з Брэсцкай вобласці. Пішуць старыя, што на цэнтральнай сядзібе іх калгаса зрабілі цудоўную справу — пабудавалі стэлу, а на ёй — прозвішчы ўсіх, хто загінуў на вайне. І сярод іх — прозвішча былога паліцая, узятага потым у армію і забітага тымі, з кім зусім нядаўна ён прымаў прысягу на вернасць фюрэру. Узбураны старыя, якія былі тады маладымі. Яны памятаюць усё і лічаць імя на стэле чужым. Упэўнены яны, што гэта несправядліва. Што ім адказаць?..



**Ганна ХАРУЖАЯ,**
**вучаніца 10-га класа**

# ВЫПАДКОВЫЯ ЛЮДЗІ?

**— Мне нудна тлумачыць. Я расказваю пра гэта ўжо другі ўрок. Думаеце, цікава! А вы яшчэ шуміце...— спавядалася неяк, згадваю, наша настаўніца рускай літаратуры, робячы пасля кожнага сказа паўзу, усё роўна як жадаючы надаць большае значэнне словам.— Я магу і ўвогуле змоўкнуць. Усё роўна грошы свае атрымаю. Не хвалюйцеся, зарплату выплацяць.**

**Як мы адрэагавалі на яе шчырае прызнанне, я думаю, зразумела. А потым яшчэ здзіўляюцца, чаму клас не адчувае да іх вялікай любові...**

**«Праходзілі» Горкага. Цэлы ўрок мы запісвалі, калі Аляксей Пешкаў пайшоў працаваць у булачную, калі — у крэндзельную, у краму моднага абутку, прадаўцом у іканапісную майстэрню, калі быў садоўнікам, падзёншчыкам, посуднікам на параходзе або лавіў птушак зноў жа на продаж...**

**Пасля ўрока я падышла да настаўніцы.**

**— Якую літаратуру вы маглі б параіць, які крытычны матэрыял пачытаць для падрыхтоўкі да ўступных экзаменаў у ВНУ!..**

**— А куды ты збіраешся паступаць!**

**— На філалагічны,— адказала я і ўбачыла раптам, што твар у яе адразу ж сказіўся да непазнавальнасці.**

**— Гэта ж ажно пяць гадоў над кнігамі сядзець! Антычная літаратура, сучасная... Пяць гадоў — не падымаючы вачэй ад кніжных радкоў: ты можаш сабе ўявіць!! Гэта ж столькі ўсяго трэба ведаць!.. Не паступай. Не рабі памылкі. Мяне ў свой час падгаварылі, цяпер каюся,— уздыхнула яна. Пасля памаўчала якую хвіліну і цвёрда падсумавала: — Ні ў якім разе не паступай. Усё жыццё знявечыш...**

**Настаўніца літаратуры адгаворвала мяне ад глыбокага вывучэння свайго прадмета гэтак апантана, што тыя, хто праходзіў міма нас, азіраліся на яе здзіўленымі вачыма. Я ўжо і сама была не рада, што пачала гэтую размову.**

**Думаючы пра гэта (а для мяне гэты выпадак быў дужа надзвычайны), я згадала міжволі і яе ўрокі, яе сухі, рэзкі тон. І раптам уцяміла: ды настаўніцу ж нашу проста выварочвае ад яе літаратуры!..**

* * *

**Мароз. За акном кружляе завея, а ў класе — цёпла і ўтульна. Плаўна і меладычна гучаў голас нашай «белачкі»: яна расказвала біяграфію І. Мележа. Бы зачараваная, я слухала і слухала. Якія толькі карціны з жыцця пісьменніка ні малявала мне ўяўленне: лес, любая вёсачка, сельская школа... Кожнае слова настаўніцы прыцягвала да сябе ўвагу. Твар у яе быў натхнёны. Наша Лідзія Іванаўна быццам лунала ў сваім апавядзе...**

**«Вось ён, вось ён, ідэал настаўніка»,— думала я.— О, калі б так было на ўсіх прадметах!..» Але празвінеў званок.**

**І раптам я згадала сцэну, што зрабіла на мяне не так даўно ўражанне не меншае.**

**Было гэта перад вакацыямі. Дні праходзілі ў мітусні: кантрольныя, генеральныя апытванні, залікі... У гэты самы час і здавала я па беларускай літаратуры ўрывак на памяць. У пустым класе голас гучаў неяк працяжна і ненатуральна. Нарэшце я скончыла. І тут замест адзнакі пачула раптам пытанне:**

**— Я дрэнна выкладаю!.. Не, не, ты толькі не мані, калі ласка. Я разумею, цяжка сказаць так вось чалавеку... Але цяпер мне гэта вельмі важна: скажы, я дрэнна выкладаю!**

**Прызнацца, такая думка ў мяне ніколі не ўзнікала.**

**— Не, што вы... Мне вельмі нават падабаецца.**

**Але было відаць, што яна не хоча зграджацца з маім адказам.**

**— Я збіраюся пайсці са школы,— сказала трохі пакрыўджана. Пасля напусціла на сябе абыякавы выгляд.— Буду працаваць у бібліятэцы... Там ціха, спакойна. Ну, увогуле, прыходзьце па кнігі.**

**— Чаму!!! — здзівілася я яшчэ больш.**

**— Чаму-у...— сказала яна неяк ненатуральна (я больш не магла спакойна глядзець на яе і апусціла вочы).— Таму што вы шуміце на ўроках. Напэўна, толькі ў мяне бывае такі гвалт. Вы не любіце мяне... Выказваеце сваю пагарду. Я... Не, лепей ужо я буду добрым бібліятэкарам, чым дрэнным настаўнікам.**

**Што мне было сказаць ёй!.. Што яна памыляецца! Не паверыць. Сказаць, што ў яе талент тлумачыць! Не згодзіцца. А тут зноў згадалася мне...**

**Урок заканчваўся. У класе ўсчаўся неверагодны гвалт. Нягледзячы на шматлікія просьбы Лідзіі Іванаўны, ніхто і не думаў спыняць размовы. Ва ўсіх з'явіліся неадкладныя праблемы, якія кожны, перакрываючы іншых, адразу ж спрабаваў вырашыць.**

**— Цішэй, што з вамі!..**

**Не спадзеючыся ўжо на тое, што нас можна супакоіць, яна стаяла каля дошкі і моўчкі глядзела на ўсё гэта. Празвінеў званок, і толькі цяпер усе паглядзелі на яе: «Што, маўляў, задаваць будзеце!»**

**Настаўніца выбегла з класа.**

**— Што з ёю! — спытаўся нехта і засмяяўся.**

**— Яна плача... Мы пакрыўдзілі яе...**

**Яна пайшла працаваць у бібліятэку. Але ўрок у нас па-ранейшаму вядзе: дырэктар папрасіла. І вось я сяджу на ўроку беларускай літаратуры. За вокнамі — снег, мароз. У класе цёпла, утульна. Лідзія Іванаўна расказвае біяграфію Івана Мележа. Голас — плаўны, спакойны, быццам лунае ў паветры...**

**г. Мінск.**

**АДКРЫТЫ ЎРОК**




# ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ КАНТРАСТЫ

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 6.**

віча Кірыліка, які прывычна і чуйна праводзіць далонню па шурпатым драўляным аполку: цудоўны матэрыял для птушынага дамка.

Шліфаваць сценкі да бляску — лішняе. Трэба, каб і птушцы работа заставалася. Шпаклёўка, чыстка... Каб у птушцы — птушынае, дзікае не знікала. А ў чалавеку — чалавечае. Разважае майстар.

І ўсё ж з гэтымі чурбакамі-дамкамі Іван Міхайлавіч крыху перад прыродай хітруе: выразае па два выхады-ўваходы. Навошта? Вельмі проста. Калі нападзе драпежнік — будзе птушцы магчымасць выратавацца.

Калекцыяніраваць дуплістыя паленні Іван Міхайлавіч пачаў даўно. У якім дакладна годзе — цяпер ужо і не згадае. Як такая ідэя прыйшла ў галаву? Само па сабе атрымалася. Працаваў у леспрамгасе майстрам лесанарыхтовак. Праводзілі чысткі лесу, так званыя санітарныя высечкі: нетаварнае, сухое дрэва — валі, не шкадуй...

— Вось так і выжывалі з лесу птушак, ім жа дуплістыя дрэвы патрэбныя: прасцей сяліцца,— тлумачыў Іван Міхайлавіч.

Пачаў падбіраць дуплістыя чурбачкі з тых дрэў, цягаў іх у хату. Заваліў падворак, хлеў.

— Навошта табе смецце?— не маглі зразумець вяскоўцы.— У грубку, хіба, і то не спатрэбяцца.

Але Іван Міхайлавіч і не думаў пра грубку. Перажываў за сапраўдныя, але амаль страчаныя аздобы сасновага бору. Задумаў усіх пугачоў, усіх шызаваронак і круцігаловак, што пакінулі гэтыя мясціны, назад вярнуць. Хто ж дапаможа птушкам у такой сітуацыі, калі не ён? Зойдзе глыбей у лес, у самы гушчар, выбера месца і вешае сабе дамкі, як ліхтарыкі. Так іх сам называе. Ліхтарыкі — таму што ад птушак, якія ў дамках жывуць, у лесе святлее. Тысяч пяць цуда-дамкоў Кірыліка абжывае птаства ў радыусе пятнаццаці кіламетраў вакол яго сядзібы. Хіба мала?

І на падворку сапраўдны птушыны базар. Цэлыя чароды ўзнімаюцца над хатай. Сініцы і валасянкі, мухалоўкі і пеначкі — не пералічыць усіх.

Жыве Іван Міхайлавіч у пастаяннай трывозе за птушак, за ўсё жывое. Не, ён арнітолаг недыпламаваны. Не тэарэтык. Ён — практык. Усе гады, дзень пры дні, вёў Іван Міхайлавіч дзённік: запісваў свае назіранні за жыццём насельнікаў лесу, саду. Метэаралогія. Феналогія. Раслінаводства. Такія былі ў тым дзённіку раздзелы. Ім была сабрана найкаштоўнейшая, унікальная інфармацыя. Думаў перадаць унукам у спадчыну замест пропісаў.

Але нядаўна з'явіўся ў яго хаце энергічны маладжавы чалавек. Назваўся навуковым работнікам. Іван Міхайлавіч разгаварыўся шчыра, даў пагартаць яму дзённікі. Што скажа пра іх вучоны чалавек? Усё ж цікава... Той захапляўся. Казаў шмат добрых слоў. Пражыў дарагім госцем тры дні. І пераканаў: забраў у Івана Міхайлавіча яго дзённікі. А сам як у ваду кануў. Ні адраса, ні прозвішча свайго не назваў. Самому Кірыліку пытацца было няёмка: раптам пакрыўдзіў бы недаверам чалавека?

Затым — яшчэ адно засмучэнне.

Справа ў тым, што Іван Міхайлавіч кожны год адпраўляе адборныя яблычкі са свайго саду ў бальніцы і дзіцячыя садочкі раёна. Зразумела, бясплатна. А з тых грошай, што выручыць на рынку, і адразу ж узнос у Фонд міру. Пачуўшы пра гэта, панадзіліся да яго на грузавіках прадпрымальныя юныя спрытнюгі. Маўляў, мы самі ўсё за цябе зробім, дзед. Вызвалім ад непасільнага клопату: і яблыкі здамо як мае быць, і квітанцыю ад Фонду міру прышлём. Іван Міхайлавіч ажно ўзрадаваўся. Дзвюма рукамі схапіўся за такую падмогу: хлопцы ж самі адгукнуліся. Але і тут ашукалі яго. Ні яблыкаў у бальніцу, ні квітанцыі... Неяк перадалі Івану Міхайлавічу з раёна, што, маўляў, пакаралі тых спрытнюг.

— Яблыкаў мне не шкада,— сказаў ён.— Увосень будуць яшчэ. Людзей шкада. І дзённікаў. Можа, адгукнецца, верне?

Не вяртае. Не адгукаецца.

А як бы хацелася, каб адгукнуўся той маладжавы суразмоўца Івана Міхайлавіча Кірыліка, каб зацікаўленых суразмоўцаў вакол яго добрай справы было больш — хоць бы тыя ж дзеці з яго роднае вёскі. Каму ж яшчэ, як не ім, перадаць такую багатую спадчыну?



Пасылаючы свае вершы ў розныя рэдакцыі, Алег Мінкін доўга атрымліваў адказы, у якіх яго папракалі за недастатковае веданне жыцця — маўляў, таму і пішаце на гістарычную тэму. Але малады паэт, які выхоўваўся ў школе-інтэрнаце, скончыў Маскоўскі інстытут інжынераў сельскай гаспадаркі, працаваў на БАМе, усё роўна ўпарта працягваў пісаць вершы, вонкава абсалютна не звязаныя з яго ўласным жыццёвым вопытам. Вынікам гэтай зацятасці стала кніга ягоных вершаў «Сурма», якая выйшла ў 1985 годзе і адразу ж апынулася пад агнём нашых шаноўных крытыкаў. Ці не таму Алег і з'ехаў на два гады на газавыя радовішчы Цюменшчыны! Магчыма, плёнам яго паездкі стане другая кніга, у якой яму зноў... не хопіць жыццёвага вопыту!

### Алег МІНКІН

## ВАНДРОЎНІК

Даўным-даўно ў палоне мар зіхотных
Пакінуў я маленства астравы,
Дзе полымя зялёнае травы
Шчаку кранала дотыкам пяшчотным.

І вось дайшоў я да зямлі бясплоднай —
Там дрэва з рэшткай голляў нежывых
Тырчала чорнаю рукой з жарствы
Пад сонцам раўнадушным і халодным.

І сцяўся я, пазнаўшы бераг родны,
Які пакінуў калісь незваротна,
Шукаючы ў прасторы лепшы край...

Вось ён — адзіны вынік вандраванняў!
О сонца, спапялі мяне дазвання!
Будзь вечным спадарожнікам, адчай!

## РАБ

Мой жах сляпы са мною неадлучны —
Я зросся з ім, ён мой і слых, і зрок,
Не верце мне, бо ім наскрозь атручаны
І слова кожнае, і кожны мой радок.

І калі раптам з вуснаў незнарок
Зляціць якое вольнае сугучча —
Нібы сабака, адбягу я ў бок
І ў спудзе вінавата хвост падкурчу.

Як насланнё ці злы нязводны дух,
Жах падпільноўвае мой кожны рух
І адлятае слізкай павуцінай.

Ні звесці не магу, ні бегчы прэч,
Мой жах над каркам, бы дамоклаў меч,
Што не дае мне выпрастаць хрыбціну.

## ЛІРЫК

Я схаваўся сюды ад навальніцы.

Пасля грымотаў перуна і шапацення дажджу аглушыла мяне цішыня. Асляпілі россыпы шкляных расінак на расфарбаваных папяровых кветках: ад іх тхнула нібы з разнасцежаных дзвярэй цырульні.

Віславусы штукар у брылі і ў белай, вышытай чырвонымі ромбікамі кашулі штомоцы дзьмуў у жалейку. Аднак замест гукаў з раструба жалейкі сыпаліся цясцяныя жаўрукі, васковыя чырванабокія яблыкі, цюбікі з губною памадаю, а часам павольна выплывалі пудзілы буслоў.

Поруч з віславусым сядзеў парцалянавы воўк і пасміхаўся бяззубаю пашчаю на прычасаных плюшавых балонак, што, бязгучна брэшучы, скакалі вакол яго. Да чырвонага ваўчынага языка прыліпла сухая травінка — звер, мабыць, толькі што ласаваўся сенам.

Угары лунала вясёлкавая бурбалка сонца, а завершваў утульны краявід сіні шкляны каўпак, за якім — я ведаў! — гула навальніца.

## ТРЫБУН

Не вер дзядзькам, што плішчацца ў сябры,
Фрак лёкая схаваўшы пад сярмягай,
Не вер, калі паказваюць адвагу,
Маўляў, і мы — таксама змагары.
Калі перад табой са скуры пнецца,
Калі табе ў адданасці клянецца
Такі вось шчыры з выгляду мярцвяк,
Ты пакажы яму і кінь мядзяк,
Убачыш, які вэрхал усчанецца,
Якія спрэчкі, сваркі, бойкі, звадкі...
Зірні на іх — і прочкі без аглядкі!

## АДЛЮСТРАВАННЕ

На памяці думках пачуццях іржа
Блакітных экранаў расстаўлены пасткі
У зыркія бляскі неонавых пасмаў
Як звер зацкаваны збягае душа

Як звер зацкаваны збягае душа
У зыркія бляскі неонавых пасмаў
Блакітных экранаў расстаўлены пасткі
На памяці думках пачуццях іржа

## ЮНАЦТВА

Выстукваю па прутах чыгуннай агароджы няісную мелодыю.

І поўнюся тупатам крокаў, званкамі трамвайнымі, смехам, гамонкай бязладнай, і набрыняю тугою, нібыта дажджом, а дажджынкі ніяк не пральюцца.

Ноччу кружляю ў блакітным святле ліхтароў і шукаю сабе адзіноты, ды толькі знаходжу маўчанне, бо хто ж адзіноты шукае — без запрашэння ў адведкі прыходзіць яна.

І думаю ноччу: «Мне хораша толькі з дажджом ціхамірным, што гладзіць крывавае лісце, распнутае ветрам на бруку».

І гэтак: «Не веру я ў сонца, і мне даспадобы адна толькі казка пра горад пануры і хворы, ніколі-ніколі ў які не заглядвала лета».

Так думаю ноччу, а сам па-над ворывам цёплым у граю грачыным лунаю, вітаючы сонца, якое вылыньвае з радаснай пены аблокаў.

◆ ◆ ◆

О, не запальвай, горад сонны,
Свае зіхотныя агні —
Хай цьміцца вечнае сутонне
У сховах вечнай цішыні,
Хай не крануць ніколі слыху
Ні шоргат шын, ні тупат ног...
Я тут адным каханнем дыхаў,
Але й кахання не збярог.



### Франц КАФКА

# РАЗМОВА З БАГАМОЛЬЦАМ

**У творах вядомага аўстрыйскага пісьменніка пачатку нашага стагоддзя Франца Кафкі (1883—1924) выразна адбіваецца трагедыя лёсу іх аўтара, трагедыя лёсу кожнай неардынарнай асобы, якая вымушана, пакутуючы, існаваць у жорсткім і бяздушна-рацыянальным грамадстве.**

**Апавяданне Франца Кафкі, якое друкуецца тут па-беларуску, яшчэ невядомае шырокаму айчыннаму чытачу. Пазнаёміцца з іншымі апавяданнямі гэтага аўтара можна будзе, калі выйдзе з друку штогоднік «Далягляды» за 1988 год.**

Быў час, калі я штодня хадзіў у царкву, бо дзяўчына, у якую я закахаўся, кожны вечар па паўгадзіны малілася там, і я тады спакойна мог разглядаць яе.

Калі аднаго разу дзяўчына не прыйшла і я без усялякае ахвоты пазіраў на тых, што маліліся, на вочы мне раптам трапіўся малады чалавек, які сваім хударлявым целам усё прыціскаўся да падлогі. Раз-пораз ён намаганнямі ўсяго цела ўскідваў галаву і, глыбока ўздыхаючы, утыкаўся ёю ў далоні, пакладзеныя на голыя камяні.

У царкве сям-там яшчэ стаялі старыя жанчыны; яны почасту паварочвалі свае захутаныя ў хусткі галовы, каб паглядзець на чалавека, які маліўся. Здавалася, багамолец быў рады з гэтае ўвагі, бо, перш чым дэманстраваць ужо каторы раз сваю набожнасць, ён увесь час падымаў вочы, каб праўдзіць, ці яшчэ на яго глядзяць. Я падумаў, што гэтак рабіць непрыстойна, і вырашыў па імшы спыніць хлопца каля выхаду і спытацца, навошта ён так робіць. Вядома, я быў не ў гуморы, бо мая дзяўчына не прыйшла.

Але мінула цэлая гадзіна і толькі тады ён нарэшце падняўся, старанна яшчэ раз пераждагнаўся і няроўнай хадою паклыпаў да чары з свянцонаю вадою. Я стаў на паўдарозе паміж чарай і дзвярыма, вырашыўшы не адпускаць яго, пакуль ён усё мне не растлумачыць. Я нават склаў губы так, як гэта звычайна раблю, калі збіраюся гаварыць пра нешта сур'ёзнае. Правую нагу я выставіў крыху наперад, пераносячы на яе ўсю вагу майго цела, пры гэтым левая нага краналасця зямлі толькі наском: гэткая пастава таксама надае мне цвёрдасці.

Пырскаючы сабе на твар свянцонаю вадою, гэты чалавек, напэўна, ужо касавурыўся на мяне; відаць, ён занепакоіўся раней — тады, як толькі ўбачыў маю постаць, бо раптоўна з усіх ног паляцеў да дзвярэй. Шкляныя дзверы зачыніліся за ім, я адразу выбег на двор, але яго ўжо не было відаць, таму што паблізу там скрозь адны вузкія вулачкі, і рух тады быў даволі жвавы.

Потым некалькі дзён яго не было, затое прыходзіла маліцца мая дзяўчына. Яна заўсёды была ў чорнай сукні з празрыстымі карункамі каля плеч — пад імі паўмесяцам відзён быў прыгожа пакроены ядвабны каўнер. Дзяўчына цяпер прыходзіла штодня, і я зусім быў забыўся на маладога чалавека; нават калі ён пачаў паяўляцца зноў і маліцца гэтаксама, як той раз, усё гэта мяне не надта турбавала. Да таго ж ён кожны раз вельмі хутка праскокваў міма, адвярнуўшыся ад мяне. Магчыма, гэта было таму, што я ўяўляў яго адно ў няспынным руху — і мне ўсё здавалася, нібыта ён кудысьці ўцякае, нават калі ён стаяў нерухома. Аднаго разу я заседзеўся ў сваім пакоі, але ў царкву ўсё ж пайшоў. Дзяўчыны там я ўжо не заспеў і збіраўся вяртацца дахаты. Але ніцма на пад-

лозе там ізноў ляжаў той самы малады чалавек. Я прыгадаў першую сустрэчу з ім, і мяне зноў апанавала цікаўнасць.

На дыбачках я падышоў да бабінца, падаў манету жабраку, што якраз апынуўся поруч, і стаіўся каля бліжэйшай да яго палавіны дзвярэй; там я прастаяў каля гадзіны — напэўна, з хітрым выглядам. Увогуле мне там было нягблага, і я падумаў спачатку, што варта прыходзіць туды пасядзець часцей. Калі ж ужо ішла другая гадзіна, мне пачало здавацца глупствам, што я тырчу там з-за нейкага багамольца. І ўсё ж яшчэ не менш як гадзіну я даваў павукам магчымасць снаваць павуціннe каля сябе; за гэты час з цёмнае царквы, гучна дыхаючы, павыходзілі ўсе астатнія людзі.

Нарэшце выйшаў і ён. Гэты чалавек рухаўся асцярожна, яго ногі, перш чым ступіць на зямлю, як бы намацвалі яе.

Я ўстаў і, зрабіўшы вялікі крок проста насустрач багамольцу, схапіў яго за каўнер. Сказаўшы яму «Добры вечар!», я пачаў выпіхваць яго па прыступках уніз, на светлае месца.

Унізе ён зусім няўпэўнена сказаў:

— Добры, добры вечар, шаноўны пане. Не злуйцеся на мяне, адданага вам слугу.

— Дык вось,— сказаў я,— я хачу, мой пане, у вас пра сёе-тое спытацца; таго разу вы ўцяклі ад мяне, сёння гэта ў вас наўрад ці атрымаецца.

— Вы здольныя спачуваць іншым, васпане, і адпусціце мяне дадому. Я проста варты жалю чалавек. Гэта праўда.

— Не! — крыкнуў я праз шум трамвая, што якраз ішоў па вуліцы.— Я вас не пушчу. Гэткія вось гісторыі мне даспадобы. Вы мая ўдалая здабыча. Я сябе віншую.

Ён жа адказаў:

— Ах божа ж мой! У вас порсткае сэрца, а галава — нібы камлыга. Вы кажаце, што я — удалая здабыча. Куды як удалая! Бо маё няшчасце — гэта няшчасце, якое вісіць: яно вісіць проста на валаску. І калі яго закрануць... яно спадзе на таго, хто пытаецца. Дабранач, васпане.

— Добра,— сказаў я, моцна трымаючы яго за правую руку.— Калі вы мне не адкажаце, я вось тут на вуліцы пачну лямантаваць. І ўсе дзяўчаты-магазіншчыцы, што цяпер вяртаюцца з крамаў, і іхнія хлопцы, якія радасна чакаюць спаткання,— усе збягуцца сюды, падумаўшы, што недзе паваліўся конь пры карэце ці яшчэ што такое здарылася. Няхай яны тады пагдядзяць на вас.

Тут ён заплакаў і пачаў цалаваць то адну, то другую маю руку.

— Я ўсё вам раскажу, пра што б вы ні хацелі даведацца. Толькі, калі ласка, зойдзем вунь туды, у бакавую вулачку.

Я моўчкі згадзіўся, і мы пайшлі туды.

Але прыцемак завулка, уздоўж якога далёка адзін ад аднаго жоўта мігцелі ліхтары, яму не спадабаўся, і ён пацягнуў мяне ў невысокую падваротню старога дома. Мы спыніліся каля маленькай свяцільні, з якой кроплямі цёк алей.

Ён паважна выцягнуў з кішэні насоўку і, абапёршыся нагой на прыступку лесвіцы, сказаў:

— Сядайце, васпане. Гэтак вам будзе зручней пытацца. А я буду стаяць: мне так лягчэй будзе даваць адказы. Толькі не трэба мяне цвяліць.

Я сеў на прыступку і, прыжмурыўшыся, сказаў:

— Вы сапраўдны вар'ят, во хто вы! Як вы сябе паводзіце ў царкве? Як прыкра і непрыемна робіцца кожнаму, хто гэта бачыць! Ці ж магчыма цалкам аддавацца набажэнству, калі вы перад вачыма?!

Ён прыціснуўся ўсім целам да сцяны, адно ягоная галава матлялася ў паветры.

— Не трэба злаваць. Навошта вам злаваць з-за рэчаў, якія вас не закранаюць? Я злую на сябе, калі раблю ўсё нязграбна, але калі дрэнна сябе паводзіць хтосьці іншы, я толькі рады гэтаму. Вам няма чаго злаваць, я павінен вам сказаць, што рабіць так, каб людзі на мяне глядзелі, ёсць мэта майго жыцця.

— Што гэта вы кажаце! — ускрыкнуў я занадта гучна як для гэтага калідорчыка, але пасля ўжо баяўся гаварыць цішэй.— Напраўду, што вы там сказалі? Ну, вядома, я падазраю... я падазраваў, убачыўшы вас яшчэ першы раз, што ў вас такое... У мяне ёсць пэўны вопыт, і гэта зусім не жарт, калі я называю гэта марской хваробай на сушы. Сутнасць гэтае хваробы ў тым, што вы забыліся на сапраўдныя імёны рэчаў і цяпер на хаду сыплеце на іх першыя-лепшыя назвы. Каб толькі хутчэй, толькі б хутчэй! Але не паспееце вы ад іх уцячы, як зноўку забываецеся на іх імёны. Тапаля ў бязмежжы палёў,— якую вы назвалі Вавілонскаю вежаю, бо не ведалі альбо не хацелі ведаць, што гэта была тапаля,— зноў гайдаецца безназоўная, і вам трэба было б назваць яе «п'яным Ноем».

Я трохі збянтэжыўся, калі ён сказаў:

— Я рады, што не зразумеў, пра што вы гаварылі.

Хвалюючыся, я адказаў хутка:

— Тое, што вы ўзрадаваліся,— гэта доказ таго, што вы ўсё зразумелі.

— Ведама ж, гэта — доказ... але і вы гаварылі дзіўна, згадзіцеся.

Я абапёрся рукамі аб верхнюю прыступку, адкінуўся і ў гэтай амаль непрыступнай позе, позе барца ў самы небяспечны момант паядынку, спытаўся:

— Вы ратуеце сябе цікавым спосабам, даючы іншым меркаваць пра ваш стан, ці так?

Тут ён пасмялеў. Сашчапіўшы рукі, каб адчуваць сябе адзіным цэлым, ён з пэўным пярэчаннем адказаў:

— Не. Я раблю гэта ў дачыненні не да кожнага — і не да вас, напрыклад, бо я гэтага не ўмею. Але я б хацеў умець: тады ўвага людзей у царкве мне была б зусім непатрэбная. Ведаеце, навошта яна мне?

Гэтае пытанне зрабіла мяне бездапаможным. Пэўна, я гэтага не ведаў і, як мне здаецца, зусім не хацеў ведаць. Мне ж нават і не карцела сюды прыходзіць, сказаў я тады сам сабе, ды гэты чалавек прымусіў выслухаць яго. І мне ўжо было трэба адно што адмоўна матлянуць галавою, але я не змог ёю нават паварушыць.

Чалавек, што стаяў насупраць, усміхнуўся. Потым ён прысеў на адно калена і пачаў санліва мармытаць:

— Яшчэ ніколі не было такой хвіліны, каб я быў пераканаы, што я жыву. Навакольныя рэчы ўспрымаюцца мною так няпэўна, што мне ўвесь час мроіцца, нібыта гэтыя рэчы калісь жылі, а цяпер яны правальваюцца, знікаюць. Заўсёды, васпане, я б хацеў бачыць рэчы такімі, якімі яны хочуць сябе паказаць — перш чым яны сапраўды робяць гэта. Відаць, яны тады прыгожыя і спакойныя. Мусяць быць такімі, бо я часцяком чую, як людзі гэтак кажуць пра іх.

Я нічога не адказаў, і толькі міжвольнае торганне майго твару выдавала, як мне было непамысна. Таму ён спытаў:

— Вы што, не верыце, што людзі гэтак кажуць?

Я хацеў кіўнуць галавою, ды не здолеў.

— Вы сапраўды не верыце? Дык паслухайце! Яшчэ ў маленстве, калі я расплюшчваў вочы пасля кароткага паўдзённага сну, не прачнуўшыся як след, я чуў, як маці звыклым голасам пыталася ў кагосьці з балкона: «Што вы робіце, даражэнькая? Сёння ж так горача». І аднекуль з саду адказвала жанчына: «Я палудную тут у садзе». Яны размаўлялі не раздумваючы і не надта каб разборліва — нібыта ўсім загадзя было вядома, пра што яны збіраюцца гаварыць.

Мне падалося, што гэта было пытанне, і я засунуў руку ў заднюю кішэню, быццам штосьці шукаючы. Але я нічога не шукаў, а толькі хацеў сваім выглядам паказаць, што ўдзельнічаю ў размове. Я сказаў, што гэты выпадак і праўда дзіўны, і я яго ніяк не магу растлумачыць. Я дадаў, што ўвогуле не веру ў праўдзівасць гэтага выпадку і што мой партнёр, маючы пэўную мэту, якой я ні ў якім разе не магу зразумець, усё гэта, відаць, прыдумаў. Пасля я заплюшчыў вочы, бо яны мне балелі.

— О, гэта добра, што вы думаеце гэтаксама, як і я, і вы зрабілі шчыра, калі зацягнулі мяне сюды, каб сказаць пра ўсё. Чаму ж я павінен саромецца ці чаму нам трэба адчуваць сорам з-за таго, што я не хаджу скурчаны, цяжка ступаючы, і не стукаю кіем па бруку, не кранаюся апранах людзей, якія праходзяць міма з гэткім шумам? Хутчэй, можа, у мяне ёсць права пярэчыць і скардзіцца, што я, нібы цень, туляюся з вострымі плячыма між дамоў, падскокваючы і раз-пораз знікаючы ў вітрынных шыбах?

Што ж гэта за дні, якія я праводжу? Чаму ўсё так дрэнна збудавана, што часам бурацца высозныя гмахі без ніякай знешняй прычыны? Тады я поўзаю па руінах, пытаючыся ва ўсіх, каго толькі ўбачу:

— Як гэта магло здарыцца... у нашым горадзе... новы дом... сёння гэта пяты ўжо... падумайце толькі.

І ніхто мне не можа адказаць.

Часцяком здараецца, што людзі проста валяцца на брук і паміраюць. Тады крамнікі адчыняюць свае абвешаныя таварамі дзверы, на гнуткіх нагах падступаюцца да нябожчыка, нясуць яго ў дом, вяртаюцца, усміхаючыся ротам і вачыма і кажучы:

— Дзень добры... неба яснае... хусткі добра бяруць... вядома ж, вайна.

Я кідаюся ў дом і, некалькі разоў падняўшы і апусціўшы руку з сагнутым пальцам, урэшце стукаюся ў акенца да дворніка.

— Дарагі чалавеча,— кажу я прыязна,— да вас прынеслі тут нябожчыка. Калі ласка, пакажыце яго мне.

І калі ён неяк нерашуча хітае галавой, я кажу ўпэўнена:

— Дарагі чалавеча, я — з сакрэтнай паліцыі. Пакажыце мне хутчэй цела нябожчыка.

— Нябожчыка? — пытаецца ён, амаль абражаны.— Ніякага нябожчыка ў нас тут няма. Тут прыстойны дом.

Я развітваюся і іду прэч.

Але пасля, калі я збіраюся прайсці праз вялікі пляц, я на ўсё забываюся. Цяжар гэтае справы мяне бянтэжыць, і я часта думаю сам сабе: «Калі гэткія пляцы ствараюць проста ад няма чаго рабіць, дык чаму не будуюць вялікіх мураваных лесвіц, якія б вялі цераз пляц? Вецер дзьме сёння з паўднёвага захаду. Паветра хвалямі кocіцца па пляцы. Ды шпіль на ратушавай вежы не апісвае колаў. Чаму ў гэтым вэрхале не ўсталюецца спакой? Аконныя шыбы ўсё гамоняць, ліхтарні гнуцца — не раўнуючы, як бамбук. Убранне святой Марыі на стодзе развяваецца, моцны вецер ірве яго. Хіба ніхто не бачыць гэтага? Мужчыны і жанчыны, якія павінны былі б існіць па камянях, лунаюць над імі. Калі вецер набірае дыханне, яны спыняюцца, кажуць адно аднаму колькі слоў і, кланяючыся, развітваюцца; калі ж вецер мацнее зноў, яны не могуць процістаяць яму і ўсе адначасна падымаюць ногі. Хоць яны і мусяць моцна трымаць свае капелюшы, вочы іхнія пазіраюць хітра, нібыта стаіць пагодлівы дзень. І толькі аднаму мне страшна.

Зусім знішчаны, я адказаў:

— Гісторыя, якую вы раней распавялі пра вашую шаноўную маці і тую жанчыну ў садзе, мне ані не здаецца дзіўнаю. І не таму, што я чуў шмат падобных гісторый і быў іх сведкам — нават калі-нікалі ўдзельнічаў у іх. Тут усё натуральна. Вы думаеце, калі б я стаяў там на балконе, хіба я б не сказаў тое самае ці гэтаксама не адказаў бы з саду? Зусім звычайны выпадак.

Пасля гэтых маіх слоў ён, здаецца, адчуваў сябе шчаслівым. Ён сказаў, што я добра апрануты і што яму вельмі падабаецца мой гальштук. І яшчэ — што ў мяне прыгожы колер твару. А прызнанні робяцца зусім зразумелымі, калі іх абвяргаюць.

1909

Пераклаў з нямецкай Лявон БАРШЧЭЎСКІ

Афармленне Канстанціна ВАШЧАНКІ

КАРУНКІ ЧАСУ

# „...НЕ ЖАЛЬ ЗГІНУЦЬ ЗА ТВАЮ ПРАЎДУ"

Уладзімір КОНАН

**Сёлета ў нашай рэспубліцы адзначаюцца два гераічныя юбілеі: 150-годдзе з дня нараджэння аднаго з найбольш смелых і таленавітых кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гг. Кастуся Каліноўскага (нарадзіўся 2 лютага 1838 года) і 125-годдзе самога паўстання, якое мела выключнае значэнне для станаўлення нацыянальнае самасвядомасці беларусаў.**



Што паўстанне наспявае, што яно вось-вось выбухне, пра гэта ведалі абодва бакі: уся ваенна-бюракратычная машына Расійскай імперыі на чале з царом і рэвалюцыянеры Расіі, Польшчы, Беларусі і Літвы. Выбух прадчувала ўся Еўропа. Царызм ведаў, што палякі ніколі не зміраццa з падзелам Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Аўстрыяй, Прусіяй.

Але што такое былі палякі ва ўяўленні царызму? Толькі тыя, хто жыў на заходнім беразе Буга? Палякамі лічылі і ўсіх католікаў Беларусі і Літвы — былога Вялікага княства Літоўскага. Каб павялічыць «рускі элемент» на гэтых землях, царскі ўрад скасаваў царкоўную унію, і тысячы, сотні тысяч сялян гвалтам былі пераведзены ў праваслаўе. З дапамогаю царквы іх пачалі выхоўваць у духу «народнасці». Назвы «Беларусь» і «Літва» зніклі з карты імперыі, адным росчыркам царскага пяра быў абвешчаны Паўночна-Заходні край. Тады ж, пасля паўстання 1830—1831 гг., на тэрыторыі Беларусі і Літвы замест мясцовага было ўведзена імперскае заканадаўства, тысячы шляхціцаў былі пазбаўлены сваіх правоў і пераведзены ў разрад аднадворцаў і мяшчан, адміністрацыйныя і судовыя пасады былі перададзены праваслаўным, пераважна пераведзеным сюды з Расіі, чыноўнікам, быў зачынены універсітэт у Вільні, беларускай і літоўскай моладзі забаранялася вучыцца ў Польшчы, была забаронена беларуская мова. Усё гэта і рэкрутчына, якое беларускія і літоўскія сяляне не ведалі пры Рэчы Паспалітай, не магло не нарадзіць глыбокага незадавальнення рэжымам як сярод шляхты, гэтак і сярод сялян. Раней ці пазней «край» павінен быў выбухнуць...

Праўда, сярод «спецыялістаў» і «знаўцаў» Беларусі нарадзілася думка пра тое, што беларускі народ — цёмны, забіты, не здольны да актыўнай гістарычнай дзейнасці. Прыслухоўваючыся да такіх выказванняў, Мікалай Дабралюбаў у 1860 г. пісаў: «Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы».

І праз два гады вуснамі Кастуся Каліноўскага беларусы сказалі сваё слова: «Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здатна толькі да сахі,— цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядліву як Бог на небі. О, загрыміць наша праўда і як маланка пераляціць па свеці! Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, але яшчэ і вучыць сваей мужыцкай праўдай».

Аляксандр Другі думаў, што рэформаю 1861 г. выпусціць пару з катла і пазбегне выбуху. Але народ не задаволіўся абмежаванымі рэформамі. Выказваючы яго настрой, К. Каліноўскі пісаў у «Мужыцкай праўдзе»: «А гэты маніфэст, што Цар з Сенатам і з панамі для нас напісаў, то такі дурны, што чорт яго ведае, да чаго ён падобны,— ніякай у ім няма праўды, няма з яго для нас ніякай карысці». І працягваў: «Могуць яшчэ напісаці і другі маніфэст, але з гэтага другога маніфэсту нічога добрага як і з першага не будзе». Так даводзілася думка пра тое, што народ не атрымае жаданых зямлі і волі пад уладаю цара. Адсюль вынікала адна-адзіная выснова: «...мы пазналі, дзе сіла і праўда, і будзем ведаць, як рабіць трэба, каб дастаць зямлю і свабоду. Возьмемся, дзецюкі, за рукі і трымаймася разам! А калі паны хочуць трымацца з намі, дык няхай жа робяць па святой справядлівасці: бо калі іначай — дык чорт іх пабярэ! Мужык пакуль здужае трымаці касу і сякеру, бараніць свае патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе».

Да народа звярталіся на ягонай мове. Народ заклікалі да рэвалюцыі, мэтамі якое былі зямля і воля, вызбаўленне з-пад ярма самадзяржаўнага дэспатызму.

А як жа нацыянальнае пытанне? Як меркавалася вырашыць яго? Нягледзячы на моцныя сувязі беларускай і літоўскай шляхты з Польшчаю, яна ніколі не забывала, што Польшча — гэта Польшча, а Вялікае княства Літоўскае — гэта Княства. Краёвы патрыятызм быў уласцівы ёй заўсёды. На пачатку XIX ст., пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, вядомы кампазітар князь Міхал Клеафас Агінскі распрацаваў і прадставіў цару Аляксандру Першаму план адраджэння Вялікага княства Літоўскага і прадастаўлення яму аўтаноміі ў складзе Расійскай імперыі. Праект быў адхілены. Час ішоў. Паступова складваліся беларуская і літоўская нацыі. Гаворкі аб аднаўленні колішняй Рэчы Паспалітай цяпер не магло быць. Гэта добра разумелі передавыя людзі таго часу. У прыватнасці, Аляксандр Герцэн пісаў: «...быць Літве, Беларусі і Украіне з кім яны хочуць або ні з кім, абы толькі волю іх ведаць — не падробную, а сапраўдную».

Па гэтых пытаннях — аб зямлі, волі, нацыянальным самавызначэнні — яшчэ ў 1861 г. разгарнуліся спрэчкі паміж дзвюма партыямі — «чырвоных» і «белых». «Белыя» марылі аб адраджэнні былой Рэчы Паспалітай з палітычнай, эканамічнай і культурнай перавагай «польскага элементу». Да «белых» у гэтым пытанні далучылася і пэўная частка «чырвоных». Процілеглаю была пазіцыя другое часткі «чырвоных» — Кастуся Каліноўскага, Антанаса Мацкявічуса ды іхніх паслядоўнікаў. Наш вялікі рэвалюцыянер угаворваў сваіх сяброў — Зыгмунта Сераkоўскага і Людвіка Звяждоўскага — адмовіцца ад плана стварэння «непадзельнай Польшчы» і выказваўся «на карысць шырокай палітычнай самастойнасці для Беларусі і Літвы».

Нягледзячы на спрэчкі, у маі 1862 г. па ініцыятыве «чырвоных» (Ярослава Дамброўскага і іншых) быў створаны штаб для падрыхтоўкі паўстання — Цэнтральны Нацыянальны Камітэт (ЦНК) у Варшаве. У чэрвені быў прыняты план паўстання (пазней ён быў адхілены памяркоўным крылом кіраўніцтва). У верасні 1862 г. упаўнаважаныя ЦНК і рэвалюцыйнага Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы вялі ў Лондане перагаворы з Аляксандрам Герцэнам, Мікалаем Агаровым і Міхаілам Бакуніным аб супольным выступленні народаў Расіі, Польшчы, Беларусі і Літвы супраць царызму.

На Беларусі і ў Літве паўстанне рыхтаваў Літоўскі правінцыяльны камітэт. У канцы 1862 г. яго ўзначаліў К. Каліноўскі.

Царызм пільна сачыў за падзеямі ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Каб падарваць базу паўстання, царскі ўрад абвясціў усеагульны рэкрутскі набор у Польшчы. Гэта выклікала абурэнне польскага народа, і паўстанне пачалося раней, чым планавалася. 10 (22) студзеня 1863 г. ЦНК абвяціў сябе Часовым нацыянальным урадам.

Пад уплывам К. Каліноўскага Літоўскі правінцыяльны камітэт стаў Часовым правінцыяльным урадам Літвы і Беларусі, а ў перамовах з прадстаўніком варшаўскага ЦНК Н. Дзюлёранам выступіў за нацыянальную самастойнасць Літвы і Беларусі, за рэвалюцыйны саюз з рускім народам. Прывід народнай рэвалюцыі смяротна напалохаў «белых». У канцы лютага 1863 г. яны ўвайшлі ў змову з Н. Дзюлёранам і здзейснілі пераварот. Кіраўніцтва паўстаннем было перададзена ў рукі «белага» Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы на чале з Я. Гейштарам.

Асноўныя падзеі на Беларусі і ў Літве пачаліся тады, калі ваенныя дзеянні ў Польшчы развіваліся не на карысць паўстанцаў,— у сакавіку 1863 г. У адрозненне ад Польшчы, на Беларусі і ў Літве вялікі ўдзел у паўстанні бралі сяляне і мяшчане. Пра гэта ў «Колоколе» пісаў А. Герцэн. Гэта адзначаў Ф. Энгельс у лісце да К. Маркса 8 красавіка 1863 г. Пра гэта сведчаць і афіцыйныя лічбы: за ўдзел у рэвалюцыйным руху да 1 студзеня 1865 г. было «рэпрэсіравана» (пакарана смерцю, выслана на катаргу і «на пасяленне», аддадзена ў салдаты, у арыштанцкія роты і пад нагляд паліцыі) 21 712 чалавек, у тым ліку: духоўных асоб (ксяндзоў і інш.) — 294, асоб з прывілеяваных саслоўяў (пераважна дробнай і сярэдняй шляхты) — 6443, «просталюдзінаў» — 14 975. Шырокі ўдзел «простага люду» ў паўстанні не ў апошнюю чаргу тлумачыўся тым, што ваеннымі дзеяннямі на Беларусі і ў Літве кіравалі «чырвоныя»: Кастусь Каліноўскі, Зыгмунт Серакоўскі, Валерый Урублеўскі, Людвік Звяждоўскі, Антанас Мацкявічус, Рамуальд Траўгут... Калі ў Польшчы паўстанцам не ўдалося ўзяць аніводнага горада, дык на Беларусі яны захапілі горад Горкі і мястэчка Свіслач. Поспех можна было б развіць, калі б і агульнае кіраўніцтва належала «чырвоным».

Карыстаючыся нерашучасцю «белых», іх боязззю народнай рэвалюцыі, карныя ўрадавыя атрады пачалі метадычна разбіваць паўстанцаў. Партыя «белых» скампраметавала сябе. Пасля арышту Я. Гейштара кіраўніцтва паўстаннем зноў перайшло ў рукі «чырвоных». Быў утвораны Часовы літоўска-беларускі ўрад на чале з К. Каліноўскім.

11 чэрвеня 1863 г. К. Каліноўскі і яго сябры апублікавалі «Прыказ ад Ронду Польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім». «...дзела наша,— пісаў К. Каліноўскі,— не дзела панскае, а справядлівай вольнасці, якой вашы дзеды ды бацькі здаўна ждалі... Цяпер настаў час, што кожнаму будзе адмерана так, як ён сам сабе намерыць. Пан будзе ліхі — пана павесім як сабаку! Мужык будзе кепскі — то і мужыка павесім, а двары іх і сёлы з дымам пойдуць, і будзе справядлівая вольнасць». Як сведчаць дакументы, К. Каліноўскі хацеў «аддаць усю зямлю сялянам і з асяроддзя сялян выбраць асоб для выканання свайго плана». Натуральна, што прыход да кіраўніцтва паўстаннем дэмакратаў не мог не напалохаць заможную шляхту. Большыня памешчыкаў адвярнулася ад паўстання. Царская адміністрацыя на чале з генерал-губернатарам Мураўёвым-вешальнікам карысталася супярэчнасцямі ў «краі», нацкоўвала сялян на шляхту, праваслаўных на католікаў, усіх разам — на яўрэяў, не цуралася подкупу і ашуканства. Паўстанне, нягледзячы на намаганні «чырвоных», ішло на спад.

...22 сакавіка 1864 г. кандыдат права Санкт-Пецярбургскага універсітэта, сын шляхціца Сымона Каліноўскага і Веранікі з Рыбінскіх Каліноўскай, беларускі рэвалюцыянер і паэт, выдавец і аўтар першай беларускай газеты «Мужыцкая праўда» 26-гадовы Вінцэнт Канстанцін Каліноўскі (такое яго поўнае імя) узышоў на эшафот. Развітваючыся з віленцамі, з сялянамі, што прыехалі або пехатою прыйшлі ў Вільню, ён, мабыць, думаў пра тое, што калісьці народ прачытае ягоныя лісты з-пад шыбеніцы і гэтыя радкі з аднаго з іх:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жывi ў шчасці, жыві ў свабодзе.

Ён быў малады. Яму не хацелася паміраць. І ён сам прызнаваўся ў гэтым: «Горка пакінуць зямельку родную і Цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца...» Але вось ён ідзе на эшафот. Бо гэта ён, звяртаючыся да народа, напісаў у сваім апошнім лісце: «...не жаль згінуць за тваю праўду».

Паміраючы, ён верыў, што праўда, справядлівасць пераможуць, што «будзе ў нас вольнасць».



# ВЯСНА НАДЗЕЙ

## У АБ'ЕКТЫВЕ — АФГАНІСТАН

**Фотанарыс карэспандэнта АДН Аляксандра ГРАШЧАНКОВА** (спецыяльна для «Крыніцы»)

**Фотакарэспандэнт Агенцтва Друку Навіны Аляксандр Грашчанкоў зрабіў гэтыя здымкі ў Афганістане год назад, калі палітыка нацыянальнага прымірэння толькі набірала сілу. Тады ж многія кадры былі надрукаваны ў розных выданнях. У першую чаргу гэта была актуальная інфармацыя пра падзеі на шматпакутнай зямлі. Але, вярнуўшыся праз нейкі час да сваіх стужак і яшчэ раз пераглядзеўшы іх, аўтар адабраў іншыя кадры, дзе галоўнае — гэта вобраз краіны, каларыт усходніх гарадоў, сам дух непераможнага народа, які даражыць сваім гонарам. З гэтых фатаграфій склалася фотавыстаўка «Афганістан. Цяжкія дарогі да міру».**





Фінскія гледачы паставіліся да гэтай экспазіцыі з вялікай цікавасцю. Многім імя аўтара было ўжо вядома па публікацыях у часопісе «Суомен Кувалехці», дзе ўпершыню на Захадзе быў апублікаваны рэпартаж 33-гадовага маскоўскага фотажурналіста «Дарога жыцця» пад буйна набраным загалоўкам «Сусветная сенсацыя». На думку рэдакцыі часопіса, сам факт перадачы гэтых здымкаў буржуазнаму часопісу ў 1986 годзе сведчыў пра новую інфармацыйную палітыку Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова. Слова «галоснасць» тады яшчэ не ўвайшло ў іх лексікон.

— Адчуванне складанасці палітычнай сітуацыі, з якім я паехаў у 1985 годзе з Кабула,— расказвае Аляксандр,— змянілася вясной 1987 года больш аптымістычным настроем. Нягледзячы на тое, што многія праблемы заставаліся і па-ранейшаму кідаліся ў вочы жабрацтва, хваробы, непісьменнасць, з'явіліся і сталі мацнець першыя парасткі абнаўлення ў эканоміцы, палітыцы, сацыяльнай сферы. Надзея на мір віднелася ў вачах у дзяцей і старых, удоў і былых душманаў, якія прыбылі ў Кабул на перагаворы.

Угледзьцеся ў партрэт Амір Саід Ахмана, важака двухтысячнага атрада з Герата. Ён падтрымаў палітыку нацыянальнага прымірэння і перайшоў на бок законнага ўрада. Але бачыце! Колькі яшчэ сумненняў і ваганняў у яго на твары: ці не падмане Кабул!

А гэты позірк зацкаванага чалавека ў аўтобусе! Аднаму Алаху вядома, колькі мірных афганцаў і савецкіх воінаў забіў ён у гарах, але былы душман усё-такі спадзяецца, што народ даруе яму, а ўрад выканае сваё абяцанне: захавае яму жыццё, верне дом, дасць працу...

Шмат фатаграфій дзяцей. Фатографы ўвогуле любяць здымаць дзяцей. Іх непасрэдныя позіркі не пакінулі абыякавым і Аляксандра Грашчанкова. Равеснік красавіцкай рэвалюцыі, 12-гадовы рабочы з аўтамабільна-транспартнага прадпрыемства «Афсотр», маленькі, з вялікімі вачыма пуштун на ўсеафганскай джырзе, дзе рашаецца лёс краіны. А побач — дзеці ў шпіталі імя Індзіры Гандзі, знявечаныя мінамі-пасткамі амерыканскай вытворчасці, пакуты іх матак, магілы іх бацькоў. Усё прыкмячае праўдзівы аб'ектыў фотарэпарцёра, лаўрэата «Залатога Вока» на «Уорлдпрэсфота-86».









Першая сталь Афганістана на заводзе Джангалак, першыя сельскія кааператывы, першыя жанчыны, якія знялі чадру,— усё гэта мастацкія дакументы гісторыі маладой рэспублікі. Тэрарысты і цяпер, нягледзячы на перамір'е, працягваюць узрываць самалёты, мячэці, гасцініцы. Яны робяць гэта паводле загаду з Пакістана і ў імя Алаха, але народ хоча спакойна жыць, гадаваць дзяцей, мірна працаваць. Пра гэта думаеш, гледзячы на салдата з галубамі ці дзяўчынку, якая прытулілася да пляча афганскага афіцэра. Выраз «афганская праблема» гучыць цяпер на многіх міжнародных перагаворах: у Жэневе, Вашынгтоне, Маскве. Але апошняе слова за самім афганскім народам.



Адам ГЛОБУС

# КУМІРЫ

ЭСЭ

## ЗАГАДКА

Хто ЁН? Здагадайся.

ЁН нарадзіўся ў простай сям'і. ЁН рана спазнаў цяжкую работу. Дзякуючы выдатным здольнасцям і самаадукацыі, ЁН дасягнуў вялікіх вяршынь у спасціжэнні нашага свету. Усё сваё жыццё ЁН сумленна працаваў, але прызнання і патрэбнай павагі пры жыцці не меў. ЯГОНАГА вялікага таленту, ЯГОНЫХ твораў амаль ніхто не ведаў, за выключэннем невялікай купкі сяброў-аднадумцаў...

Ты здагадаўся, пра каго я апавядаю? Толькі не спяшайся вымаўляць імя, бо, крый бог, памылішся, і атрымаецца, што я пасмяяўся з цябе, а смяяцца я не хачу.

Самае жахлівае ў маёй загадцы — смерць. ЁН паміраў у страшэнных пакутах. ЁН шмат трываў у жыцці, шмат перажыў розных крыўд і здзекаў, бо і здрады былі, і руйнаваліся надзеі, а на папялішчах узводзіліся сцены неразумення, але смерць пераўзышла сваёй жорсткасцю ўсе папярэднія пакуты.

Пра жыццё і смерць я распавёў дастаткова, каб ты мог пазнаць ЯГО.

А каб з'явілася ўпэўненасць у тым, што ты не памыліўся, я накрэслю колькі рысак пра тое, што было пасля ЯГОНАЕ смерці.

Пасля смерці пачаўся шум, пачаўся бум, пачаўся гвалт, пачалася мітусня... Нібыта чалавецтва спала, і ці то стала відушчае, ці то раптам невядомая сіла абудзіла яго. Прызнанне, шанаванне, усхваленне ЯГОНАГА таленту распаўсюджваліся ўмомант і набывалі такія велізарныя памеры, што можна толькі дзіву давацца. Знайшоўся і вінаваты ва ўсіх пакутах. Яго адшукалі сярод невялікай купкі сяброў-аднадумцаў. А дзе ж яшчэ можна знайсці здрадніка, як не сярод сяброў?! Як інакш растлумачыць натоўпу, што ўсе і не ведалі пра генія, які жыве побач! Былога сябра пакаралі, і тым самым быццам здзейснілі акт усеагульнага «пакаяння». І пайшло... З'явіліся помнікі, узяліся за працу біёграфы. Высветлілася, што шмат хто бачыў ЯГО і нават размаўляў з ІМ. Біёграфы, каб не памыліцца і нікога не пакрыўдзіць, напісалі некалькі жыццяпісаў з пэўнымі несупадзеннямі ў дробных дэталях.

А цяпер скажы, хто ЁН? І я скажу, хто ты.

## ВАРЫЯНТЫ РАЗГАДКІ

У якасці невялічкага эксперыменту, я загадаў сваю загадку розным людзям і атрымаў у адказ неверагоднае спалучэнне імёнаў. Вось яно:

— Ніко Пірасманішвілі ці Ван Гог: яны абодва падыходзяць,— меркаваў мастак.

— Гіём Апалінэр, ён жа Апалінарый Кастравіцкі. Гэта ён усё жыццё мучыўся і памёр у пакутах,— сказаў перакладчык, які спрабуе пісаць верлібры.

— Уладзімір Караткевіч,— адразу ўсклікнуў аўтар гістарычных навел.

— Уладзімір Высоцкі! Пры жыцці цкавалі, а цяпер музей адкрываюць,— сказаў цясляр.

— Магчыма, гэта паўабаронца Варонін,— засумаваў заўзятар.

— Андрэй Таркоўскі,— сказаў акцёр, які марыць стаць рэжысёрам.

Спіс, як высветлілася, можна працягваць да бясконцасці, толькі я рабіць гэтага не збіраюся, бо мяне больш цікавяць не тыя, хто трапіў у спіс, а тыя, хто не трапіў,— жывыя.



Фота Уладзіміра КАЦАПАВА

## РАЗВАГІ

Чаму ў спіс куміраў так нячаста трапляюць жывыя?

А яны не ўкладваюцца ў мадэль, не ўпісваюцца ў схему, якая выпрацоўвалася тысячагоддзямі, каб рабіць герояў. Паглядзі — колькі кніжак, колькі палотнаў і скульптур, колькі манументаў і кінафільмаў, колькі спектакляў і тэлевізійных перадач з'яўляюцца ілюстрацыяй, дадаткам да (не баюся жорсткага азначэння) антычалавечай схемы.

Нашто ствараць герояў паводле гэтай схемы?

Па-першае: неабходна (не ведаю толькі, навошта і каму) захоўваць і падтрымліваць надзею, што слава прыйдзе да цябе пасля смерці.

Па-другое: маючы кананізаваных герояў, вельмі лёгка «ставіць на месца» жывых людзей.

Па-трэцяе: мёртвыя маўчаць, і ў самых вострых спрэчках яны ні «за» ні «супраць».

## НЕКАЛЬКІ ПРЫКЛАДАЎ

Не ведаю, як ты, а я досыць часта сутыкаўся з цудоўнай гэтай схемаю.

— Якія цяпер мастакі?! Пэцкалі, а не мастакі. Раней былі майстры, так усё вымалёўвалі, як у жыцці, як на фотаздымку і нават лепш. А цяпер адны мазілы,— такое можна пачуць на кожнай мастацкай выставе.

— Паэты? Я вось Сяргея Ясеніна чытаю, дык там усё ясна і проста, а нашых без слоўніка не разбярэш. А яны яшчэ ў дадатак і па-беларуску пішуць. Каму ўсё гэта трэба? — разважала знаёмая настаўніца, трымаючы на каленях «Інтэлігентнага» сабаку і праглядаючы падборку вершаў маладых беларускіх паэтаў у «Литературной газете».

— Гэта не Альбер Камю і не Хэмінгуэй, так што асабліва не выдурвайся, а рабі кандова і шэра, як і трэба нашаму часопісу,— так мне параілі, калі давалі на афармленне апавяданне.

— Для цябе Караткевіч — проста чалавек, сусед па пляцоўцы, а для мяне — прарок і геній,— сказаў мне адзін малады крытык, які лічыць, што патрэбнай вядомасці Караткевіч не мае з-за бяздарных перакладаў на рускую мову.

— Пасля Эйзенштэйна і Даўжэнкі ў нас ніводнага сапраўднага кінамастака не было,— думка выказвалася яшчэ пры жыцці рэжысёраў Таркоўскага і Шапіцькі.

# К УМ Р Ы

## ЗНОЎ РАЗВАГІ

У цябе можа скласціся ўражанне, што я руйную аўтарытэты, але гэта не так. Я не супраць аўтарытэтаў, бо люблю чытаць Хэмінгуэя і Камю, люблю манументальныя фільмы Даўжэнкі, гадзінамі прастойваў каля «чорных цырат» Пірасманішвілі і экспрэсіўнага жывапісу Вінсента ван Гога...

Але я супраць, калі пераклад выдатных літаратурных помнікаў робіцца халтуршчыкамі дзеля заробку. Я супраць, калі палотны мастакоў ператвараюцца ў міжнародную валюту.

Я супраць, калі крытыкі і літаратуразнаўцы раздзьмухваюць агонь пасмяротнай славы Міхася Стральцова і Уладзіміра Караткевіча. Я пытаю — а дзе вы былі раней, калі жывым пісьменнікам была неабходна падтрымка?..

Я супраць таго, калі з творцы робяць металёвага ідала і потым б'юць ім, як дубінаю, па галовах жывых; б'юць і часам забіваюць насмерць...

А потым усё ідзе па схеме.

Я супраць схемы.

## ВЫКЛЮЧЭННЕ

На пачатку 60-х гадоў схема не спрацавала. Чатыры хлопцы, вядомыя на ўвесь свет «бітлы», адмовіліся быць кумірамі. «Мы такія ж простыя людзі, як і ўсе»,— сказалі яны. Ім паверылі, бо спадзяваліся — надышоў час, калі не будзе куміраў. Але гэта было памылкаю.



Спачатку ў знакамітым музеі васковых фігур з'явіліся іхнія постаці, а далей — болей... Забойства Джона Ленана цалкам адрэстаўрывала папсаваны канон. Зноў пачала працаваць машына пад назвай «культ-арт» (мастацтва стварэння культу).

## РАЗГАДКА

Разумею, што гэта цяжка — адмовіцца ад такой простай і надзейнай апоры, як схема «культ-арту». Толькі ты паглядзі навокал: колькі таленавітых і здольных сярод нас, колькі людзей чакаюць менавіта тваёй дапамогі і падтрымкі...

— Хто ЁН!

— Гэта той, каго няма...

Аб драматычным лёсе самадзейнага мастака з Рэчыцы Аляксандра Ісачова чытачы маглі даведацца з публікацый у прэсе і перадач рэспубліканскага тэлебачання. Наша рэдакцыя прадстаўляе некаторыя работы мастака, напісаныя ім у розныя гады: «Уладар (Аляксандр Македонскі)», «Выгнанне з раю», «Абраз», «Нацюрморт з люстэркам», «Смерць крыжака».

На старонках папярэдніх нумароў часопіса мы пазнаёмілі вас з творчасцю маладых мастакоў, што працуюць у розных стылях і напрамках.

Запрашаем чытачоў выказаць свае меркаванні пра тое, ці будзе багацейшым беларускі жывапіс, калі стане больш разнастайны, ці не збяднее, калі будзе адмаўляць усё нязвычнае!








Слайды падрыхтаваў

Андрэй ПЕТРАШКЕВІЧ






Сяргей МІХАЙЛАЎ

# «А ЎСЁ-ТАКІ, УСЁ-ТАКІ ХОЧАЦЦА СПЯВАЦЬ...»

Мал. Канстанціна ВАШЧАНКІ

Ішоў апошні дзень рэспубліканскага фестывалю самадзейнай песні. На сцэне цесна — усхваляваныя лаўрэаты (іх толькі што павіншавалі з поспехам), члены журы... Зазвінелі гітары, і нібыта нябачныя токі запульсавалі паміж сцэнаю і слухачамі. Зрэшты, якімі слухачамі? Спявалі ўсе! «Возьмемся за рукі, сябры, возьмемся за рукі, сябры, каб не прапасці паасобку...» Чалавек, які трапіў сюды выпадкова, напэўна, з недаўменнем глядзеў бы на гэтых шчаслівых людзей, якія спяваюць, трохі ківаючыся ў такт песні.

Згадзіцеся, такое наўрад ці ўбачыш на эстрадным канцэрце ці тэатральным прадстаўленні. Што ж гэта за феномен такі — самадзейная, ці, як яшчэ называюць яе, аўтарская песня? Чым пакарае яна сэрцы сотняў, тысяч людзей?

Напэўна, кожны, хто любіць яе, па-свойму адказвае на гэтыя «што» і «чым». Але кожны неадменна назаве такую своеасаблівасць аўтарскай песні, як шчырасць.

Мне здаецца, менавіта гэтым блізкая самадзейная песня народнай творчасці. «Ну, гэта ўжо занадта!» — узбурыцца які-небудзь прыхільнік «рафінаванага» фальклору,— пры чым тут «народная творчасць», калі кожная з песень мае канкрэтнага аўтара? Дый з'явілася яна сярод жалезабетону і лязгання трамваяў...» Ну і што,— адкажу яму,— хіба няма такога паняцця, як гарадскі фальклор? І хіба не даводзілася вам сутыкацца з фактамі, калі іншы выканаўца і аўтара назваць не мог, а песня тым часам спявалася ўсюды... І хіба не адбывалася падобнае з «Дубинушкой», «Однозвучно гремит колокольчик...», «Бывайце здаровы...», «Ручнікамі», якія таксама мелі сваіх стваральнікаў. Вядома, большасці самадзейных песень да такога зайздроснага лёсу далёка, але лепшыя з іх, песні Акуджавы, Высоцкага, сталі неад'емнаю часткаю нашага духоўнага жыцця.

Узнікнуўшы ў канцы 50-х гадоў, аўтарская песня хутка знайшла свайго слухача. Тады і з'явілася плеяда яркіх, самабытных паэтаў-песеннікаў. Першыя былі Міхаіл Анчараў і Булат Акуджава. За імі ішлі Высоцкі, Візбар, Клячкін, Гарадніцкі, Кукін... Сёння ў аўтарскай песні, бадай што, няма такіх яркіх і самабытных фігур (хіба што Аляксандр Разэнбаўм...). Але гаварыць пра якісьці заняпад «жанру» рана. На апошніх фестывалях сур'ёзна заявілі пра сябе такія аўтары, як масквічы Георгій Васільеў і Аляксей Івашчанка, чэлябінец Алег Міцяеў, алмаацінка Вольга Качанава.

Даўнія традыцыі мае аўтарская песня і ў нашай рэспубліцы. Адзін з першых чатырох клубаў самадзейнай песні, якія нарадзіліся ў шасцідзесятыя гады, быў мінскі «Свіцязь», каля вытокаў якога стаялі Аляксандр Чуланаў, Валерыя Мамантава, Арык Круп. Арганізаваныя клубам канцэрты збіралі тысячы студэнтаў, рабочых, навуковых работнікаў. У Мінску спявалі Высоцкі, Кукін, Ягораў...— ды прасцей назваць, напэўна, тых, хто не змог пабываць у нас... Дый беларускія аўтары і выканаўцы не адчувалі недахопу ў запрашэннях. Самабытнай, нягучнай, шчырай была муза Арыка Крупа — гэта словы з яго песні вынесены ў загаловак гэтых нататкаў. Ён шмат вандраваў і з кожнага паходу прывозіў песні.

Что нам знакомые дома,
Когда из них друзья ушли...

Вясною семдзесят першага года ў паходзе па Саянах ён загінуў — снежная лавіна, што раптам сышла з гор, пахавала пад сабою ўсю іх групу. А іх песні жывуць.

На самых лепшых традыцыях аўтарскай песні групаю энтузіястаў Паўлам Жыткевічам, Сяргеем Цыкалам, Тамарай Чыжонак і іншымі ў 1982 годзе быў створаны мінскі клуб «Ветразь». Цяпер у Мінску акрамя яго ёсць яшчэ два клубы — «Аэліта» і «Пегасік». У арганізацыйным плане базавы клуб — «Ветразь». Але апроч арганізацыйнай работы КСП «Ветразь» вядзе вялікую творчую дзейнасць. Ён не замыкаецца ў сабе, выходзіць з канцэртамі на сцэнічныя пляцоўкі горада, вобласці, рэспублікі. Геаграфія паездак клуба — практычна ўся краіна. Члены клуба сталі частымі гасцямі беларускага міжнароднага маладзёжнага лагера «Юнацтва». Летась былі праведзены абласны і рэспубліканскі фестывалі аўтарскай песні.

Вялікай папулярнасцю карыстаюцца выканаўцы аўтарскай песні Уладзімір Бобрыкаў і Анатоль Длузскі, а таксама мінчанін Алесь Камоцкі і навапалачанін Сяргей Сокалаў-Воюш, якія спяваюць па-беларуску.

Нядаўна мне давялося сустрэцца з членам Усесаюзнага савета клубаў самадзейнай песні, былым старшынёю Мінскага КСП «Купалінка» Уладзімірам Галынскім. Гаварыў ён не толькі пра новыя песні, пра гісторыю рэспубліканскіх фестываляў, але і аб праблемах: пра тое, у прыватнасці, што патрэбныя ўрэшце новыя падыходы да аўтарскай песні, што яе трэба лічыць адной з формаў самадзейнасці.

Лёс самадзейнай песні ў нашай рэспубліцы не быў просты. Яна сустракала шмат неразумення, не ў слухачоў, не, а ў людзей, далёкіх ад мастацтва, якія паставілі багата бар'ераў і забарон на шляху гэтага руху. Але час ідзе, песня развіваецца, жыве, заваёўвае маладыя сэрцы. Чаму? Таму што яна неабходная і звяртаецца да самага лепшага, што ёсць у чалавеку,— дабрыні, справядлівасці, мужнасці.



Гітарыст групы «Ролінг Стоўнз» Кіт Рычардс запісаў на фірме «Вёрджын» свой першы сольны альбом. Ён браў таксама ўдзел у запісе гукавой дарожкі да фільма «Хэйл! Хэйл! Рок-н-рол», прысвечанага жыццю знакамітага рокера Чака Бэры.

З'явіліся паведамленні пра тое, што Кіт Рычардс і вакаліст групы Мік Джагер нарэшце ўсё-такі памірыліся пасля досыць працяглай сваркі і ўлетку 1988 года «Ролінг Стоўнз» адправяцца ў студыю, каб пачаць працу над чарговым альбомам.

Джордж Майкл выказаў жаданне арганізаваць цырымонію прадстаўлення прэсе свайго новага альбома ў адным са старых англійскіх замкаў. У сувязі з гэтым музыкант папрасіў уладальніка замка змяніць яго інтэр'ер такім чынам, каб ён адпавядаў характару будучай акцыі. У адказ на просьбу раз'юшаны замкаўладальнік закрычаў у твар збляднелай поп-зорцы, што ён не збіраецца мяняць стогадовую мэблю з-за прыхамацей «невядома каго».

Можна ўпэўнена сказаць, што ў Элтана Джона асаблівых фінансавых праблем няма. Аднак чалавек, здольны адмовіцца ад мільёна фунтаў стэрлінгаў, не можа не выклікаць здзіўлення. Такая сума была прапанавана англійскаму музыканту японскай фірмай, якая выпускае сонцаахоўныя акуляры, у якасці ганарару за згоду рэкламаваць яе прадукцыю. Элтан Джон адразу ж адмовіўся ад такой зманлівай прапановы. Прычына адна: паводле задумы рэжысёраў рэкламнага роліка, у здымках акрамя Элтана Джона павінны былі ўдзельнічаць 22 каты, а знакаміты рок-музыкант заўсёды баяўся гэтых бяскрыўдных жывёлін.

Пітэр Фрэмптан цвёрда настроены вярнуцца на сцэну і зноў дамагчыся буйнога поспеху (запісаны ім у 1975 годзе альбом «Фрэмптан паўстае жывы» разышоўся тыражом больш за 10 мільёнаў копій па ўсім свеце). Цяпер ён у якасці гітарыста суправаджае Дэвіда Боўі ў ягоным турнэ 1988 года, пасля чаго пачне запіс свайго новага альбома.

Дэвід Сільвіян, калісь кіраўнік папулярнай англійскай групы «Джэпэн», выпусціў новы альбом «Сакрэты Вулея». Альбом запісваўся ў Англіі, Галандыі, Францыі, у працы над ім удзельнічалі многія вядомыя музыканты, у тым ліку і знакаміты японскі мульціінструменталіст Руічы Сакамота. У бліжэйшай будучыні Сільвіян плануе запісаць музыку да спектакля вядомай танцоўшчыцы Габі Аджыс, выпусціць альбом з інструментальнай музыкай і, магчыма, зрабіць турнэ па некалькіх краінах свету ў 1988 годзе.

Згодна з дадзенымі артыкула, надрукаванага ў амерыканскім часопісе «Форб'з», найбагацейшым сярод рок-музыкантаў з'яўляецца Брус Спрынгстын, уладальнік 56 мільёнаў долараў. За ім ідуць: Мадона (47 мільёнаў), Уітні Х'юстан (44 мільёны), Майкл Джэксан (43 мільёны). У дзесятку найбольш багатых музыкантаў уваходзяць таксама Джон Банджоўві, Філ Колінз, Білі Джойл, Прынц, Пол Макартні.

Амерыканская вакалістка Вэніці, былая ўдзельніца групы, якая суправаджала выступленні Прынца, заручылася з Нікі Сіксам, лідэрам групы «Мотлі Кру». Аб'яўлена, што вяселле адбудзецца ў бліжэйшы час. Гэтая навіна выклікала крытыку з боку Прынца, які меў калісь да Вэніці досыць цёплыя пачуцці і відавочна не адабрае гэтую сувязь.

Адзін з найбольш вядомых музыкантаў-выканаўцаў музыкі соўл, негрыцянскі спявак Джэймс Браўн сустрэў вельмі суровую крытыку з боку свайго калегі Стыві Уандэра за тое, што згадзіўся выступіць з канцэртамі ў Арызоне — адзіным штаце ЗША, які не прызнае як нацыянальнае свята дзень нараджэння вядомага барацьбіта за правы негрыцянскага насельніцтва краіны Марціна Лютэра Кінга.

## МУЗЫЧНЫ ПРАСПЕКТ

Амерыканская група «Грэйтфул Дэд», якая праславілася тым, што зрабіла некалькі гадоў назад канцэрт каля падножжа егіпецкіх пірамід, плануе выступіць у наступным годзе на грэбені Вялікай кітайскай сцяны ў КНР.

Члены групы «Фрэнкі Гоўз ту Холівуд» шукаюць сабе новага вакаліста, здольнага замяніць Холі Джонстана. Выдае на тое, што атрымаць выгаднае месца больш шанцаў мае Тоні Грыфітс з групы «Бэнд Джо Джо энд зэ Рыэл Піпл».

Група «Прытэндэз» запісала дзве кампазіцыі, якія ўвайшлі ў гукавую дарожку да фільма пра Джэймса Бонда.

Стыў Джэнсан і Рычард Барб'еры, былыя ўдзельнікі англійскай групы «Джэпэн», стварылі новы гурт, які называецца «Зэ Долфін Бразэз».

Былы ўдзельнік групы «Калчэ Клаб» Рой Хэй і вакаліст Робінсан Рэйд стварылі гурт «Зыс Уэй Ап».

Роні Вуд, гітарыст групы «Ролінг Стоўнз», адкрыў у Лондане выстаўку сваіх карцін і малюнкаў. Абсалютная большасць іх — партрэты вядомых рок-музыкантаў.

Арыгінал тэксту кампазіцыі «Яна ўвайшла праз дзверы ваннай» з пласцінкі «Бітлз» «Эбэй Роўд», напісаны рукою Пола Макартні, быў прададзены ў Лондане за 23 000 долараў.

Пасля доўгага перапынку ў студыю вярнуўся Рынга Стар. Яго новы альбом будзе прадзюсіраваць Элтан Джон.

У запісе новага альбома амерыканскай групы «Блю Ойстэ Калт», выхад якой запланаваны на 1988 год, удзельнічае былы гітарыст легендарнай групы «Зэ Дорз» Робі Крыгер.

**Агляд паводле матэрыялаў замежнай прэсы падрыхтаваў Аляксандр НАВІЦКІ**






# АЛЁ! Я—АДНА...

**Мне 28 гадоў, працую ўрачом-тэрапеўтам. Так склалася, што на ўсіх асноўных этапах жыцця мне прыйшлося жыць толькі ў жаночым акружэнні. У гэтым, напэўна, прычына майго адзіноцтва. Характар у мяне энергічны і вясёлы, я люблю людзей і лёгка кантактую з імі. Хочацца пазнаёміцца з цікавым чалавекам, які б стаў маім сябрам.**

**АЛЕНА**

**Я жыву ў г. Гомелі, працую мастаком-афармíцелем, мне 21 год. Мару пазнаёміцца з чалавекам, якому стала б неабходная.**

**ЛАРЫСА**

**Мне 26 гадоў, жыву з трохгадовай дачкою. З мужам разышлася. Адзіноцтва пераношу нялёгка, асабліва цяжка бывае ў святы. Вельмі хочацца схавацца за чыюсьці моцную, надзейную спіну. Характар у мяне памяркоўны. Вясёлая, лёгка кантактую з людзьмі. Працую ў атэлье трыкатажных вырабаў.**

**ЛІДЗІЯ**

**Мне 30 гадоў, была замужам, у мяне ёсць два сыны ва ўзросце сямі і пяці гадоў. Хлопчыкі ў мяне гарэзлівыя, рухавыя, цікаўныя. Хачу, каб выраслі яны надзейнымі людзьмі. Але выхаванне — гэта не толькі гутаркі пра тое, «што такое добра, а што такое кепска»,— патрэбны прыклад блізкіх людзей і асабліва мужчыны. Я згодна пазнаёміцца з мужным і сумленным чалавекам 29—39 год, які пагодзіцца узяць на сябе такую адказнасць. Я архітэктар, люблю спорт, падарожжы, лес, дождж, музыку, паэзію.**

**ТАЦЦЯНА**






Мал. Канстанціна КУКСО, Сяргея ФІЛІПАВА і Яўгена ЦАРКОВА

ГУМАР





ПРОЗА

Алесь АСТАШОНАК



# Супер

Супер не зманіў. У іх дома і кампазітары бывалі, і мастакі, і вучоныя: бацька любіў запрашаць вядомых людзей. Але хоць вонкава і ставіўся да іх з павагаю, на справе лічыў сябе вышэйшым. Ва ўсякім разе, трымаў сябе з імі на роўных, а пасля таго, як яны выходзілі з дому, пасмейваўся з многіх. Падоўгу абгаворваў іх разам з маці, і параўнанне з сабою было яўна не на карысць гасцей. А што: у «фазэра» і грошы не меншыя, і становішча стабільнае. А то хадзіў да іх колькі гадоў назад адзін драматург, дык тады на «Вольва» да іх прыязджаў, а цяпер абдзірос натуральны — Супер неяк бачыў яго на вуліцы.

— Што, праўда, прыходзяць? — перапытала Нінка.

— Кажу табе.

Нейкі час яна маўчала. Па твары было відаць, што думала. Пасля раптам зноў утаропілася ў яго шалёнымі вачыма.

— Ну і што, што ты бачыў, а я не ба-чыла?.. Да твайго бацькі пісьменнікі ходзяць, а да маці маёй — на-сосы. Што з таго?

— Нічога,— не зусім упэўнена адказаў Супер, бо хоць і перастаў ужо здзіўляцца зменам у яе настроі, затое ўсплыло падазрэнне: можа, усе гэтыя фортэлі — толькі тэатр прайдзісветкі?

— А не веру я — вось і ўсё. Ні ў пісьменнікаў, ні ўвогуле ў людзей. Хлусня ўсё гэта. Памерлі пісьменнікі. І людзі таксама. Яшчэ да таго, як мы нарадзіліся. У хлусні ўсё патанула, і ніколі з яе ўжо не выплыве. Усе вакол — мёртвыя. Каму верыць? — ціха, да шчымлівасці адкрыта спыталася Нінка, ажно ён адчуў сябе трохі разгубленым.— Нікому я не веру. У мяне і маці няма...

— Дык ты што, адна жывеш? — з раптоўнай надзеяй спытаўся Супер, і абарваліся ў ім і спачуванне, і разуменне.

— З маці,— адказала Нінка. Голас яе задрыжэў.— Толькі як няма яе ўсё роўна... Яна нават т у д ы толькі раз да мяне прыязджала, хоць я і зусім недалёка адсюль сядзела... Клешч адзін — болей нікога няма... Ён мяне пакрыўдзіць не дасць. Адзін з усіх, каго ведаю — чалавек... Я яму — як сястра...

— Ды што ты завялася з гэтым Кляшчом? — не вытрымаў Супер, зусім забыўшыся на тое, што вось ён, побач, хвіліна хады,— ахоўнік яе і абаронца.

Але Нінка прыпала раптам да яго вуха гарачымі вуснамі і прашаптала:

— Пацалуй мяне...

Гэта быў такі ціхі шэпт, што ледзьве словы можна было пачуць. Супер нават падумаў, што тое яму здалося, але Нінка так на яго паглядзела, што ён зразумеў усё...

— Выпіць хочаш? — абарвала яна пацалунак.

Суперу аж дух заняло. Так усё было неспадзявана і востра, што кружылася галава — нічога падобнага ён, здавалася, і не адчуваў ніколі. Гэта быў доўгі пацалунак жанчыны — і разам з тым пяшчотны дотык дзіцяці. Відаць, выпакутавала яна гэты свой шэпт...

Супер зноў прыхінуўся да яе. Нічога ўжо не бачыў, нават Кляшча, які зірнуў у бок альтанкі і, здзіўлены, застыў.

Але Нінка лёгенька адштурхнула яго і спыталася яшчэ раз:

— Дык хочаш ці не?

— Давай.— Піць яму зусім не хацелася, ды абдала прыемным халадком раптоўная здагадка.

— Хадзем,— узяла яна яго за руку.

— Куды? — спытаўся Супер.

— Што пытаешся? — здзекліва ўсміхнулася Нінка.— Не люблю я, калі распытваюць. Раз вяду — значыць, ведаю. Ці баішся? Дык не трэба: не згвалчу.— Яна гучна зарагатала.

Суперу стала ніякавата, а Клешч, пачуўшы яе смех, супакоіўся.

Нінка прывяла Супера ў пад'езд і загадала пачакаць. Ён расчаравана згадзіўся. Вярнулася яна хвілін праз пяць.

— Дома маці? — спытаўся ён.

— Ты прабач,— неяк вінавата пачала Нінка, нібыта і не пачуўшы пытання,— няма чаго... выпіць... Але затое я во што прынесла.— Яна дастала з кішэні і працягнула яму фотакарткі.— Глядзі. Пазнаеш?.. Гэта я ў дзіцячым садочку... А гэта вось з мамай... У першым класе... А гэта...

Супер не мог даць веры, што гэтая маленькая прыгожая дзяўчынка, няшмат большая за партфель у яе руках, з вялікімі бантамі ў валасах і шчаслівай усмешкай на твары, і ёсць цяперашняя Нінка... Але здзіўленне яго не было надта доўгае і вялікае, бо цікавіла іншае.

— А ты нічога... дзяўчынка была,— сказаў ён і палез цалавацца, прасоўваючы руку пад кофтачку.

— Не трэба,— гэтаксама лёгенька, як і ў альтанцы, адхіліла яна яго.— Хадзем.

Аддаючы фотакарткі назад, ён зазірнуў ёй у вочы — і ўсё зразумеў. Яна і не збіралася частаваць яго півам, калі вяла сюды, як і не думала пра тое, аб чым думаў ён, а нашто вяла, саромелася прызнацца.

Уломваць цябе яшчэ трэба, са злосцю падумаў ён, глядзячы Нінцы ў спіну, калі пасунуўся следам за ёй да альтанкі. Фотакарткі стала паказваць! Фільм індыйскі будзе мне тут круціць...

А можа... Можа, так яно і лепш, раптам усцешыўся ён здагадкаю. Не час яшчэ заводзіцца: няхай Клешч знікне. Гэтая ведае, што робіць. Расчараванне і злосць адразу ж прайшлі. У альтанку ён вярнуўся нават вясёлы, з парога засмяяўся грубаму Нінчынаму жарту наконт нязграбнага, даўжэзнага Кошы.

А той, мусіць, зусім ужо не баяўся Кляшча: сядзеў поруч з ім, паклаўшы яму галаву на плячо. Хлопцы, відаць, пакуль былі адны, выпілі яшчэ. Хелп ляжаў, выпраставўшыся на лаўцы, а Клешч бы скамянеў — глядзеў некуды ў цемру нерухомымі журботнымі вачыма.

Нінка раптам дала Суперу знак, каб ён перастаў смяяцца, і ціха прысела насупраць Кляшча.

Заканчэнне. Пачатак у № 3.

— Чакайце! — сказаў той праз якую хвіліну, варухнуўшы рукою.

— Пець зараз будзе,— шапнула Нінка Суперу на вуха.— Яму б у операх выступаць... Ён калісь у хоры спяваў пры Палацы піянераў. Салістам быў. Яго па тэлевізары нават паказвалі... Дыктар так і сказаў: наш беларускі Рабярціна Ларэці... А ты: Ламброза...

Клешч набраў поўныя грудзі паветра і гучна зацягнуў:

Выхожу один я на дорогу,
Сквозь туман кремнистый путь блестит.
Ночь тиха. Пустыня внемлет богу
И звезда с звездою говорит.

Спяваў ён выдатна — толькі дрыжэў крыху голас. Супер здзіўлена ўзіраўся ў Кляшча.

В небесах торжественно и чудно!
Спит земля в сияньи голубом...
Что же мне так больно и так трудно?
Жду ль чего, жалею ли о чем?

— Бачыш, душа якая? — шапнула Суперу Нінка, выціраючы слёзы.

Хелп узняўся і сеў. Нават Коша заварушыўся. Магутны быў голас...

Уж не жду от жизни ничего я,
И не жаль мне прошлого ничуть;
Я ищу свободы и покоя!
Я б хотел забыться и заснуть!

— Усё. Адспяваў,— спыніўся раптам Клешч і закрыў велізарнымі далонямі твар. На нейкі момант стала ціхаціха, быццам замерла ўсё наўкол, але тут хтосьці ў доме — можа, выпадкова, а можа, пачуўшы Кляшча — улупіў на ўсю моц «Песню варажскага госця» ў выкананні Марка Рэйзена; прагучала тое нібыта здзек з вулічнага спевака-«гарлапана».

Суперу здалося, што Клешч заплакаў. Ва ўсякім разе рукі, якімі ён прыкрываў твар, ледзь прыкметна дрыжэлі. Але неўзабаве ён апусціў іх, абвёў усіх сваім цяжкім позіркам і загадаў Хелпу дастаць гарэлку. Той нагнуўся і выцягнуў з-пад лаўкі бутэльку.

Распілі і гэтую, апошнюю бутэльку. Кошу ягоная доля зусім ужо лішняя была: гарэлка так і цякла па яго падбародку. І Хелпа, толькі адпіў глыток, ледзь не званітавала. Супер зразумеў, чаму той так ахвотна ўступаў раней сваю долю Кошу: проста так адмовіцца перад Кляшчом не хацеў. Прайшла якая хвіліна, і Коша стаў лапатаць нешта сам сабе па-англійску. Зірнуўшы на яго, Клешч узняўся і сказаў, што, відаць, час ужо разыходзіцца.

Хелп з Суперам узялі Кошу пад рукі, і ўсе пабрылі з двара на вуліцу. Коша ледзь цягнуў на асфальце ногі і ў адказ на Хелпавы кухталі і праклёны мыкаў нешта сабе пад нос.

Клешч спыніў таксі. Коша, невядома адкуль узяўшы сілы, кінуўся раптам цалаваць свайго нядаўняга злосніка. Кляшчу з цяжкасцю ўдалося пасадзіць яго ў машыну. Таксіст адмаўляўся браць такога пасажыра, але Клешч так паглядзеў на яго, што той змоўк.

— А ты? — спытаўся Клешч у Супера, убачыўшы, што той адышоў убок.

— Я застаюся,— адказаў Супер, трываючы нялёгкі Кляшчоў позірк.

— Як хочаш,— сказаў Клешч, глянуўшы на Нінку. Тая моўчкі заплюшчыла вочы.

— А з ім хто? — кіўнуў Клешч на Кошу, які прыладзіўся ўжо спаць, і перавёў позірк на Хелпа. Таму прыйшлося сесці ў машыну.

Таксі паехала, а Клешч знік у цемры.

— Ну што, хадзем? — спытаўся Супер у Нінкі.

— Хадзем,— адказала тая.

Па дарозе ён выглядваў месца, дзе можна было спыніцца.

— Тут,— сказаў ён, прыгледзеўшы тую самую будыніну, у якой яны пілі гарэлку.

— Не,— крутнула Нінка галавою.

Супер падумаў, што яна ведае лепшае месца. А то ў будыніне і напраўду надта ўжо брудна было. Дый заскочыць хто мог неспадзеўкі. Ён упэўнены быў, што яны



разумеюць адно аднаго. Нінка завяла яго ў нейкі двор. Агледзеўшыся, зайшла ў пад'езд, стала ўздымацца па лесвіцы. Перад апошнім паверхам спынілася. Вось яно што, вырашыў Супер. Чорт з ім, можна і тут. Светла вось толькі, мо захоча, каб лямпачку разбіў?.. Ён прываліў Нінку да сцяны і, расшпільваючы кофтачку, палез цалавацца.

— Адчапіся, ну! — адштурхнула яна яго і пайшла ўверх. З кватэры, каля якой яна спынілася, чулася музыка.

— Куды мы? — спытаўся Супер.

— У госці,— бы ў сне адказала Нінка, думаючы пра нешта сваё.— Выпіць трэба.

— Навошта? — дзівіўся ён.— Мы ж і так ужо...

— А, кінь, арыстакрат,— з раздражненнем перапыніла яна.— Ну што, што разумееш ты ў жыцці?

Зноў выверт, падумаў Супер. Забылася, мусіць, што Кляшча тут паблізу няма. Але даруем ёй гэта. Ды толькі ж навошта, навошта ісці зараз у нейкія госці?

Нінка ступіла крок да дзвярэй, пацягнула ручку на сябе і ўвайшла ў кватэру, нават не пазваніўшы. Пастаяўшы трохі ў калідоры, яны прайшлі ў пакой: Нінка — спераду, Супер — за ёю. І ў пакоі, і ў калідоры быў даўні ўжо і, відаць, звычны разрух.

Нарэшце трапілі на кухню. Там, за сталом, застаўленым пустымі бутэлькамі і талеркамі з рэшткамі ежы, сядзелі дзве п'яныя дзеўкі: адна — здаравенная і гарбаносая, другая — маленькая, бледная, з дробнымі, птушынымі рысамі твару. Яны пра нешта спрачаліся.

— Здарова! — сказала Нінка.

— Здарова,— здзіўлена ўзіраючыся ў Нінку, павольна адказала гарбаносая, агледзела Супера з галавы да ног і кіўнула на зэдлікі.— Сядайце.

Маленькая намацала на стале рваны пачак «Прымы». Той быў пусты. Яна выбрала з талеркі з-пад вінегрэту, дзе валяліся недакуркі, даўжэйшы бычок і закурыла. Супера ажно перасмыкнула.

З Нінчынай размовы з дзеўкамі, маруднай і скупой на словы, Супер зразумеў, што гарбаносая і была тая самая сяброўка, разам з якою судзілі Нінку, і што адносіны іх у калоніі былі дужа сапсаваны. «Што ж ты прысунулася сюды, ідыётка?» — збянтэжана глядзеў ён на Нінку.

Праз некалькі хвілін прыйшлі два хлопцы — нейкія дробныя, тузаныя, з сінімі ад татуіроўкі рукамі. Супер адразу ж скеміў: зэкі. Прыйшлося пацішэць — Нінка села Суперу на калені. Той употай узіраўся ў гасцей.

— А хто гэта з табою? — спыталася раптам гарбаносая ў Нінкі, кіўнуўшы на Супера.

— Брат,— адказала Нінка.

Усе засмяяліся.

— Бра-ат,— ухмыляючыся, прасіпеў хлопец са шрамам на шчацэ. Смеючыся, ён апусціў павекі. Супер убачыў на іх наколку: «Вор спит».

Хоць бы мяне гэтыя не ўходалі, адчуў ён страх. І якога чорта пасунуўся за прыпыленай — нібыта лепшай заўтра не знойдзеш. Закарцела дзятлу гульнуць.

Але ён хутка адагнаў трывогу, выпіўшы чарку цёплай, прыкрай гарэлкі, якую яму, падміргваючы, наліў блатны з татуіроўкаю на павеках. Да таго ж, Супер трохі супакоіў сябе яшчэ і тым, што гэтыя малойчыкі з выгляду былі хліпкія, не раўня Кляшчу — з імі ён ужо, калі што, якнебудзь справіцца.

Неўзабаве падступіла млоснасць. І гарэлка ўжо ў горла не лезла, і задуха на кухні была страшная. Ён хацеў быў папрасіць Нінку ўстаць, каб можна было выбрацца з-за стала, але тая ўзнялася і, пахістваючыся, прайшла ў ванную. Пачакаўшы крыху, туды ж, не пастукаўшыся, уваліўся і ён. Нінка стаяла каля ўмывальніка і зашпільвала кофтачку.

У Супера нават млосць адступіла — нібыта і не было яе зусім. Зачыніць дзверы на клямку, ніхто і не пачуе... Ён прыціснуў яе да сцяны, але Нінка адштурхнула яго і выскачыла...

Калі высунуўся ў калідор, пачуў шум. Зэкі чамусьці выпіхвалі Нінку з вітальні на лесвічную пляцоўку. Нешта, відаць, пакуль ён быў у ваннай, у іх там на кухні здарылася. Нінка плакала, клікала яго на дапамогу і ўпарцілася,



хацела вярнуцца назад — яе ледзь стрымлівалі каля дзвярэй. Дзеўкі — яны засталіся на кухні — пакрыквалі: «Умантульце ёй, умантульце!.. Што вы там з ёю цацкаецеся?..»

Супер замёр. Яму ўсё ж такі не хацелася звязвацца з гэтымі блатнякамі, хоць і слабакі яны былі — нават Нінку не маглі выпіхнуць. Ім тут і дзеўкі на дапамогу кінуцца. Морду пэўна ўжо скрывавяць... Але глядзець на ўсё гэта яму было нялёгка.

Урэшце адзін з хлопцаў не вытрымаў і з усяе сілы ўдарыў Нінку ў твар. Тая ўпала, і яе пацягнулі ўніз па лесвіцы.

Пачакаўшы крыху, Супер на дыбачках прайшоў у вітальню і выслізнуў з кватэры. Гвалту ўжо не было чуваць. І хмель у яго ўмомант прайшоў. Гэта ж трэба было ўлезці ў такі гадзючнік!..

Асцярожна спусціўшыся на першы паверх, ён выглянуў з пад'езда.

Зэкі праганялі Нінку з двара — тая з плачам адступала назад і, адчайна жэстыкулюючы, нешта ім даводзіла.

— Вы ж не ведаеце,— данеслася да Супера,— як тое ўсё было... Не вінаватая я зусім... Гэта ж яна мяне...

Ён не ведаў, што рабіць. І шкада было гэтую вар'ятку, але ж ці саўладае ўсё-такі ён з двума?.. Раптам яны з нажамі? П'яны ён, дый няма прыёма проці лома. Не, лепш неяк знікнуць. Бегчы?.. Могуць дагнаць, хоць і дохлыя. І ганьбы не абабрацца. Во было б смеху, калі б заўтра Нінка расказала пра такое Хелпу!.. Трэба выбраць зручны момант, каб ніхто яго не ўбачыў.

Ён агледзеўся ў пад'ездзе. Позірк спыніўся на дзвярах, што вялі ў сутарэнне. Туды! Штурхнуўшы дзверы, зрабіў крок уніз і адразу ж вылаяўся: хоць і цёмна было, ды ўсё ж адчуў, у што ступіў. Зрабіў яшчэ крок і ўпаў, зачапіўшыся нагою за прэнт. Цяпер ён сядзеў, паціраючы выцятае калена, ціха ныў і, на чым свет стаіць, кляў і сябе, і ўсіх тых, праз каго тут апынуўся. Урэшце асцярожна, ледзь не на карачках дабраўся да ніжэйшых дзвярэй. Штурхнуўшы гэтыя, зноў мацюкнуўся: дзверы былі замкнёныя. Што рабіць? Не заставацца ж тут... Гэтыя, як надумаюцца заскочыць сюды пашукаць яго, затаўкуць. Давялося зноў лезці наверх. У пад'ездзе ён адразу ж выглянуў на двор.

Зэкі білі Нінку і рукамі, і нагамі — яна ледзь паспявала прыкрыць то твар, то жывот.

А што, як усё ж такі накрыць іх са спіны і ўпластаць аднаго за адным на асфальт?.. Хліпакі — ён іх ураз аформіць... Галоўнае — хуткасць... Яны і ўцяміць нічога не паспеюць... Напружыўшыся, Супер нават тузануўся быў уперад.

Не, адумаўся ён. Заўтра сход курсу. Дэкан намякаў, могуць выбраць старастам. Займацца грамадскай работай, як ні шкада часу, неабходна: інакш да размеркавання першым не прыйсці. А раптам ён, увязаўшыся ў гэтую гісторыю, трапіць у міліцыю?..

Было позна, Нінка чамусьці не крычала, і ў доме, напэўна, ніхто і не чуў нічога. Раз'юшаныя зэкі бачылі толькі Нінку. І ліхтароў на двары было мала. Можна ліняць, вырашыў Супер.

Ён атрос джынсы, выцер аб падлогу чаравікі, заправіў кашулю і імкліва выйшаў на ганак. Да выратавальнага рога, за якім ён стаў бы зусім тут нябачны, было метраў сем-восем. Але прайсці непрыкметна не ўдалося: зэк з татуіроўкаю на павеках раптам зірнуў у ягоны бок.

— Чакай, хлопчык, не спяшай,— спыніў ён Супера, толькі той ступіў два крокі.— Нам і з табой пагаманіць трэба.

На твары ў Супера расплылася рахманая ўсмешка:

— Ну, што яна там адмачыла? — выціснуў ён з сябе, з усяе сілы намагаючыся трымацца спакойна.

Угледзеўшыся Суперу ў твар, зэк сплюнуў:

— Плявузгае шмат, падла!.. І дзе ж толькі ты яе падчапіў?.. Ну, валі адсюль! І каб я ценю тваёй тут не бачыў! Кыш!

Ён зноў кінуўся да Нінкі.

Прайшоўшы за рог, Супер затаіўся: было-такі цікава, чым усё скончыцца.

Неўзабаве Нінка ўпала і скурчылася на асфальце. Ударыўшы яе яшчэ некалькі разоў нагамі, хлопцы нешта сказалі адзін аднаму і пасунуліся ў пад'езд.

Праз якую хвіліну Нінка ўстала і, усхліпваючы, пацягнулася ў суседні двор.

Абагнуўшы дом з другога боку, пайшоў за ёю і Супер. Не мог ён згадзіцца, каб гэты і без таго нікчэмны дзень скончыўся поўным яго паражэннем: надта ўжо шмат зняважыў, каб адпусціць за так ляраву, што столькі вадзіла яго за нос, бы хлопчыка. Якія ж толькі рылы не здзекаваліся з яго сёння! Ён павінен быў сцвердзіць сябе, паставіць урэшце на калені гэтую дзеўку.

І няўжо яна не хацела таго ж, чаго дамагаўся ён? Гэтага проста быць не магло: навошта ж тады ўся гэтая п'янка, абдымкі і пацалункі?..

Яму здавалася, што яна п'яная і не чула, не магла чуць ягоных размоў на двары з зэкам, які біў яе. Напачатку трэба было суцешыць яе: без хітрасці нічога не выйдзе. Вачыма ён зноў шукаў месца, дзе б можна было нагнаць яе і спыніцца. Урэшце зраўняўся з ёю і абняў за плячо.

Нінка ажно скаланулася.

— Не чапай мяне! Ненавіджу! — Яна ўсхліпнула, расціраючы слёзы па твары запэцканымі ў зямлю і кроў рукамі.— Заступіцца не мог!.. Такіх мазглякоў пабаяўся!

— Аб чым ты?

Супер зноў абняў яе — Нінка адштурхнула яго, але сілы ў яе, відаць, не было ўжо ніякай.

Ён стаў хлусіць, што нічога не бачыў, бо доўга быў у ваннай, а на двары апынуўся, калі гэтыя блатныя ўжо ішлі да пад'езда...

— Не дакранайся! — вочы ў яе былі поўныя агіды.

— Ты што, звар'яцела, дурніца? — засмяяўся Супер.

— Ты, ты,— дрыжэла яна ўся,— гніда... Думала, ёсць яшчэ ў табе чалавечае нешта... Я ж бачыла, як ты хацеў уцячы...— Яна задыхалася, рот у яе крывіўся.

Лютасць захліснула яго. Ён зразумеў урэшце, што нічога ўжо не будзе, нічога — і адчуў нясцерпнае жаданне зараз жа адплаціць ёй за ўсё. Размахнуўся нагою і з усяе сілы ўдарыў Нінку ззаду. Але, падаючы, яна ўсё ж устаяла, выпрасталася, заенчыла і пабегла. Дагнаўшы яе, ён ударыў яшчэ раз, ды Нінка і цяпер не ўпала.

— А-а-а-а! — ужо галасіла яна, ухіляючыся ад новых удараў.

Нінка крычала так гучна, проста ўзвыла, што яму самому зрабілася жудасна. Падумалася раптам, што і тут могуць апынуцца яе дружбакі. Халера з ёю, сказаў ён сабе і спыніўся.

А Нінка ўсё бегла — хістаючыся, пятляючы — і нема крычала.

Яму здавалася, што яе чуюць цяпер ва ўсіх дамах навокал. Гэта ж трэба так раўці!.. У адным з вокнаў запалілася святло, пасля ў другім, трэцім... У горле сушыла. Ён аблізаў вусны языком — той бы здранцвеў.

— Змоўкнеш ты, падла, ці не? — слабым голасам крыкнуў ён Нінцы ўслед.

Тая ўжо адбегла ад яго метраў на трыццаць, але галасіла яшчэ гучней.

А што, калі напраўду выскачыць хто з дому? Трэба матаць адсюль, дурань... І што гэта на яго найшло?.. Затарможаны нейкі, тлум у галаве... Гарэлка праклятая... Ён агледзеўся: куды ж рвануць?.. Непадалёк вымалёўвалася ў цемры цьмянымі абрысамі тая самая будыніна, у якой яны пілі гарэлку. Дык во куды яго зноў занесла... Далей адсюль, далей...

Ён ступіў крок, другі — і тут раптам адчуў на плячы чыюсьці руку. У яго ажно дыханне перахапіла. Ногі сталі зусім ватныя, нібыта і не яму ўжо належалі. Усё, сказаў ён сабе: Клешч... Так і ўявіў перад сабою ягоны каменны твар...

Не, пабаіцца... Сам казаў: удвая, як павяжуць, накінуць... А яму маці ў калясцы трэба выкочваць... І што гэтая вар'ятка так лямантуе дагэтуль?..

Ён азірнуўся, як ні цяжка і страшна было гэта зрабіць. Перад ім стаяў і па-дурному лыбіўся ў самыя вочы Хелп.

Супера мала не закалаціла. Ён занёс руку і з усяе сілы ўдарыў Хелпа кулаком у жывот, пасля ў скроню.

Той пахіснуўся і грымнуўся вобзем...

Назаўтра ўвечары Супер сядзеў у бары і пацягваў кактэйль.

З алкаголем скончана. Толькі цяпер вось, каб аправіцца пасля шоку, ён дазволіць сабе шклянку кактэйлю. Псіхіку неабходна загартоўваць: элементарна мог бы ўчора зліняць, калі б трымаў сябе ў руках. А яшчэ лічыў сябе сфармаваным асобай, сапляк!..

Коша з Хелпам не існавалі ўжо для яго. Знайшоў дружбакоў!.. А што, калі б хто з факультэта ўбачыў яго ў горадзе з імі?.. У тых на лобе напісана, што яны за прадукты эпохі. Згаворлівых цёлак ён і без прыяцеляў заўсёды знойдзе. І ўвогуле, як гэта сказана ў «Дхамападзе»?.. «Да тае пары, пакуль у мужчыны захоўваецца цяга да жанчыны, розум яго падобны да цяляці, што ссе малако ў маткі...» Бабы шмат каго загубілі... Бацька расказваў, колькі міністраў ды розных паслоў-аслоў на іх пагарэлі... Не, усё ж такі лухта гэта тут у індыйцаў. Ад задавальненняў ён не адмовіцца. А інакш дзеля чаго жыць? Дзеля аднаго толькі самасцвярджэння? Гэтага мала. Проста ва ўсім, і з тымі ж самымі цёлкамі, трэба шукаць залатую сярэдзіну, каб не страчваць розуму і не марнаваць час, як учора...

Удзень ён зноў займаўся каратэ. Трэніравацца вырашыў штодня. Як ніколі раней, адчуваў: трэба ўсё ж такі быць вышэйшым за астатніх ва ўсім. Працаваць над сабой яшчэ прыйдзецца... А тое, што здарылася ўчора, жахлівы сон, які ніколі больш не паўторыцца. Калі і трапіцца дзе які Клешч, дык зубы будуць вастрэйшыя. Што ўнурыўся, га?... Вышэй галаву, малады воўк!

Старастам курса яго ўсё ж такі абралі. Замест былога, які не заўсёды адзначаў адсутных у журнале.

А перад сходам да яго падышоў гэты стары прыдурак, загадчык кафедры параўнальнага мовазнаўства. Рыцар Мінервы. Спакушаў аспірантурай і перспектыўнай тэмай пад яго кіраўніцтвам. Якая ж была ў яго пыса, калі ён пачуў адказ!

Знайшоў, пень, Эльдарада! Што яны будуць мець, гэтыя ідыёты-маладзёны, якія прынялі ягоную прапанову? Калі і здзейсняць свой навуковы подзвіг, дык нажывуць гемарой, пэўную ступень крэтынізму і дактарскую зарплату, гэта значыць чатырыста рэ максімум.

А ён *жыць* хоча, бачыць свет, мець прыстойнае месца ў прэстыжным офісе, каб не сорамна было глянуць у вочы любому, каб не прыйшлося стаяць у прадуктовым магазіне ў чарзе па дактарскую каўбасу. *Дактарскую!* Гэта і будзе ў іх на стале верх дабрабыту.

Дык ён, Супер, адказаў, што ў яго няма схільнасці да тэарэтычных дысцыплін і ён хоча працаваць перакладчыкам. Спаслаўся яшчэ на страшэнную занятасць такімі важнымі ў наш час грамадскімі навукамі.

А тыя два абухі з суседніх груп згадзіліся без сумненняў. Во дзе недаробкі: размяняць паездкі за мяжу, чэкі, валюту на сядзенне за дысертацыйнай лухтою!

Што ж, усё запланавана ад самага пачатку: Ной узяў у каўчэг кожнае жыўнасці пару. Гэтаксама і сярод людзей: ёсць ваўкі і вярблюды, авечкі і тыгры. Кожны сам выбірае свой лёс. Няхай прававерныя сунуцца ў Меку, а ён пойдзе да свайго Тулона.

Але калі, дарэчы, прыйдзе як-небудзь дзень і яму абрыдне бадзяцца па свеце, захочацца спакойнае старасці ў ціхім прытулку вечна мудрай і немітуслівай навукі, дык «фазэр» знойдзе яму месца ў якойсьці аспірантуры па гэтых самых страшэнна важных сёння грамадскіх навуках. Па нейкіх, скажам, перспектыўных праблемах міжнароднага жыцця.

Тады і філасофія спатрэбіцца. Вось яно як выходзіць: не толькі для сэрца, але і на ўсякі выпадак — ягонае захапленне.

А файную думку сустрэў ён сёння ў Чжуан-цзы:

«Таго, хто ўкраў паясную спражку, караюць, той, хто крадзе царства, робіцца валадаром».

1985






Леанід КАЗЛОЎСКІ

# «ДЗЕЦІ ПАДЗЯМЕЛЛЯ»



Словам «культурызм» хмурыя дзядзькі і цёткі палохалі недасведчаных людзей гадоў дзесяць. Прычым гэтаксама ж захоплена, як іх саміх — дзіўным і неперакладальным слоўцам «стылягі». Цікава выходзіць... Ніхто не спрабаваў зразумець сэнс справы, затое «раўніцелі», акруглíўшы вочы і набраўшы ў лёгкія як мага больш паветра, наводзілі жах крыкамі:

— Ату іх, культурыстаў! Нам гэта не трэба, моладзь гэта не разумее.

З моладзю, натуральна, пра гэта не раіліся, бо належалі яны да таго унікальнага слою адміністратараў, які з'явіўся ў гады застою і добра ахарактарызаваны просценькімі вершыкамі Эльдара Разанава. Памятаеце: «Мы не пашем, не сеем, не строим — мы гордимся общественным строем»? З такім настроем лёгка і зручна кіраваць ад імя моладзі, абсалютна не цікавячыся яе клопатамі і імкненнямі. Вось чаму мінскі спартыўны клуб «73» амаль пятнаццаць гадоў туліцца ў сутарэннях, хоць яго члены, а гэта сорак чалавек ад шаснаццаці да трыццаці пяці гадоў, багата робяць дзеля таго, каб асабістым прыкладам пераканаць скептыкаў у карысці здаровага і цвярозага ладу жыцця.

Але дамоклаў меч абвінавачванняў у культурызме, якога гэтак баяцца, па-ранейшаму вісіць над нашым клубам, і таму, напэўна, мы існуем, бы нейкія «дзеці падзямелля». Хаця, вядома, сутарэнне, якое нам вызначылі ў 1973 годзе, заслугоўвае іншых слоў. Пачыналі мы, маючы лом, які замяняў грыф, пару металічных бліноў і дашчаную стойку. Цяпер знакаміты лом стаў у нас кандыдатам на месца ў музеі, а яго месца заняло мноства сучасных, зробленых сваімі рукамі трэнажораў. Дзякуй старому лому! Ён даў пуцёўку ў вялікі спорт Святлову, Александровічу, Каташынскаму, Багдановічу, Федзюку.

Але не гэта, вядома, галоўнае! Галоўнае, што захапленне атлетычнай гімнастыкай зрабіла дужымі і прыгожымі многіх хлопцаў, якія не пабаяліся цяжкасцей і аднастайнасці рэгулярных заняткаў. Бо сіла — гэта не ланцугі і заклёпкі «металістаў». Каб мускулы сталі цвёрдыя, бы метал, трэба сціснуць зубы і ўпарта працаваць. Так што нашаму сутарэнню ўдзячныя ўсе, хто ўжо пятнаццаць гадоў прыходзіць сюды па вечарах, хто, прыйшоўшы ў армію, не вісеў кілбасою на перакладзіне, а, начапіўшы на спіну паўтузіна аўтаматаў і рэчмяшкоў, забраных у «слабакоў», быў першы на фінішы стамляльных марш-кідкоў. Зрэшты, усюды члены клуба «73» былі не ў ліку апошніх. Таму што заняткі атлетызмам навучылі не хныкаць, цярпець, беражліва ставіцца да таварышаў.

Я мог бы багата чаго расказаць пра наш клуб. Пра аскетызм хлопцаў, якія толькі раз у год парушаюць рэжым — калі традыцыйныя клубныя спаборніцтвы заканчваюцца агульнай вячэраю з гарбатаю і тортам. Пра парадоксы страты ўзросту: калі хлопцу ўсяго пятнаццаць гадоў, пасля года заняткаў ён робіцца і больш сур'ёзны і больш самастойны, а калі пачаткоўцу за трыццаць, ён, наадварот, паводзіць сябе як шаснаццігадовы — поўны сілы і хлапечай гарэзлівасці.

Я прыхаваў яшчэ шмат дыфірамбаў нашаму сутарэнню. Але жыццё ідзе, і сутарэнне робіцца цеснае нашаму клубу, як любімы касцюм, з якога ты ўжо вырас. У многіх нашых хлопцаў ёсць сем'і, падрастаюць дзеці, і, вядома, мы б хацелі далучыць іх да нашага любімага захаплення. Мы прывялі б у клуб суседзяў, што часта задаюць нам пытанні, у якіх чуецца непрыхаваная зайздрасць... Але куды мы іх запросім? Сутарэнне робіцца цеснае.

А вакол толькі і размоў, што пра неабходнасць перабудовы спартыўных арганізацый. Але што размовы? Хіба ж яны выцягнуць хлопца з вуліцы, хіба ж дапамогуць слабому стаць дужым, хіба ж пераканаюць, што ніякі «балдзёж» не параўнаецца з адчуваннем прыемна стомленых мышцаў і жаданнем заўтра зноў ісці ў свой клуб, да сапраўдных, правераных металам сяброў.

Нашае сутарэнне цеснаватае. І мы марым, што пятнаццацігоддзе клуба адзначым у больш прасторнай зале, куды зможам запрасіць усіх тых, хто жадае стаць моцнымі. Хто адгукнецца, хто прапануе нам пустое памяшканне? Абсталюем мы яго самі, не прывыкаць. А за дапамогу абавязваемся заплаціць з лішкам — прыцягнуць да цікавых і карысных заняткаў дзесяткі хлапчукоў, якія жадаюць стаць мужчынамі, і мужчын, якія хочуць адчуваць сябе хлапчукамі. Толькі давайце не будзем глядзець на наш спорт спадылба, давайце не паўтараць бяссэнсавае і неразумнае: «А раптам гэта культурызм?..»

Святлана БАРТОХАВА

# ДЫЯЛОГ У ТЭАТРАЛЬНАЙ ГРЫМЁРНАЙ

## НЕКАЛЬКІ ІНТЭРВ'Ю НА ВЕЧНУЮ ТЭМУ

Акцёр **Пётр ЮРЧАНКОЎ** знаёмы нашым чытачам па такіх фільмах, як «Вянок санетаў», «Зоркапад», «Дублёр пачынае дзейнічаць», «Сярод белага дня» і многіх іншых. Тыя, каму пашчасціла дастаць білеты ў Мінскі тэатр-студыю кінаакцёра, бачылі яго ў спектаклях «Глядзіце, хто прыйшоў...», «Не баюся Вірджыніі Вулф», «Шчасце маё...», «Фантазіі паводле Гогаля», «Камедыя пра Лісістрата».

Пятра Юрчанкова вылучае асаблівая ўлюбёнасць у акцёрскую прафесію. Пра свой тэатр, напрыклад, ён гаворыць як пра жывую істоту. Слухаць яго цікава, яшчэ цікавей назіраць, як ён працуе. Зрэшты, гаворка цяпер не пра гэта...

Ен быў заклапочаны нечаканым паваротам нашай размовы, але толькі спачатку. Відаць, выявілася прывычная прафесійная гатоўнасць адаптавацца да любых «прапанаваных абставін» — зусім паводле Станіслаўскага. Праўда, некаторыя пытанні вымусілі акцёра задумацца, а ад адказаў на іншыя ён проста ўхіліўся, рэагуючы паблажлівай усмешкаю на мае настойлівыя старанні дамагчыся поўнае адкрытасці...

— ...Скажыце, пра што гавораць акцёры, калі збіраюцца ў мужчынскай кампаніі?

— Вы, напэўна, думаеце, што пра жанчын? Нічога падобнага, мы гаворым аб рабоце, можаце мне паверыць. Акцёр не бывае свабодны ад сваёй прафесіі, калі ставіцца да яе сур'ёзна.

— Ці цяжка іграць закаханага на сцэне і ў кіно?

— Усё залежыць ад партнёршы, якая іграе даму сэрца.

— Каго з актрыс Вы асабліва цэніце і чаму?

— Бэт Дэвіс. Гэта дзіўная жанчына, якая спалучае ў сабе жаноцкасць і ўнутраную прыгажосць. Нягледзячы на ўзрост, яна многім маладым актрысам магла даць фору. А тым часам знешнасць яе зусім не адпавядала галівудскаму стандарту кіназоркі.

— Вы хацелі б працаваць з Бэт Дэвіс?

— Аб такой партнёрцы любы акцёр можа толькі марыць. Але гэта, самі разумееце, фантастыка, да таго ж ёй ужо каля васьмідзесяці гадоў...

— Якія вартасці павінна, на Ваш погляд, мець актрыса?

— Часткова я адказаў на гэтае пытанне, гаворачы пра Бэт Дэвіс... Актрыса павінна быць работніцаю, валодаць прафесіяй, выкарыстоўваць свае магчымасці да канца.

— Ці абавязковая для актрысы прыгажосць?

— Ей трэба быць эфектнай, гэтага вымагае наша прафесія, актрыса ж перш за ўсё — жанчына. І ўсё-такі знешнасць — не галоўнае. Есць жанчыны з фенаменальнымі знешнімі дадзенымі, некаторыя з іх імкнуцца стаць актрысамі без усякага да таго прызвання — і тады на экране або ў тэатры з'яўляюцца прыгожыя марыянеткі. Адсутнасць таленту немагчыма кампенсаваць знешняй мішурой.

— Ваша жонка, актрыса Лідзія Мардачова, працуе разам з Вамі ў тэатры-студыі кінаакцёра. Так ці інакш вам прыходзіцца пастаянна быць побач. Вы не стамляецеся ад гэтага?

— Ані кроплі. Нам ніколі не бывае сумна, пра вядомую «адзіноту ўдваіх» мы ведаем толькі па чутках.

— Ці можаце Вы сказаць, што Вам пашанцавала з жонкаю?

— Вядома! У мяне было досыць часу, каб пераканацца ў гэтым: мы жывём разам 17 гадоў, у нас двое дзяцей. Спадзяюся, ёй са мною таксама пашанцавала. Нягледзячы на тое, што іншы раз мы спрачаемся да хрыпаты, мы ўсё ж выдатна разумеем адно аднаго. Ні ёй, ні мне не трэба тлумачыць, што такое радасць удачы, як іншы раз неабходна замкнуцца ў сабе, каб абдумаць ролю, і гэтак далей.

— Вы часта дорыце ёй кветкі?

— Не магу сказаць, што вельмі часта, але не так ужо і рэдка для таго, каб яна адчувала сябе жанчынаю.

— Ці любіце Вы рабіць ёй камплІменты?

— Яшчэ як, я проста засыпаю жанчын кампліментамі! І асабліва сваю жонку.

— А чаму?

— Дзіўнае пытанне...

— Але ж ёсць мужчыны, якія не любяць гэтага рабіць...

— Я такіх мужчын не разумею, я ім спачуваю, яны абкрадваюць не толькі жанчын, але і сябе. Кампліменты — гэта той жыватворны грунт, на якім жанчыны расцвітаюць. Вы ведаеце, калі я крышачку эгаіст, дык эгаіст разумны: раблю прыемнае таму, што мне самому прыемна гэта рабіць. Мне радасна, калі жанчына прыгажэе на вачах, і раз камплімент гэтаму спрыяе — няхай жыве камплімент!

— Вы не баіцеся, што Вас западозраць у няшчырасці?

— Не баюся, таму што кампліменты мае шчырыя. Урэшце, у кожнай жанчыне ёсць нешта такое, што вылучае яе сярод іншых і можа выклікаць замілаванне. А калі гэта каханая — тут ужо неабмежаваныя магчымасці для таго, каб замілоўвацца.

— Вы часта гаворыце пра каханне?

— Пра каханне я не гаварыў нікому, апроч сваёй жонкі. Не падумайце, нібыта гэта сказана для таго, каб зрабіць добрае ўражанне. Калі я прапанаваў Лідзіі выйсці за мяне замуж, яна мне падабалася. Але аб тым, што я яе кахаю, здагадаўся толькі праз чатыры гады сумеснага жыцця і тады ўпершыню сказаў ёй пра гэта.

— А як Вы зразумелі, што кахаеце?

— Гэта здарылася зусім нечакана. Я раптам усвядоміў, што не магу без яе абысціся, што яна і я — адно цэлае і асобна мне проста не выжыць...

— Як Ваша жонка зрэагавала на









Вашае першае і такое позняе прызнанне?

— Яна страшэнна знікавела і стала прыгажэць на вачах. Гэта былі найшчаслівейшыя імгненні ў маім жыцці.

— Што такое рэўнасць і як Вы ставіцеся да яе?

— Рэўнасць — гэта хваравіты стан душы, але калі яна ў межах дапушчальнага і не робіць чалавека зверам, дык нават карысная. Хаця б таму, што дапамагае крытычна паставіцца да сябе самога і стаць лепшым за магчымага суперніка. Рэўнасць, калі яна ў меру,— гэта як пераліванне крыві, як абнаўленне арганізму.

— Вы раўнівы?

— Вядома.

— Чаму «вядома»?

— Бо часта ўлюбляюся — у сваю жонку. Але ёй падабаецца, калі я раўную.

— Як вы ставіцеся да так званай жаночай эмансіпацыі?

— Адмоўна. Яна па сутнасці сваёй агрэсіўная і, значыцца, нясе разбурэнне.

— Што Вы больш за ўсё не любіце ў жанчынах?

— Вульгарнасць.

— Ці ведаеце Вы прыклады рыцарскіх адносін да жанчын у наш час?

— Бадай што не.

— Як Вы разумееце роўнасць паміж мужчынам і жанчынаю?

— Абсалютнай роўнасці быць не можа, хаця б з прычыны няроўнасці фізічнай. Калі гаварыць пра ўзаемаадносіны, дык гэта — свабода і незалежнасць адно ад аднаго.

— Вы можаце сказаць пра сябе, што Вы свабодны і незалежны?

— Магу.

— А як быць з Вашымі словамі пра тое, што Вы з жонкаю неаддзельныя адно ад аднаго?

— Адно другому не супярэчыць.

— Хто, па-Вашаму, павінен стаяць на чале сям'і?

— Мужчына. Іншага варыянту быць не можа, таму што галоўны ў сям'і нясе велізарную адказнасць — і матэрыяльную, і маральную. Гэта чыста мужчынскія перагрузкі.

— Але ёсць сем'і, у якіх кіруюць жанчыны...

— Гэта, даруйце мне, неразумныя жанчыны. Разумная жонка будзе старацца падтрымаць у мужчыне пачуццё адказнасці і ўсведамленне яго значнасці для сям'і. Ведаеце, як у тэатры: не кароль іграе сябе, а акружэнне іграе караля.

— Якой Вы сабе ўяўляеце ідэальную жанчыну?

— Ідэальная жанчына — гэта абсалютная гармонія знешніх і ўнутраных вартасцей. Але такая жанчына немагчымая, як немагчымае ўвогуле штонебудзь ідэальнае.

— Ці можаце Вы прывесці прыклад сапраўднага кахання?

— Яскравы прыклад — лэдзі Макбет, якая ўсё паставіла на карту дзеля свайго кахання. Сродкі для дасягнення мэты ў яе страшныя, але затое як моцна яна кахае! Такое пачуццё ўсё-такі не можа не выклікаць павагі, хоць бы і з адценнем жаху...

— Вы змаглі б дараваць здраду?

— Я змог бы яе не заўважыць.

— Як Вы ставіцеся да эротыкі ў мастацтве?

— Яна неабходная як частка нашага жыцця. І ўсё ж з эротыкай трэба быць асцярожным, таму што лёгка можна апусціцца да гідкага. Іншы раз на экране бываюць залішне адкрытыя сцэны, але пастаўленыя яны прыгожа; нярэдка здараецца, што звычайны пацалунак здаецца верхам бессаромнасці. Усё залежыць ад таго, якімі рукамі робіцца мастацтва...

— І апошняе, «вечнае» пытанне: што такое каханне?

— Гэта доўгатэрміновая патрэба жыць думкамі і пачуццямі дарагога чалавека.

(гл. «Крыніцу» № 2 і № 3)

(або «Дзіця перамен»). Афіцыйнае прадстаўленне яе мясцовай прэсе было зроблена за дзень да адкрыцця матча. Тут немагчыма разабраць яе падрабязна, але скажу адкрыта: я быў збянтэжаны развязным зместам шматлікіх старонак кнігі.

Непаважлівы тон, у якім чэмпіён свету выказваецца пра шэраг вядомых дзеячаў шахматнага руху, называючы іх «цёмнымі інтрыганамі, якія баяцца праўды», «ведзьмамі шэкспіраўскага Макбета», не робіць яму гонару. Пакідаючы на сумленні майго шахматнага суперніка такія, напрыклад, заявы, як «кар'ера Карпава супала з тым перыядам у жыцці Савецкага Саюза, якому былі ўласцівыя карупцыя і акасцяненне... ён заключыў з гэтымі сіламі ўзаемны саюз...», мушу рашуча выступіць супраць спробаў перайначыць рэальныя факты і, у прыватнасці, акалічнасці зрыву матча Каспарава з Карчным у 1983 годзе, калі яму залічылі паражэнне за няяўку ў ЗША. Прадстаўляць гэтую справу як «хітрыкі савецкай шахматнай мафіі» і настроенага супраць яго Дзяржкамспорту СССР проста невысакародна, калі не сказаць больш.

Падобныя выказванні Каспараў дапускаў у сваіх інтэрв'ю і ў час матчу ў Севільі, і іх ахвотна цытавала заходняя прэса. Так, у заходнегерманскай газеце «Франкфуртэр альгемайнэ» за 17 лістапада 1987 года я прачытаў наступную тэзу: «Мы з'яўляемся сведкамі барацьбы паміж людзьмі з розным інтэлектам: дэмакратычным і фашысцкім... Карпаў з'яўляецца прадстаўніком інтэлектуальнай мафіі. Ён хросны бацька савецкіх мафіёзі». Каментарыі, як кажуць у такіх выпадках, лішнія.

Мушу сказаць, што ў час матчаў 1978 і 1981 гадоў я таксама адчуваў на сабе псіхалагічныя нападкі. Аднак цяперашні мой супернік відавочна пераўзышоў папярэдняга. Усё гэта вельмі засмучае. Мы за творчыя дыскусіі ў старажытнай высакароднай гульні, за сутыкненне розных стыляў і ідэй, за сумленнае суперніцтва за шахматнай дошкаю. Карацей, за ўсё, што спрыяе развіццю шахмат і росту іх папулярнасці. Але глыбока ўпэўнены: ніякі нават самы бліскучы спартыўны поспех не дае права пераможцу чарніць свайго суперніка.

Выдае на тое, што паміж чэмпіёнам і яго асноўным супернікам існуюць праблемы не толькі за шахматнай дошкаю. Шкада, калі гэта так...

**Паводле матэрыялаў ТАСС, замежнага друку, газеты «Советская Россия»**

**Сяргей ТАРАСАЎ**

# ГАНЧАР, або ІМЧАЦЦА СТАГОДДЗІ, ЯК ГЛІНА НА КОЛЕ





Я кручу ганчарнае кола. Дакладней, не я кручу, а яно само круціцца сілаю магутнага электрычнага рухавіка. Я толькі таркануў кола раз-другі — і яно пабегла ад мяне, але адразу ж вярнулася назад. Уперад, назад — і да мяне. А зараз круціцца і гудзе, быццам чмель, распырскаўшы першыя вадзяныя кропелькі і кавалачкі гліны. Гліна добра перамешаная, ніводнага ні каменьчыка, ні раслінкі. Той першы кавалак, які я кінуў на сярэдзіну кола, пад рукамі пачаў у нешта ператварацца. Магу выцягнуць з яго любы гаршчок, нават самай неверагоднай формы. Але я не спяшаюся. Асалода адчуваць у сваіх пальцах паслухмянасць гліны, яе пластычнасць...

Гліна слізгаціць, нібыта лашчыцца да рук. Трошкі сцісну — імкнецца вырвацца з далоняў, уцячы з-пад пальцаў. Адпускаю рукі. Адбіткі маіх далоняў і пальцаў з хуткасцю ваўчка зноў круцяцца на ганчарным коле.

Гліна. Я бачу ў ёй першапачатковую аснову сваёй ідэі. Гэта будзе твор, яшчэ не ведаю якіх мастацкіх вартасцей. Але хочацца, каб ён прынёс радасць.

Часу на больш глыбокі роздум, на жаль, не маю, бо сяджу за колам, а яно круціцца, як шалёнае, разам з кавалкам гліны. Пакуль прыглядаўся да формы, да ліній-адбіткаў, да гульні святла на мокрых гладкіх баках, рукі міжволі надавалі кавалку гліны падабенства гаршка. Яны ведалі, што гэта павінна быць, але не ведалі дакладна, як завяршыць форму.

Я выцягнуў горла гаршка, надаў гаршку акругласць з плаўным цыркульным пераходам да донца, лёгенька адагнуў край венчыка.

Асноўнае, безумоўна, было гатова. Потым чамусьці захацелася зрабіць дзве ручкі ў выглядзе пеўніка, аздобіць невялічкімі разеткамі.

Гаршчок доўга прасыхаў, абпальваўся і пакрываўся грунтовай палівую. Потым яшчэ раз — каляровай, цягучай. Яна застывала і ўтварала выпуклы, амаль ляпны арнамент.

Рассталіся мы з ім без жалю. Я кінуў на электрычнае кола новы кавалак гліны.

А гаршчок з пеўнямі, відаць, нехта ўпадабаў. І стаіць ён зараз у нейчай кватэры з ікэбанаю ці кветкамі, а можа, і наогул пусты.

Такі яго лёс.

* * *

Я кручу ганчарнае кола.

Кручу сам, нагою. Звычайна праваю, бо так зручней, але бывае, што і дзвюма. Вы думаеце, лёгка круціць гэтую драўляную кружэлку, каб ішла роўна, не хісталася ў бакі? Клопатная гэта справа. Лёгка толькі глядзець.

Спачатку гліну трэба прывезці. Воз, а то і некалькі. Калі не маеш гатовае — накапай сам, сам і прывязі. Ды каб на зуб не тлустая была. Бывае, што і ў другую воласць з'ездзіш. Потым дробныя каменьчыкі павыбірай ды прыхавай яе ў падклецці. І ляжыць часам гліна аж некалькі год, пакуль не засмярдзіць. Во тады і гатова.

Як сеў за кола — не абы-што рабіць трэба. Ведай, што на кірмаш павязеш. На тым тыдні сусед Лявон павёз цэлы воз гладышоў, а куплялі мае. Чаму? Сам не ведаю... Можа, мае больш упадабалі, бо не такія, як некалі рабіў мой дзед.

Нараблю-нараблю, увесь двор застаўлю — сохнуць. А прыгажосць якая! Здаецца, так бы і пакінуў, без абпалу. Нешта ў іх ёсць, што вабіць вока. Але шкада — да вады не прыдатныя. Вось і чакаю, пакуль набярэцца поўны двор, пакуль высахнуць да глухога звону. Тады і ў печ можна, на абпал.

Абпал бывае розны. Як дымлёным хачу посуд зрабіць ці наогул чорным — усе шчылінкі ў печы замажу, каб паветра не трапіла, ды смалякоў больш падкіну — для куродыму. А як звычайны посуд раблю — мураўлёнкаю пакрываю, а то хвалямі, стужкамі, кружочкамі распісваю. Каб весялей было.

Пойдуць гаршкі па людзях — кожнаму сваё месца, як і чалавеку. Адны — пад малако, другія — у печ, трэція — на стол. Дзесьці гаспадар у поле возьме, дзесьці кот з лавы скіне. І паляцяць тады каляровыя ашкалёпкі на сметнік. Ды я не крыўдую — зраблю новыя.

* * *

Я кручу ганчарнае кола.

На невысокім стрыжні, прымацаванае да лавы, яно слухаецца маёй рукі.

За парогам хаты, на драўлянай гарадской вуліцы гуляе снегавей.

Яшчэ з восені, з дазволу княскага цівуна, нарыхтаваў гліны — якраз будавалі на замку Сафейскую вежу. Зацягнуў у падклець. Хоць гэта не каля печы, а ўсё ж пад рукою — можна працаваць. Да восені гліны хопіць, а там падыдзе другая, што на двары ў чане ляжыць.

Курыць дзеда з лучынаю, пячны дым лезе ў вочы, каб яго ліха!

Кручу-паварочваю кола. А сам думаю: людзям гаршкі раблю — ім шчасце. Яны гаршкі паб'юць — мне шчасце. Ганчар, вядома, не залатар княскі і нават не чаляднік, што рэжа танныя скураныя поршні, але неабходны людзям.

Увесь час хаджу брудны — з ног да галавы ў гліне. Рукі нават чырвоныя — гэтак яна ўелася ў скуру. Затое штодня маю заказы. Без залатога пярсцёнка ці пацерак можна абысціся. Нават без крыжыка нацельнага, што прымушаюць князь і гэты прышлы кіеўскі поп вешаць. Дарэчы, якія дурні! Думаюць, жалеззе на шыю павесілі, у вадзе дымам абсмуродзілі — і я ўжо іншы? І народ іншы?! А ён вунь, як і раней, толькі цішком, па лясах ды па капішчах гойсае. У кожнай хаце багі нашыя сапраўдныя жывуць, у кожным куце, у кожным камені. Без крыжа жылі і пражывём, а што без гаршка рабіць будзеш? У прыгаршчах поліўкі не зварыш, на дошку не нальеш... А я прыгожа зраблю, з высокім горлачкам ды канцікам па вянцы. А то хваляю гаршчок аздоблю ў некалькі радоў. Чым не прыгажосць? Купляй, карыстайся. А каб не забыўся і не зблытаў, які гаршчок у мяне заказваў,— на маім коле пячатка ёсць. На кожным донцы той адбітак застаецца. Ды не простая пячатка — княская. З часоў Рагвалода продкам маім загадана было двухзубец на вырабы ставіць. І я стаўлю. І дзецям сваім ставіць загадаю. Пакуль род наш жыве, канца ганчарам не будзе.

Вось сказаў «не будзе», а сам падумаў: а колькі каму з нас гэтага веку дадзена? Ці ж сакрэт — ганчар не вой, а і да нашае хаты дзіда вострая далятае. Адзін сварыцца, а з другога скура злазіць. Толькі і дазнаешся, як пачуеш кліч вечавога звону. Тады мый рукі ды за меч бярыся. Хто зна, ці вернешся зноў да гліны...

Вось і кручу з раніцы да вечара, зарабляю грыўні свае. А то і проста за пару новых чаравікаў ці паўмеры збожжа, каб было. І дзецям засталося...

* * *

Я не кручу ганчарнага кола, бо не ведаю, што гэта такое.

Накапаўшы паблізу гліны, часам з пяском і травою, шукаю пляскаты камень ці якую-небудзь калоду. Каб гаршчок не прыліп, падсыпаю пад донца пясок і пачынаю ляпіць. Мой бацька ляпіў гаршкі з невялікіх гліняных блінцоў. Састаўляючы іх, замазваў пальцамі стыкі. Я ж раблю іначай. Спачатку выцягваю доўгі гліняны жгут-вяроўку, потым кладу яе кругам на падрыхтаванае дно і плюшчу. Так — стужка за стужкаю — і ўздымаецца, расце гаршчок. Вядома, стужкі не такія ўжо і роўныя, хутчэй, як правіла, наадварот. І сценкі не аднолькавай таўшчыні. А з-за каменьчыкаў і прымесяў некаторыя гаршкі адразу на агні і развальваюцца. Але раблю як магу, бо гаршкі мне патрэбны. Розных памераў, аднолькавыя на выгляд. Чаму яны такія? Нават не ведаю. Заўсёды так было ў крывічоў.

З гэтым посудам я сустрэў свет. З ім жыву, з ім і развітаюся. Калі ж на Вялесавым вогнішчы мае костачкі збяруць родзічы ці суседзі, разам з попелам пакладуць у маленькі, памерам у два кулакі, гаршчок. Гаршчок паставяць на зямлю, адправяць трэбу, а зверху, на ўспамін, кожны кіне жменьку зямлі. І залунае мой дух па бязмежных прасторах, спалучыўшы ў сабе агонь і гліну.

Кожны імкнецца да вечнага жыцця і чакае яго, але нікому не дадзена вызначыць лёс свой, бо не падуладны ён чалавеку.

...Я ляплю свой гаршчок. Зраблю яго высокім і шырокім. Не пашкадую для трываласці гліны. Ляплю для жыцця, для людзей майго роду, для сябе. Прыйдзе восень. На маленькіх палях, бы лапікі раскіданых між лясоў і рэк, мы збяром кволыя каласкі, вылушчым зерне. Збожжа засыплем у новы вялікі гаршчок і прынясём дадому.

Да тэй пары,
пакуль будзе гаршчок
стаяць ў маёй хаце,
Да тэй пары,
пакуль будзе ў ім зерне,
Да тэй пары
буду жыць я,
Будзе жыць мой народ на неабсяжнай
зямлі.
Да тэй пары...

ПОГЛЯД

Наталля ГРОМАВА

# ПРАГУЛКА З МАНЕКЕНАМ

## У ЖАНРЫ ІРАНІЧНАГА КІНАСЦЭНАРЫЯ

Голас за кадрам: — А пры чым тут, уласна, манекен?

Рэжысёр: — Зразумела, ні пры чым... І няма чаго яго цягнуць за вушы ў нашу гісторыю.

Аператар: — Дык пра што ж тады будзем здымаць?

Голас за кадрам: — Пра Віцебск. Пра даўніну. Пра навізну. І ўвогуле, ці мала пра што...

Рэжысёр і аператар: — Што ж, у такім разе...

### Дубль першы
### ЗНАЁМСТВА

Яснай ліпеньскай раніцай у старажытным горадзе Віцебску з верхняга паверха паўразбуранага жылога дома на вуліцы Талстога сыходзіў чалавек. У чорным капелюшы і з аголеным торсам манекена пад пахай. Твар чалавека быў непранікальны, хоць, зірнуўшы на яго больш пільна, можна было заўважыць у вачах смутак і насцярожанасць. Затое плоская фізіяномія манекена, якога неслі галавою ўперад, выпраменьвала вечнае задавальненне і заспакоенасць. Старая лесвіца пятляла, чалавек ступаў асцярожна, баючыся незнарок праваліцца праз паверхі.

«І не горача яму ў капелюшы»,— падумалася міжволі.

Стаяла сярэдзіна ліпеня.

А ў гэты самы час у іншым кутку старажытнага Віцебска — на тэрыторыі занядбанага манастыра трынітарыяў, а дакладней, пад засенню вышчарбленых скляпенняў былой Пакроўскай царквы,— група лёгка адзетых людзей бадзёра грузіла на насілкі кучы будаўнічага друзу.

Цітры: работы па расчыстцы помніка архітэктуры XVIII стагоддзя вядзе маладзёжны клуб добраахвотных памочнікаў рэстаўратараў «Узгор'е».

Буйна (сінхрон): — Мяне завуць Валянцін Мікалаевіч Арлоў, я выкладчык Віцебскага тэхналагічнага інстытута, мне 57 гадоў. Апошнім часам мы з жонкай з задавальненнем прымаем удзел у работах па расчыстцы гэтай гістарычнай забудовы...

Голас за кадрам: — Можаце ўявіць сабе размах і папулярнасць дзейнасці маладзёжнага клуба, калі ў яго радах такія паважаныя людзі.

### Дубль другі
### ПРАЦЯГ ЗНАЁМСТВА

Месца «дыслакацыі» яшчэ больш паважаных людзей. Прыёмная старшыні Віцебскага гарвыканкома М. А. Федарчука.

Красавік 1986 года.

Буйна: стол старшыні гарвыканкома.

Яшчэ больш буйна: на стале на льняной сурвэтцы... чэрап нашага продка. Месца яго, натуральна, у зямлі, а менавіта — у захаваннях уцалелай тады яшчэ падземнай часткі былога Святадухаўскага манастыра (помнік архітэктуры XIV стагоддзя), надземная частка разбурана ў наш час. Але гэта — тэарэтычна. А практычна на красавіцкім суботніку захаванне было загадана раскапаць бульдозерам, а тое, што рэзала вочы (у тым ліку і названы вышэй прадмет),— вывезці самазваламі на гарадскі сметнік...

Стоп, стоп, стоп... Стоп-кадр.

Некалькі студэнтаў педінстытута і маладых архітэктараў «Віцебскграмадзянпраекта», сённяшнія члены «Узгор'я», «учора», не вытрымаўшы такога варварства, схапілі гэты чэрап і паўсталі з ім «перад цёмнымі вачыма» граданачальніка.

Рэжысёр: — Бадай што на сёння хопіць.

Аператар: — Колькі там на гадзінніку?

Буйна: гарадская ратуша, яна ж Віцебскі абласны краязнаўчы музей, які ўжо сем гадоў як знаходзіцца ў стане рамонту. У верхняй частцы будынка цыферблат. Правы яго бок паказвае 9.00, левы — 10.00.

На лаўцы каля ратушы прыладкаваўся торс манекена. Чалавек у чорным плашчы і чорным капелюшы сядзіць побач, выціраючы насоўкаю ўзмакрэлы лоб.

### Дубль трэці
### ГАСЦІННАСЦЬ

Пахмурнай ліпеньскай раніцай па старажытных каменнях вулачкі Грыбаедава, хістаючыся ад раптоўных успышак святлафораў, а таксама аўтамашын, якія разпораз выныраюць з-за паваротак, плянецца жалю вартая кляча. На крытым саломаю рыпучым возе — стары з лейцамі. Насустрач яму — наш чорны чалавек з манекенам.

— Гэй, сядай, падвязу! — весела крычыць стары.

Праз хвіліну чалавек у чорным плашчы і чорным капелюшы сядзіць задаволены ў павозцы, а побач — голы торс манекена. На паліравана-гіпсавую патыліцу раз-пораз падаюць халодныя кроплі дажджу.

Голас за кадрам: — Куды ўзялі кірунак?

Цітры: старажыл горада таварыш Васіль Брычыкаў аб'язджае гістарычную частку горада на ўласным кані.

Буйна: разумная морда каня.

Яшчэ больш буйна: чатыры колы павозкі. Усе ад розных рухомых сродкаў: аўтамабіля, воза, веласіпеда, самалёта.

«І далёка ж ты, любы, так заедзеш...» — міжволі падумалася.

На заднім плане: абшарпаныя фасады гістарычных дамоў.

Рэжысёр (раздражнёна): — Ды што гэта за трызненне? Манекены, коні... Мабыць, для поўнага камплекту сюды яшчэ і мядзвядзёў?..

— А ёсць у нас і мядзве-е-дзі...— даносіцца з-за павароткі, зліваючыся з цокатам капытоў і брынканнем рознакаліберных колаў па каменні, зычлівы голас старажыла.

### Дубль чацвёрты
### ЗА КРАТАМІ

Поўдзень. Неба праяснілася, сонца прыпякае: душна. Вуліца Камісара Крылова, 7. У кадры абадраны трохкаляровы фасад. Адна яго частка некалі была блакітная, другая — шэрая, сапраўдны колер трэцяй вызначыць немагчыма.

Цітры (бягучым радком): дом пабудаваны ў XVIII стагоддзі. З 1804 года ў ім размяшчалася народнае вучылішча, у 1808—1876 гг.— мужчынская Аляксандраўская гімназія. Сярод яе вучняў у розны час былі дзекабрыст І. Гарбачэўскі, прафесар Пецярбургскага універсітэта, заснавальнік рускай санскрыталогіі К. Касовіч, вядомы гістарыёграф і краязнаўца А. Сапуноў, паэт, фалькларыст, выдавец А. Рыпінскі. Пасля Айчыннай вайны 1812 года тут размяшчаўся ваенны шпіталь, у якім лячыўся бацька вялікага рускага паэта М. Лермантава — Юрый Пятровіч Лермантаў. У першыя гады пасля Вялікага Кастрычніка ў будынку знаходзіўся Пралетарскі універсітэт. У 1941—1944 гадах сутарэнні будынка фашысты ператварылі ў турму СД, у якой пакутавалі дзесяткі савецкіх патрыётаў. У іх ліку была і Герой Савецкага Саюза В. Харужая.

— Р-р-р...

— Гаў-гаў-гаў-гаў...

— У-у-у...

— Ы-ы-ы...

Голас за кадрам: — Калі ласка, не палохайцеся, а ўзніміце вышэй галовы.

Буйна: да кратаў на вокнах другога паверха прыткнуліся морды мядзведзяў, побач можна ўбачыць пашчы худых шакалаў, галовы сумных ільвоў і іншых экзатычных жывёлін.

Іх жалобныя крыкі-плач-выццё рэхам адбіваюцца ў наваколлі, кранаючы крохкую дэкаратыўную чарапіцу на дахах гістарычнай забудовы, не кажучы ўжо пра нервы мясцовых жыхароў і гасцей горада, якія наведалі гэтыя мясціны. Што ж датычыць спакою мясцовых улад, дык яго гэтыя бедныя жывёліны не парушаюць: прыёмныя адсюль далёка. Можа, гэта і мелі на ўвазе айцы горада, калі засялялі ў названы вышэй помнік архітэктуры такую стракатую кампанію.

Рэжысёр: — Паслухайце, гэта ж проста з глузду з'ехаць можна...

Аператар: — Не, з мяне, хлопцы, хопіць. Рукі трасуцца — здымаць больш не магу.

Цітры: а ў раёне былой Пакроўскай царквы нястомныя «ўзгорцы» па-ранейшаму разбіраюць друз.

Цямнее. Усё цяжэй і цяжэй грузіць і падымаць перапоўненыя насілкі. Хутка энтузіясты паціху пачнуць разыходзіцца па дамах.

Голас за кадрам: — Гэтаксама заканчваўся працоўны дзень памочнікаў рэстаўратараў паўгода назад. А ўранку...

### Дубль пяты
### «НЕ ВЕР ВАЧАМ СВАІМ»

Маляўнічы бераг Дзвіны. Тут размясціўся са сваім мальбертам яшчэ адзін віцебскі старажыл, гісторык, мастак-аматар Валянцін Карлавіч Зейлерт. Рэжысёр падыходзіць да мальберта, моўчкі глядзіць на палатно і праз хвіліну здзіўлена ўсклікае:

— Валянцін Карлавіч, а што гэта вы малюеце?

— Як гэта што, помнік архітэктуры XVIII стагоддзя Успенскі сабор,— урачыста вымаўляе Валянцін Карлавіч, спакойна працягваючы маляваць.

— Дык ён жа ўжо некалькі дзесяткаў год не існуе! — узрушана крычыць рэжысёр.

— Ну дык што, што не існуе. Існаваў. А я вось цяпер малюю.

— Існава-а-ў...— уздыхае рэжысёр, патроху супакойваючыся.

Буйна: рэшткі былой Благавешчанскай царквы XII стагоддзя. На адным з камянёў — манекен, прамяніста-тупая фізіяномія яго звернута да шыльды, на якой даводзіцца, што ніякія гэта не руіны, а помнікі архітэктуры.

Заўвага: узарваны зімою 1961 года, аб'яўлены помнікам зімою 1962 года.

— Ды ці мала чаго ў гэтым горадзе існавала...— дадае задумліва.

Гістарычная даведка: Віцебску — 1013 гадоў. Шмат перажыў за гэты немалы гістарычны тэрмін горад: міжусобіцы сваіх і прышлых князёў і ваяводаў... Воіны яго храбра змагаліся з прыгнятальнікамі пад кіраўніцтвам Аляксандра Неўскага ў 1245 годзе, удзельнічалі ў 1410 годзе ў разгроме Тэўтонскага ордэна пад Грунвальдам. 1597 год — Віцебску дадзена магдэбургскае права. Не перагарнуць і тую старонку яго гісторыі, калі ў выніку жорсткага падаўлення паўстання віцябчан супраць уніяцкага архіепіскапа Кунцэвіча імем караля і вялікага князя Жыгімонта Вазы было прысуджана да пакарання смерцю праз адсячэнне галавы каля ста жыхароў горада. Віцебск пазбавілі магдэбургскага права, у званоў, што білі ў набат, вырвалі «языкі» і пераплавілі званы ў адзін, на якім напісалі гісторыю «злачынства»,— сведчаць гістарычныя летапісы.

Валянцін Карлавіч Зейлерт адрываецца ад свайго мальберта, уважліва глядзіць на рэжысёра.

Аператар: — Ды вы малюйце, малюйце...

### Дубль шосты і заключны
### ТЭЛЕФОНАГРАМА

За сталом паўпадвальнага часовага (на працягу ўжо сямі гадоў) памяшкання Віцебскага абласнога краязнаўчага музея сядзіць старшыня клуба «Узгор'е» Ігар Цішкін з тэлефоннай трубкай у руках.

— Наталля Іванаўна? (гэта значыць, я.— Заўвага аўт.) У нас усё ў парадку! Пакроўку вычысцілі, прыступаем да кляштара Барбары.

— А як з музеем, рамонт скончаны?

— Абяцаюць!

— А дом на Талстога яшчэ не знеслі?

— Не, толькі кованы балкон укралі. Але абяцаюць знайсці.

— А што, памяшканне для вашага клуба выдзелілі?

— Абяцаюць.

— А звяроў з было гімназіі вывезлі?

— Абяцаюць!

— А ці будуць Благавешчанку рэстаўрыраваць?

— Абяцаюць!.. Так што ў нас, як бачыце, усё ў парадку..

— Ну і дзякуй богу.

## ПРЫЧОСКІ



Зняты цяжкія зімовыя строі, пасвяжэў гардэроб. Самая пара падумаць і пра тое, як давесці да ладу, а магчыма і абнавіць сваю прычоску. Паход у цырульню заўсёды падымае настрой і жыццёвы тонус. Да таго ж за зіму цырульнікі-мадэльеры неадменна прыдумалі што-небудзь новае. Пра маладзёжную моду ў прычосках я папрасіла расказаць мастака-мадэльера Лілію Уладзіміраўну Балюнову.

— Пад уплывам разнастайных стыляў маладзёжная мода стварыла свой авангардны напрамак, яна смелая, раскаваная. Галоўная рыса сучаснай маладзёжнай прычоскі — экстравагантнасць. Мастакі прапануюць прычоскі ў выглядзе шара, шлема ці грыба з высока падстрыжанай патыліцаю. Спалучэнне кароткай патыліцы з падоўжанымі верхнімі пасмамі стварае кантраст па форме, двухслойнасць прычоскі. Такія стрыжкі добра гарманіруюць з вострамоднай адзежаю.

Апроч таго, у мужчынскіх стрыжках прысутнічае і падоўжаны сілуэт: кароткія валасы на цемяннрй зоне і падоўжаныя на патыліцы. Валасы могуць быць трохі адцененыя — рэзкі кантраст ужо не ў модзе.

У жаночых прычосках стрыжкі ствараюцца па-ранейшаму на аснове прастрыжанага, але трохі больш мадэрнізаванага карэ. Валасы коратка прастрыгаюцца на макаўцы, скронях, цемяннной зоне. Асноўны аб'ём — на ніжняй патылічнай зоне.

Спартыўныя стрыжкі сталі больш жаноцкія, у залежнасці ад афармлення яны могуць быць строгія, элегантныя, нязмушаныя.

Характэрная асаблівасць сённяшняй моды — ужыванне недарагіх пастыжорных вырабаў з сінтэтычнага валакна ў выглядзе грыўкі, хваста, пучка, касы, заколкі, што дае магчымасць змяняць штодзённую прычоску, уносіць ў яе прыемную разнастайнасць. Асноўная аздоба для валасоў — розныя банты.

Таццяна ЧАРНЯЎСКАЯ

## ТРАПНЫ СТРАЛОК

Тэкст Уладзіміра Цвяткова
Выкананне Аляксандра Каршакевіча

Карабель „Аракс" вызваляў межы Сонечнай сістэмы ад састарэлых станцый, старых ракет, адходаў атамнай вытворчасці.






































































Гэта былі прадстаўнікі 115-ці цывілізацый сістэмы „Дружба". Праз тры гады Зямля ўвайшла ў яе склад. Больш за ўсіх радаваўся гэтаму Мансі-трапны стралок.

**Цана 25 кап.**
**Індэкс 74824**